# ПОЛЫМЯ РЭВАЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА
І МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ
І КРЫТЫКІ

ОРГАН АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТУ
САЮЗУ САВЕЦКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ Б. С. С. Р.



КНІГА ТРЭЦЯЯ



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ЛіМ.
МЕНСК 1932

# З КНІГІ „РАКА МІСІСІПІ“

Юлі Таўбін

## Праклён

1

Вушка мікрафонава
слухае
настарожана,
ловячы прагна кожны пошчак,
каб рэпрадуктары
разьнесьлі яго ўстрывожана
па залях,
вагзалах
і плошчах.

Што гэта?
Канцэрт?
Актор клясычнай драмы?
Як ён верашчыць—
аж халадзее кроў!
„...Радыё-станцыя Алабамы...
...Паляць на агнішчы
жывога Джыма-Кроў“ [1])
— Га-аа!..
Ступні ног маіх—спапялелыя
Га-аа!..
Але я крычу ў мікрафон,
я жыву!..
Але я праклінаю вас, белыя,
праклінаю вас, белыя,
Тысячы праклёнаў
на вашу галаву!..
Выстраліце
маім попелам
з гарматы:

---

Джым-Кроў—пудзіла, так у Амэрыцы называюць нэграў.

дзе ён упадзе—
там узьнімецца гнеў...
А! Ты заціскаеш вушы,
радыё-аматар.
Слухай мяне,
слухай,
пакуль я не згарэў...

Га-а!..
Калені ног маіх—
спапялелыя!
Га-а!..
Але я жыву яшчэ і магу раўсьці
І магу праклінаць вас, белыя,
магу праклінаць вас, белыя...
О-о-о...
Адпусьцеце мяне,
я буду паўзьці...

О-о!..
Чаму я ня леў, ня тыгра, ня пума...
Я праклінаю вас...
Полымя!..
Вочы!..
Кроў...
„Лэдзі і джэнтльмэны!
Наступны нумар
Сьпевы міс Элёізы Гроў“.

Дыктараў голас
цьвёрды
і самаздаволены.
У яго не перасохла
ў горле...
Міс Элёіза
запявае квола і павольна:
— „О,
май
лі-тл
гёрл...“

— „О, дзеўчынка
мая
малая
Са штату
Канэктыкут...
Ты дарэмна
мяне лаеш—
Я даўно ўжо тут“.

Раз...
    два...
        раз...
Джаз!

Бі
  ў бубен,
        мулат,
Даланямі пляшчы—
Сягоньня
        твой родны брат
Згарэў на пляцы.

— „Я вазьму цябе,
                мая каханка.
Да сябе
    дамоў.
Там ёсьць утульная
                альтанка
каля трох дубоў“...
    Раз...
        два...
            раз..
Джаз
    — „О, дзеўчынка
                мая малая,
    У палатняным
                плашчы...“
Бі
  ў бубен,
        мулат,
Даланямі
    пляшчы...

2

Па выступах Калёрада
падымаецца
        горны троп.
Два рыцары,
        два алькада
пускаюць коні ў галёп.

Два рыцары,
        два рамантыкі
з арканамі на плячох.

Два хлопчыкі
куклукс-кланчыкі
ў каўбойскіх капялюшох.

---

На Рыю-Грандэ-дэль-Порто
яны злазяць
напіцца вады.
Мулат з мэксыканскім хортам
Абнюхвае іх сьляды.

„Жменька попелу ў маёй кішэні,
сабраная на пляцы...
Я вас бачу, мае мішэні,
паліцэйскія малайцы...“

---

На вышцы сьвятое Блянкі
кладуцца хлапцы на сон...
Як імя першай каханкі,
паўтарае мулат
праклён.

Два хлопцы
сядзяць, вістуючы,
Даляры кладуць на кон,
адзін аднаго частуючы
абсэнтам ды каньяком.

---

На выступах Калёрада
хістаецца іх салаш.
Мулат
што іграў на радыё,
выцягвае патранташ.

Ён мацае жменьку попелу,
ён цэліцца на касьцёр...
Два стрэлы
разьнесла ўпоперак
суровае
рэха
гор.

Менск—Мсьціслаў
11, 12—V—3, 4—VI 1932 г.

## Каляндар

Кагадзе кангрэс штату Георгія (ЗШПА) адмовіў мясцовым муніцыпалітэтам у праве адчыняць грамадзкія бібліятэкі. Дакладчык камісіі кангрэсу даў наступную матывіроўку

1

„Я накладаю вэто—
Праэкт гэты—глупства кштаАт.
У мерапрыемствах асьветы
патрэбы ня мае штат.
Кнігі разводзяць прэкі—
нам досыць вячэрніх газэт.
Грамадзкія бібліятэкі
падарвуць наш аўтарытэт.

З усёй неабсяжнай крыгі
надрукаваных папер
Я ўхваляю тры кнігі,
карысныя нам цяпер:

І першая—
гэта Біблія,
вялікі божы закон,—
Продкі нашы любілі
чытаць яе
на сон.

Узор дабрачыннасьці
ставіць
Яна перад нам скрозь
і як
нажыць капіталец
Таксама
ў Бібліі—
ёсьць.

Гэтая кніга—
першаю
павінна быць пад рукой,
а ўсе романы і вершы
парушаюць
грамадзкі спакой.

Другая,
вядомая шырака,—
Я разумею Псалтыр--

дае нам узоры лірыкі,
якіх
не дасяг Шэксьпір.

Складаў яе
цар Юдзеі
Давід,
вялікі сьпявак:
яго дастойныя дзеі—
агульнавядомы факт.

Гэта—
кніга другая,
Што доляра варты радок,
а кахальныя
мадрыгалы—
спакуса цнатлівых жанок.

Варта набыць для хаты
і трэцюю—
каляндар.
Кожны
з паноў-дэлегатаў,
Мабыць,
яго праглядаў.

Мала таго, што газорыць
пра цэны на розны тавар,—
Прадказвае нам
надвор'е
Настольны каляндар.

Псалтыр, Каляндар і Біблія,—
і болей ня трэба кніг.
Псалтыр, Каляндар і Біблія—
усё карыснае з іх.

Псалтыр, Каляндар і Біблія
і дзецям—
лемантары,
а іншыя ўсе—
рабілі
бязбожнікі і бунтары!"

2

Дакладчык зьбірае тэкі.
Плешча яму кангрэс.
Справа пра бібліятэкі
пакладзена пад прэс.

Гарластыя радыё-трубы
паўтарылі яго акцэнт,—
Прамову пачуў рабочы,
Профэсар і прэзыдэнт.
к
І першы с азаў:
„Мой любы!
Разумны наш
правадыр.
Кладзі на паліцу
зубы,—
Сядай
і сьпявай Псалыр!..“
т
Другі пахіліўся зморана,
схапіўся за валасы—
— „Дажыць
да *такога* сораму!..
Пабачыць
*такія*
часы!..“

А трэці
ўсьміхнуўся шырака
і весела прасьвістаў:
— „Магчыма,
занадта шчыра,
Але...
Не без падстаў!..“

3

Бацьком-урадоўцам
Штату
Слава
на век вякоў!
Няхай жывуць
дэлегаты
Фабрыкантаў
і кулакоў!

Дакладчык, містэр Ікс,
паслухайце мяне—
вы вечна зялёны, як фікус,
вам кнігі трызьняцца ў сьне.

Ніяк не паможам гору—
кладзіся ў пасьцель і дрыжы:
яны падымаюцца ўгору—
бунтарскія тыражы.

Адсьпеваны вашы Псальмы,
Забыты
стары байкар.
І вы ўжо адчулі самі,
як хлусіць ваш каляндар.

А наш вам гаворыць:
— Восень.
Бяжы, захапі парасон.
І куля цябе падкосіць,
пасланая наўздагон.

Прыходзіць месяц Кастрычнік,
Апалі твае лісты.
І дні твае пералічаны,
І зьняты твае пасты.

Чакай
благога надвор'іца.
Суровым будзе прыліў.
Такога тады натворыцца,
Што ўвек ты не сасьніў.

Дажджы бяз прыпынку льлюцца,
Вятры
Рвуць лісты па капе
Выростае рэвалюцыя
Рыхтуецца АКП.

Глядзі, зьбіраюцца крыгі.
Рэжа маланка
галовы хмар.
Буры
і зямляўздрыгі
Прадказвае
наш каляндар.

8-V 1932 г.
Мсьціслаў.

# МЯДЗЬВЕДЗІЧЫ

*(Раман)*

**Крапіва**

## КНІГА ПЕРШАЯ

*(Працяг)*

### Андрэяў Козыр

Начальства з раёну, пра якое гаварыў Алесь, што яно прыедзе наконт пасёлкаў, сапраўды такі прыехала, можа з тыдзень пачакаўшы, пасьля таго, як пакралі коні.

За гэты час ясныя звонкія дні «бабінага лета» з невялікімі прымаразкамі па раніцах і срэбнымі ніткамі павуціньня пасьпелі зьмяніцца на хмарыя і дажджлівыя. Дождж драбнюткі, але спорны, нібы праз падсітак, цярушыў з каламутнага неба запар праз цэлыя дні. Мядзьведзіцкая вуліца, бліскучая, чорная і гразкая, разьмешаная сьвінымі, гавяджымі і конскімі капытамі ды чалавечымі нагамі, з дзьвюма глыбокімі каляінамі пасярэдзіне ад аднаго канца да другога ляжала, выцягнуўшыся, ва ўсёй сваёй прыгожасьці. Здавалася, што пасьля летняй сьпёкі і пылу, яна вельмі добра адчувае сябе пад халодным душам асеньняга дажджу.

Член сельсавету Ганскі, у ботах заляпаных гразёю па самыя вушкі халяў, пераходзіць па падвоканьню ад хаты да хаты, стукае кожнаму канцом гарэхавай палкі ў раму.

— На сход у школку.

Часамі дадае:

— З раёну прыехалі.

Гэта калі праз вакно з хаты пыталіся:

— А што там за сход будзе?

Гэта «з раёну прыехалі» павінна было само сабою азначаць, што сход будзе важны і цікавы.

Але большасьць ужо ведала і пра тое, што будзе сход, і пра тое, што прыехалі з раёну. Бачылі, як каля Ганскага спынілася хурманка, на якой сядзеў у кепцы і ў чорным падношаным паліце даўганосы і гарбаносы чалавек з сьветлаю рудаватаю, клінаватаю барodкаю, ад чаго яго і так даўгі твар здаваўся яшчэ даўжэйшым; як у накіненым на шапкі палітоне вышаў з хаты Ганскі і падаў руку даўганосаму; як, пагаварыўшы хвіліну, ён ускочыў на білу і яны паехалі аж на другі канец вёскі да Каржакевіча.

— Ну там знойдзецца месца, дзе каня паставіць. Дый чалавека калі прыдзецца пакарміць, дык нішчымнай бульбы не падсуне,—растлумачыў сабе гэта стары Верамейчык.

Загадваў Ганскі яшчэ завідна, а зьбірацца пачалі на сход, калі ўжо добра зьмерклася і пастаяла.

Ішлі Мядзьведзіцкія па адным, па два, хапаючыся за шулы і штыкеты, намацваючы нагамі каменьні, углядаючыся ў пратоптаныя сьляды, выбіраючы, дзе сьвятлейшая, сушэйшая лапінка, і траплялі значэўку ў самую сярэдзіну лужыны, ад чаго пырскі імпэтна разьляталіся ва ўсе бакі, як аскепкі ад разрыву знараду. Добра, калі гэта быў бот і зусім ня цікавае становішча было лапця, які, жахнуўшыся, аж па самыя вушкі акунаўся ў халодную лужыну. Некаторыя шкадавалі абутку і, закасаўшы калошы, ці падаткнуўшы падол, адважна мясілі босымі нагамі ледзь не на сярэдзіне вуліцы.

У школе ўсе лаўкі былі ўжо заняты. Некаторыя з маладзейшых сядзелі на падаконьніках, а два паджылых мужчыны прымасьціліся ў кутку проста на падлозе Адзін нагнуўся ў другога прыкурыць і ня мог за сьмехам. Сьмяяўся ўвесь гэты кут. І па тым, як Сьцяпан Варанец лагодна пыхкае, прытоптваючы ногцем тутунь у люльцы, і як ён самаздаволена плюнуў на падлогу, можна было пазнаць, што гэта ён толькі што скончыў расказваць пра адно з сваіх нязьлічоных здарэньняў.

У другім кутку скупілася чародка жанчын і чутны адтуль іх тонкія галасы і сьмех. Аўдоля сядзіць на канцы лаўкі і, як ад тае заядзі, бойка адсякаецца ад мужчынскіх жартаў. З-за яе пляча відаць бялявы ўсьмешлівы твар Зосі. Яна падмацоўвае вясёлым сьмехам кожны ўдалы Аўдолін адпор.

З боку ля Зосі, апёршыся ёй на плячыко, стаяла Шура, камсамолка, дачка Рыгора Варанца. Яна ня зусім ёмка адчувае сябе сярод кабет, сьмяялася стрымана, занадта вольныя жарты пускала міма вушэй, бытцам ня чула, і толькі лёгкая чырвань на шчаках паказвала, што яна саромеецца і ёй гэта няпрыемна.

А ў дзьвярах, пераступіўшы парог, спыняліся ўсё новыя постаці. Праз сінюю заслону тытунёвага дыму яны стараліся выглядзець выгодную мясьціну, дзе-б можна было атаўбавацца на цэлы вечар.

Нарэшце ўвайшлі Ганскі, Каржакевіч і даўганосы з раёну З стала, як спужаныя вераб'і, спырхнула трое хлапцоў—падлёткаў. Стары дзяцька павольна ўстаў з крэсла і адышоўся да вакна, даючы месца начальству.

— Дык мы сёньня будзем гаварыць пра адно толькі, пра землеўпарадкаваньне,—абвясьціў парадак дню Ганскі.—Скажа нам пра гэта загадчык зямельнага аддзелу таварыш Рахлюк.

Рахлюк устаў, чмыхнуў разоў са два носам.

Яго голас нізкі і глухаваты зразу шмат каму не спадабаўся. Пачаў ён здалёк, як кажуць, ад Адама, гаварыў вельмі агульнымі фразамі, устаўляючы шмат незразумелых слоў, глытаючы іх канцы. Стваралася ўражаньне ў некаторых, што ня ўмее ці ня хоча чалавек гаварыць выразна і проста, што хоча ён нешта затуманіць, што можа за гэтымі незразумелымі словамі якое ашуканства хаваецца, а таму самае лепшае—не згаджацца з ім, ня слухаць, што ён гаворыць. Тая ўвага і зацікаўленасьць, якімі былі сустрэнуты першыя словы дакладчыка, чалавека сьвежага і «начальства», паступова пагасьлі.

Зашастала папера, завіліся сінія дымкі цыгарак, дзе-ня-дзе крадкам пачалася ціхая суседзкая гутарка.

Але пад канец прамовы—вось яно сваё роднае: палоскі вузенькія страшэнна параскіданы далёка ад вёскі. На іншую палоску ня больш, як два вазы гною за дзень можна завезьці. На пераезды з аднае палоскі на другую траціцца палова рабочага часу. Даўганосы гаварыў усім вядомую праўду вясковай цераспалосіцы, шматпалосіцы і малазямельля, але сход раптам ажывіўся.

Чакалі, што ён зараз дасьць лякарства на гэту больку ці прынамсі раскажа, дзе і як яго дастаць. Як зрабіць, каб палоса была шырокая, каб зямля добра радзіла, каб працы было менш, а хлеба больш.

І лякарства зараз было прыпісана. Рахлюк даваў яго поўную дозу, цэдзячы па каплі на вачох у ўсіх. Каплі мяняюцца, каплі гарадь рознымі колерамі, мікстура робіцца з такім разьлікам, каб яна памагла хвораму ўжо адным сваім выглядам.

Але, па тым, як Рахлюк без запінкі прыпісвае гэты рацэпт, відаць, што лякарства гэта загадзе ў яго падрыхтавана, што ён і ня думае выявіць дакладна, чым-жа хварэе вось гэты канкрэтны пацыент. Па яго думцы ўсе хварэюць на адну хваробу і ён усе сілы прыложыць, каб даць хвораму якраз гэта лякарства і чаго-б гэта ні каштавала. Ня першы раз яму праводзіць сходы па земляўпарадкаваньню і рэдка дзе ня выходзіла так, як ён хацеў. Не на хутары, дык на пасёлкі, не на пасёлкі, дык на хутары—не задумліваючыся асабліва пра тое асноўнае, для чаго гэта робіцца. «Няхай думае той, хто загады піша, а наша справа—выканаць».

— У вёсцы не павінна быць сто пяцьдзесят двароў, як у Мядзьведзічах. Да такой вёскі цалкам падыходзіць прыказка: «Вялік пень, ды дурань». Трэба гэту вёску першатрэсьці так, каб атрэсьці з яе ўсю дапатопную адсталасьць, усе дзедаўскія звычаі апрацоўкі зямлі. Трэба з такой вёскі зрабіць некалькі пасёлкаў, мо' дваццаць, мо' трыццаць—каб у кожным было пяць, шэсьць двароў—ня больш. А тагды—уся зямля табе ў адным месцы ў дзьвёх ці трох палосках, сенакос—тут жа пад бокам. На полі ты—хочаш, сееш канюшыну, хочаш, садзіш буракі, ніхто табе не перашкаджае, ня скажа: тут папар, ня маеш права. Ніхто ня стравіць, ніхто ня стопча; гной калі вазіць—за дзень за два дык і ўправіўся, вядома-ж каля хаты. Зямля ўся ўгнойваецца аднамерна, ураджай павялічваецца ўдвайне. Шматпольле можна завезьці, зямлю разьбіць не на тры палеткі, а на сем ці нават на дванаццаць, каб ня прыходзіўся корань на корань. Ураджай ад гэтага павялічваецца яшчэ ўдвайне.

У Алеся Галаскока гараць вочы. Ён сядзіць на пярэдняй лаўцы і, ня мігаючы, глядзіць у рот дакладчыку. Пра сваё калішняе дэзэртырства ён ужо даўно забыўся, і зрабіўся заўзятым прыхільнікам усяго новага. Хапаўся ён за ўсякую навіну, ня прымераўшы яе да сябе, да жыцьця і ўмоў свае вёскі і хацелася яму зрабіць гэта новае зараз-жа, на гэтым самым месцы. Затое, калі на зьмену гэтаму новаму зьяўлялася другое, ён таксама раптоўна адракаўся ад гэтага і хапаўся за тое, хоць бы сабе й процілеглае нават, не заўважаючы свае такой непасьлядоўнасьці. Цяпер ён гатоў быў брацца за пасёлкі сёньня-ж, нават не кладучыся спаць.

Даўганосы скончыў сваю прамову, сеў і выцер хустачкаю лысіну. «Па-

вінна выйсьці нешта. Падрэшт, здаецца, я ўзяў такі за жывое»,—думаў ён, аглядаючы з-пад рукі бліжэйшыя твары.

З кута ў кут, як лёгкі ветрык па траве, прабегла па натоўпе ціхая гамонка. Хвіліна чаканьня—хто першы пачне.

— А як прырэзка, будзе якая ці не?—першае нясьмелае запытаньне. За ім пасыпалася, як з меха:

— А ці дадуць лесу забудавацца?

— Каморніка казна будзе аплачваць?

— І карміць жа яго, мусіць, прыдзецца?

— Начорта яго карміць. Ты адно давай-спраўляўся, ён і сам будзе есьці. (Гэта недзе ў задніх радох).

Адказы на запытаньне ў Рахлюка былі гатовыя, якія ён мо' сотню разоў даваў на іншых такіх сходах. Але яны далёка ня ўсіх задаволілі. Асабліва не спадабалася малазямельным, калі Рахлюк сказаў, што прырэзаць зямлі няма адкуль.

— А ў Жагулы хіба-ж ня можна абрэзаць? Гэткі, пане ты мой, майдан!

— Добрая норма! Чорт яе там мераў яго норму. Панам-дзела жыве, а ты тут гніся на гэтым шнурку.

— На ліха нам тагды й пасёлкі гэтыя.

— Пакуль ад гэтых пасёлкаў дабра прычакаем, дык і духі выматаюць.

«Ня пойдуць, сукіны сыны»,—вылаяўся ў думках Рахлюк.

Гаварылі шмат і горача, як рэдка на якім сходзе.

Першым усхапіўся з свайго месца Алесь. Ён, як сапраўдны прамоўца, вышаў да стала і нават абапёрся аб яго абедзьвюма рукамі. Голас яго быў урачыста-ўзьняты, якім з сялян ніхто не гаварыў і таму рабіў ураджаньне ня тое, якое хацеў зрабіць Алесь. На некаторых тварах паказалася нават усьмешка. Гэта яшчэ больш яго раззлавала і яго кузьма-кручкоўскі чуб яшчэ драбней і энэргічней затросься ў такт прамовы. За пасёлкі ён нічога новага не сказаў, апрача таго, што было ўжо сказана даўганосым, затое вельмі энэргічна нападаў на тых, хто не разумее карысьці ад пасёлкаў.

— Ім жуюць і ў рот кладуць, а яны морды адварочваюць. Самі ў балоце сядзяць і другога за ногі трымаюць, каб ён адтуль ня выцерабіўся. У іх адна гаворка: бацька, дзед так жыў, дык і я пражыву. А таго не падумаюць, што дзед горш скаціны жыў, дый сам ён каторы недалёка адскочыў...

Дзед Крываношка, якога надоечы ўспамінаў Сьцяпан Варанец, што ў яго некалі каня ўкралі, які дагэтуль сядзеў нярухома і драмаў апёршыся аб палку-крывулю, цяпер раптам заварушыўся. Яго мусіць раздражняла Алесева размахваньне перад самым яго носам, ці можа да сьвядомасьці яго дайшла капля сэнсу з нападу Алеся на старыя парадкі, толькі ён утаропіў ашклянелыя свае вочы ў твар Алесю і яго белая, пажоўклая на канцох, барада падалася наперад і аж задралася ўгору:

— Чаго ты тут размахаўся? Чаго ты скачаш, як чорт на дроце! Пасё-ёлкі, пасё-ёлкі... Які цябе сабака трымае?

— Каб я быў сам гаспадаром, дык першы-б пашоў, ні на кога-б не паглядзеў.

— Дык чаго-ж ты тут падбрэхваеш, калі не гаспадар? Пашоў ляж!— Дзед застукаў палкай аб падлогу.

— Сам ты, дзед, ішоў бы на печ. Зьдзяцінеў ужо на старасьць,— агрызнуўся Алесь, раззлаваны, што дзед зьбіў яго з тону прамовы.

Ен больш не гаварыў; сеў чырвоны і насуплены на сваё месца і паволі астываў ад узбуджэньня, як кавалак жалеза, выняты з горна.

А дзед пажаваў сярдзіта бяззубымі сківіцамі і зноў нарыхтаваўся задрамаць, апёршыся на палку.

Юзік пісаў пратакол, стараўся занатаваць сэнс кожнай прамовы і дзівіўся, што так па-рознаму глядзяць людзі на гэту, здавалася яму, ясную справу. Выказваліся найчасьцей выразна: за пасёлкі ці супроць іх, але прычын гэтых «за» і «супроць» было вельмі шмат і ў кожнага свая. Кожны меркаваў, як гэта яму будзе—лепш ці горш, лягчэй ці цяжэй. І тут Юзік пачаў пераконвацца, што справа гэта сапраўды не такая простая, як яму раней здавалася. Яму ў мазгі проці яго волі западалі чужыя думкі і словы, і зацямнялі, каламуцілі яго ясны погляд на гэту справу. Ён глядзіць, як сярдзіты, пануры твар Рыгора Варанца зрабіўся яшчэ больш пануры ад таго, што ён пачаў гаварыць. Рыгор не глядзіць на прэзыдыум і вусны яго крывяцца трохі на правы бок. Словы Рыгоравы скупыя і важкімі гірамі падаюць на Юзікаву ясную думку.

— ... Зямля ў месца зьбярэцца. Добра, у каго ёсьць што зьбіраць. Зьбярэ Андрэй або Ціхон, дык там знак будзе...

Юзік неўзаметку пераскочыў думкамі на сваю гаспадарку—будзе знак ці не, калі ён зямлю зьбярэ.

— Вось таварыш кажа, можна гуртавацца, хто з кім хоча. Але-ж Ціхон са мною гуртавацца не захоча, ён знойдзе сабе сябра,—адважвае слова за словам Рыгор.—Мне прыдзецца гуртавацца з Пятрусём, з Кухарам, з Кухарчыкам, Аўдолю да сябе запрошім—эх і пасёлак будзе!— саркастычна засьмяяўся ён.— Цяпер хоць я каня выпушчу на выган. Пад'есьць, не пад'есьць, а ў хляве карміць ня трэба. Дый пад'еў бы, каб гусі Ціхонавы так выгану не спаскудзілі...

— А ты пазатыкай маім гусям, каб яны не паскудзілі,—агрызнуўся з кута Грамабой.

— Хоць яны няхай паздыхаюць.

— Нябось не паздыхаюць, трасцу. Заўтра на кірмаш павязу.

— ... а тады: каня навяжы, карову навяжы, авечку навяжы, сьвіньню навяжы. Дый курыцу ўжо за адным махам навязвай. А дзе-ж я гэта ўсё панавязваю, калі й зямлі ў мяне, як старой бабе сесьці? Па мойму калі і разьбіваць, дык не па пяць двароў, а вёску часткі на тры, на чатыры. Слабейшыя хай на месцы застаюцца, а дужэйшым можна й пераехаць, ім лягчэй.

Рыгоравы довады, простыя і ясныя, неадчэпна лезьлі Юзіку ў галаву. І калі ён устаў гаварыць, дык раптам адчуў, што падрыхтаваныя загадзя козыры не такія моцныя, як яны здаваліся раней, што ёсьць нейкая як бы фальш у тым, што ён думае сказаць.

— Здурнеў Юзік твой,—са злосьцю кінула Аўдоля Зосі.—Але дзе-ж, свая кашуля бліжэй к целу,—дадала яна спакайней.

Зосю гэта зьдзівіла і трохі пакрыўдзіла. Яна сама не магла разабрацца, ці добра гэта—на пасёлку, ці не, але ёй захацелася, каб якая

небудзь згода была, і прыкра было, што яе лепшая сяброўка зазлавала на Юзіка.

— Чаму ты гэтак кажаш? —спыталася яна з крыўдай у голасе.— Хіба-ж ён сабе тут што вымяркоўвае?

Але Аўдоля ёй не адказала. Яна ўстала і ўсёй сваёй высокай, хударлявай постацьцю падалася ў бок прэзыдыуму.

— Таварыш, братка ты мой! Хочаш злуй, хочаш не, перад усімі заяўляю: на пасёлак я не пайду. Хіба ўжо сілаю перацягнуць мяне разам з хатаю. Падумай жа ты сам здаровенек: адна-ж я, чалавека ў мяне няма. Дзяўчо яшчэ тое—дванаццаты гадок. Дык хіба-ж гэта з нашаю сілаю на пасёлак перабрацца? Хатка-ж у мяне—варывенька, спарахнела ўся. Пакуль стаіць, дык ліпіць, а крані ты яе, дык і рассыплецца ўся. Хоць бы й далі лесу, дык хіба-ж я яго маею бабскаю сілаю высеку ды вывезу. Альбо гэта будынак я перавязу ды злажу? Усё-ж людзей трэба наймаць. А ты-ж мяне зарэж сёньня ды скажы—дай траячку, дык я-ж табе не дам. Таварыш кажа, што для ўлады добра гэтыя пасёлкі, больш хлеба будзе. Але-ж улада наша, яна-ж за бедных, дык няхай жа яна так робіць, каб і ёй, і нам добра было.

Больш ахвотнікаў гаварыць, як бы й ня было, але Юзік бачыў, што частка сходу яшчэ нечага чакае і аглядаецца. «Хутаранцы,—падумаў Юзік.—Чакаюць, што Андрэй скажа. Як толькі той заікнецца пра хутар, дык і падхопяць разам». Пакуль што толькі адзін Васіль Крываношка выказаўся за хутар. Што Андрэй таксама будзе за хутар гаварыць, Юзік наперад ведаў. Ён сам колькі раз чуў, як Андрэй зайздросьціў Жагулу і выказваў думку, што ў вёсцы такую гаспадарку справіць яму-б не ўдалося.

Ужо два разы запытаўся Ганскі, ці ня хоча хто яшчэ гаварыць; ужо нехта зазначыў, што і так цэлу ноч прагаварылі ды ўсё дарэмна, што пара-б ужо і на бакавую, бо заўтра ня сьвята. Тагды толькі ўстаў Каржакевіч.

— Дайце я скажу пару слоў.

Нібы ён і гаварыць зусім ня зьбіраўся, ды ўжо, калі няма больш ахвотнікаў, дык можна і сказаць. Заўсёды так: сядзіць, чакае. Выслухае, хто што гаворыць, выведае, хто што думае, а тагды й падпусьціць. Мерыцца, здацца, у адну цэль, а пападае ў другую. Сёньня ён неспадзеўкі падвёў тых, хто на яго спадзяваліся. Юзік нават зьдзівіўся. Ні адным словам не ўспамянуў Андрэй пра хутар. Наогул ён сёньня пра сябе як быццам зусім ня думаў, клапаціўся толькі пра беднату.

— Гаварылася тут і за пасёлкі і на пасёлкі. Працы шмат, клопатна. Яно без працы і бяз клопату ніколі мы ня жылі, але-ж каб ад гэтага выпранка якая была. Праўду тут казалі: у каго зямлі чацьвяртачок ці яшчэ менш, дык таму ня вельмі што й сходна на пасёлкі выходзіць. Трэба тут, мужчыны, пра гэта падумаць. Нельга-ж так; калі мне добра, дык і табе добра. Трэба й слабейшым памагчы. Тут усё ў зямлю ўпіраецца. Каб, скажам, таму самаму й Рыгору яшчэ зямлі дзесяцінкі дзьве прырэзаў, дык яму можна-б было тагды і пра пасёлак думаць. А каб яшчэ добрага сенакосу з дзесяціну дадаў, то тагды й думаць няма чаго. Толькі трэба дзе ўзяць гэту зямлю.

— Ось жа пра гэта й гаворка.

Нехта гэтым хацеў сказаць, што гэта ўсе ведаюць, але як няма, то няма чаго й гаварыць.

— А зямля такая ёсьць,—у адказ на рэпліку пусьціў Каржакевіч той самы свой моцны козыр, які зрабіў гэта яго наступленьне тістарычным, прынамсі для Мядзьведзіч.

— Ёсьць такая зямля. У нас жа такі пад бокам. Але мы так да яе прывыклі, абыраліся, што нават і ня бачым, здаецца, што гэтак і трэба.

Сход прыціх у напружаным чаканьні. Нават сам даўганосы пакіраваў свой руль на Каржакэвіча.

— Гэта я кажу пра Бугайнік і Забродзьдзе. Яно-ж кругом у нашым, у мядзьведзіцкім. А па савецкіх законах цераспалосіцы не павінна быць, і ў зямельным кодэксе пра гэта пішацца. Як мы выходзім на пасёлкі, дык трэба, каб гэту зямлю і сенажаць саўгас аддаў нам, на прырэзкі беднейшым, а можа і серадняком каторым, у каго сям'я вялікая. Калі савецкая ўлада не пашкадавала раздаць парабком—дый нашы там некаторыя—такі маёнтак як Гадлеўшчына, дык яна не пашкадуе нам і гэтага куска. Трэба каб і таварыш Рахлюк памог нам у гэтым, бо так саўгас гатоў яшчэ і ўпірацца.

Цішыня зразу разрадзілася ўзбуджанай гаворкай. Ува ўсіх кутках спрачаліся, аддадуць ці не аддадуць мядзьведзіцкім Бугайнік і Забродзьдзе.

Бугайнік—кусок самай лепшай зямлі, а пры ёй, упіраючыся адным сваім краем у рэфку Брадзянку, лёг ладны кавалак заліўной сенажаці. Некалі пан Гняцецкі, адпускаючы сваіх сялян на «волю», пашкадаваў аддаць ім гэты кусок, пакінуў яго за сабою, у сярэдзіне мадзьведзіцкай зямлі. Так яно і засталося за саўгасам, калі стары пан, сын таго, што на «волю» адпускаў, адубеў перад самай рэвалюцыяй, а малады Гняцеччык падаўся да Варшавы разам з легіёнамі.

Настрой выразна стаў пераламляцца за пасёлкі, вельмі ўжо ласы кусочак паказаў Каржакевіч.

Даўганосы пра сваю дапамогу ў гэтай справе дыплёматычна змоўчаў, параіў толькі раней пагаварыць наконт гэтага з самім саўгасам.

Калі пачалі галасаваць, дык супроць пасёлкаў паднялося рашуча толькі рук дзесятак, але й за пасёлкі можа на рук пяць толькі больш. Відавочна, што з такой невялікай большасьцю перавесьці вёску на пасёлкі нельга было, для гэтага патрэбна была згода прынамсі большай паловы гаспадароў.

Ганскі, перагаласаваўшы яшчэ раз, аж зазлаваў нарэшце:

— Што-ж вы, як маленькія: ні за тое, ні за гэта. Ня ведаеце, чаго вы хочаце.

— Не такая справа, каб налапам рабіць яе. Тут трэба падумаць ды памеркаваць,—адказалі яму.

— Мусіць, з жонкаю параіцца?—пакпіў Галаскок.

— А хоць бы і з жонкаю. Ты ня будзеш раіцца, бо ў цябе няма.

Памеркаваўшы сход згадзіўся, што сапраўды трэба даць людзям падумаць і выбраў двух чалавек, Юзіка і Алеся Галаскока, як маладзейшых і пісьменных, каб яны праз дні два прайшлі па ўсёй вёсцы і сабралі подпісы, хто хоча выйсьці на пасёлкі.

* * *

«Дастойна ёсьць якава ісьціну блажыціцу багародзіцу прыс на блажэнную і пры непарочную»...—перакручвае стары Верамейчык незразумелыя яму славянскія словы, молячыся перад сном.

Юзік слухае яго моцны шэпт і крыўдна яму за бацьку і за недарэчнасьць яго малітвы.

Вось ужо пяцьдзесят год рана і вечар гаворыць ён, як аўтомат, тэтыя незразумелыя яму словы і ўпэўнен, што «Ён там, на небе» разьбярэцца, што тут да чаго, і зробіць якраз так, як патрэбна мядзьведзіцкаму Кастусю Верамейчыку: каб дождж праходзіў—у меру і ў пару, каб кабыла шчасьліва выжарабілася, каб сусед яго ў рабоце не абагнаў, каб на старасьці з торбаю па падвоканьню не валачыцца ды памерці спакойна ў сваёй хаце ды на сваёй лаве.

— Ці не сказаў ты чаго дрэннага сёньня? Нешта Аўдоля аж зазлавала была, казала, што і ты здурнеў. Гэта яна за пасёлкі мусіць,— шэпча Зося на вуха Юзіку.

— Дурная. Я-ж калі казаў, дык пра ўсіх думаў, а ня толькі пра сябе. А яна злуе, невядома чаго.

— Яна яшчэ сказала, што табе свая кашуля бліжэй к целу. Але я ведаю, што гэта няпраўда. Цяжка ёй, беднай ды адзінокай. Толькі яна ганарлівая, нікому не пажаліцца і ласкі прасіць ня любіць. А тут яшчэ пасёлкі гэтыя. Вось і падшыбае злосьць, што ня сіла яе, што ня можа з людзьмі справіцца. На сваю ўдаўную долю злуе, а разам і на тых, хто не ў яе руку гаворыць,—растлумачыла Зося па-свойму.— А ты-ж не з такіх, што пра сябе толькі думаеш. Бацька-ж твой заўсёды цябе ўпікае; што ты ўсё пра некага клапоцішся, а на сябе забываешся, што ў гаспадарку мала дбаеш. Дый ваяваў жа ты хіба за сябе толькі? Калі хто ня ведае ці забыўся пра гэта, дык вось у цябе й сьведка ёсьць.—Яна закасала рукаў яго кашулі, намацала вышэй локця рубец ад кулі і дакранулася губамі.—Дык хіба-ж ты можаш цяпер ісьці разам з тымі, хто хоча крыўдзіць бедных?

Ён пагладзіў яе рукой па валосах.

— Што ты так загарнілася. Не набірай сабе ў галаву. Мала што яна сказала. Яна-ж твая сяброўка, дык па шчырасьці табе пад гарачую руку так сказала. Бач гэта ўся справа з пасёлкамі, гэта ня тое, што як на далоні. Тут трэба з усіх бакоў абмеркаваць. Можа й я што ня так сказаў. Сьпі і ня думай пра гэта.

Яна, расчуленая і супакоеная, прытулілася да яго пляча і сьцішылася.

Юзік ляжаў дагары і глядзеў у цемнату расплюшчанымі вачыма. Твары і словы сягоньняшняга сходу ўставалі перад ім яскрава, як у сапраўднасьці, і пераблыталіся з успамінамі аб мінулым, такім непадобным да цяперашняга, аб вайне, аб баявых таварышох і нечалавечых пераможаных цяжкасьцяй, якія цяпер самому здаваліся эпізодамі з нейкай дзіўнай казкі. Ён намагаўся знайсьці падабенства таго, мінулага з цяперашнім і ня мог. Там было страшней, але ясьней і прасьцей. Вораг—вось ён: ты ведаеш, хто ён такі, чаго ён хоча, і што ён будзе рабіць. Пры сустрэчы ў цябе з ім няма іншай мэты, як толькі зьнішчыць

адзін аднаго. І таму радуецца сэрца, калі бухаюць нашы гарматы і цераз голавы з страшэнным скогатам абурэньня, нібы й яны поўны клясавай ненавісьці, пралятаюць нашы знарады і там, дзе на гладкай раўніне стэпу мітусяцца іх шэрыя малюсенькія постаці ўзьлятаюць ледзь не пад самыя хмары слупы перамешанай з агнём зямлі; калі зататакаюць навыперадкі нашы кулямёты і ломаныя шнуры шэрых маленькіх постацяй, якія прыкметна набліжаліся і падрасталі, раптам прылiпаюць да зямлі, а потым усхопліваюцца па аднэй ужо, хуценька і дробна перабіраюць малюсенькімі ножкамі і зноў раптам прылiпаюць да зямлі, можа з тым, каб больш ніколі ад яе не ададрацца. Тагды падшыбае вясёлы задзёр гульні са сьмерцю, тагды забываешся, што яна зумкае ў цябе над самым вухам, як рой нябачных раздражненых пчол, тагды моцна прыціскаеш да пляча прыклад, садзіш на мушку малюсенькія мітусьлівыя постаці і пускаеш кулю за куляй, аж пакуль ня ўзмые і не пакоціцца насустрач ворагу, насустрач перамозе ці сьмерці, чалавечая хваля. Мурашкі тагды пабягуць па целе і падхоплены гэтай хваляй, не адчуваеш нагамі шпаркасьці і цяжкасьці бегу па ральлі. Рукі моцна сьціскаюць прыклад і з разяўленага насьцеж рота вырываецца нескансчоны гул, настрывана жудасны для тых, да каго ён набліжаецца...

Зусім ня тое цяпер, калі і сам, часамі, ашаломішся і заблытаешся паміж двума варожымі лягерамі, або зусім зьнянацку трапіш у той лягер, супроць якога мерыўся ваяваць. Вось і сёньня гаварыў на сходзе, і здавалася, што хоча, каб усім добра было, а вышла так, што ўсё-ж такі ён ідзе разам з Каржакевічам, а Аўдоля і Рыгор Варанец—супроць іх абодвых. Як-жа гэта вышла так. Юзік пачаў успамінаць, як ён прышоў да перакананьня, што на пасёлкі выходзіць трэба, і выходзіла, што думаць пачынаў ён якраз ад свае Верамейчыкавай гаспадаркі. Яму тагды ўяўлялася, як яны з бацькам, працавітым і яшчэ моцным старым, будуць спраўна ўвіхацца каля свайго будынку, што ў іх куплена дваццаць пнёў дзерава і добра-б было хату перасыпаць ужо на новым месцы. А там на пасёлку, на шырокім кавалку (усё-ж такі шэсьць дзесяцін разам) ніхто не перашкодзіць і шматпольку завесьці, і кармовыя травы, і буракі, альбо турнэпс пасеяць. Ён будзе раіцца з аграномамі, ён будзе чытаць кнігі па сельскай гаспадарцы і гаспадарка яго будзе самай культурнай у Мядзьведзічах, і зямля яго будзе аддаваць усё, што яна можа аддаць, і які гонар будзе яму, калі ён, чвартковы, абгоніць паўвалочнага Грамабоя, які, вядома, ня справіцца з ім у апрацоўцы зямлі. І калі ён папрабаваў цяпер усё гэтыя меркаваньні прылажыць да Аўдолі і яе гаспадаркі, дык убачыў, што яны туды падыходзяць вельмі ў малой меры, альбо і зусім не падыходзяць і што яна гаварыла на сходзе ня так сабе, што ў яе гэта моцна набалела. Ды не адна-ж Аўдоля гэтакая. Ён цяпер нават забыўся думаць пра сваю гаспадарку, яго непакоіла адно: як жа яно ўсё такі павінна быць далей? Прабаваў шукаць іншага выхаду, апрача пасёлкаў, і ня мог знайсьці. На думку яму прыходзіла арцель «Чырвоны Араты», але злажылася яна амаль цалкам з батракоў, якія аселі на панскай зямлі, і якія раней ня мелі ніякай свае гаспадаркі. Юзік ня ведаў ці можна зрабіць такую арцель у вёсцы, дзе ў кожнага ёсьць свая гаспадарка і гаспадаркі няроўныя, дзе ў кожнага ёсьць большая, альбо і меншая дзялянка зямлі, якую ён таксама лічыць сваёю. Юзік зайшоў у тупік.

і ня ведаў, як з яго выбрацца. Нарэшце ён рашыў ня думаць пра гэта і паспрабаваў заспакоіць сябе тым, што Бугайнік і Забродзьдзе можа і аддадуць ім, тагды бядняцкія надзелы таксама падрастуць. Але думкі пішчом лезьлі ў яго разгарачаную галаву і не давалі яму заснуць.

* * *

У гэту ноч яшчэ адна разварушаная думкамі, галава, чарнавалосая і кучаравая, не знаходзіла сабе месца на падушцы. Яна ўжо некалькі разоў пераварочвала падушку на другі бок, каб знайсьці халаднэйшую мясьціну.

Калі бацька гаварыў на сходзе, што ня варта, што для яго пераяжджаць на пасёлкі—адна толькі страта, яна тагды апускала вочы і старалася быць няпрыкметнай, баялася, каб ніхто на яе не глядзеў. Цяпер яна намагалася разабрацца чаму гэта ёй сорам было, у чым фальш яе становішча. Можа гэта яе бацька такое глупства плёў, што аж у яе вушы пачырванелі? Не. Праўда, бацька яе ведаў ня так ужо многа, але ў тым, што для яго лепш, а што горш, у гэтым ён разьбіраўся добра. І калі гаворка ішла пра якія небудзь практычныя гаспадарскія справы, дык тут яна бацьку не магла паправіць. У тым то і ўся загвоздка была для яе, што яна адчувала ўсю праўдзівасьць бацькавых слоў на сходзе. А ёй, як камсамолцы (яна так думала), з бацькам ня можна было згаджацца, бо бацька гаварыў напоперак прадстаўніку з раёну, прадстаўніку савецкай улады. Аўтарытэт савецкай улады ў яе вачох быў такі вялікі, што яна не дапускала й думкі, каб хто небудзь з прадстаўнікоў гэтай улады мог памыляцца, альбо знарок мог рабіць ня так, як гэтага хоча партыя і савецкая ўлада. Загадчыку земаддзелу яна верыла, не адважваючыся крытыкаваць яго довады, а бацьку разумела і сэрцам да яго далучалася. Але як гэта яно так вышла, што бацька яе, бядняк, ідзе напоперак савецкай уладзе і яна, камсамолка, яму не пярэчыць, больш таго—спачувае і ў думках далучаецца да яго.

— Шура, чаго ты ўсе кідаешся, чаму ты ня сьпіш.

— Ня сьпіцца нешта.

— Можа ў цябе баліць што.

— Нічога не баліць. Я зараз засну.

Не расказваць жа мацеры пра тое, што турбуе Шуру. Нічога яна не зразумее. Заклапоціцца толькі, на бацьку будзе наракаць—можа той што лішняе сказаў на сходзе,—а памагчы Шуры нічога не паможам. Сама нездаровая, ледзьве клыпае, а над Шурай дрыжыць, хаця-б яна не захварэла. Вінаватай сябе лічыць перад Шурай: летась траха цэлую зіму з пасьцелі не ўставала. Праз яе Шура другі год дома, скончыўшы сямігодку. У тэхнікум думала падавацца, ды праз матчыну хваробу дома асталася. Нельга было пакінуць аднаго бацьку з хвораю маткаю.

Маці супакоілася, а Шура зноў за сваё: «Дрэнная, мусіць, я камсамолка яшчэ, мала што з палітыкі разумею. Тут мне трэба было выступіць і дапамагчы, а я сама з сабою не магу разабрацца. І чаму гэта Сьцёпкі якраз ня было на сходзе? Ён-жа такі сам гаспадар, напэўна лепш за мяне разьбіраецца ў гэтым».

## Сомік на паляваньні

Праз тыдні два ці тры пасьля таго памятнага сходу пра пасёлкі, які на цэлы год нарабіў клопату ўсім Мядзьведзічам, дый не адным ім, адбылося адно здарэньне. Падобна было на тое, што гэта раззлаваны сабака сам сябе за хвост укусіў. Яшчэ сьмяшней было ад таго, што здарылася гэта з чалавекам, які сам заўсёды гатоў быў з кожнага пакпіць, кожнага палаяць, які ведае, што заграніцамі робіцца і як бы яно трэба было ў нас рабіць, «каб на добры лад».

Устаў Сьцяпан Варанец яшчэ нацямочку. І патрэбы вялікай ня было ўставаць, але прывычка ўжо. Накінуў ён кажух на плечы «выйду, сабе думае, пагляджу, што за надвор'е сёньня». Раніца здаровая—мароз на стрэхах і зямля аж пабялела. У ногі так і пячэ. Ён гэта завярнуўся ўжо, хацеў у хату ісьці. Адно-ж бачыць—на гародзе з-за хлява нейкі дым ідзе. «Што за ліха!—думае сабе.—Каму там прысьпела агонь класьці? Яшчэ хлеў запаліць». Выходзіць, глядзіць, адно-ж гэта Сомік. Ён сьвіньню смаліць, а жонка яму памагае: вады цёплай прынесла, мыць зьбіраецца.

— Дзень добры.

— Дзень добры.

Сьвінчо невялікае дый худаватае, так пуды на паўтраця можа.

— Што гэта ты надумаў. Яшчэ-ж каляды далёка, заўчора толькі запускі былі, а ты ўжо кілбас захацеў,—жартуе Сьцяпан.

— А маўчы ты,—кажа Сомік.—З нашым народам ды з нашымі парадкамі і ў піліпаўку навучышся кілбасы есьці.

— Што там каго вінаваціць. Нехта вінават, што сам дурань,—асьмелілася Сомікава жонка, ведаючы, што пры чужым чалавеку біцца мужык не паважыцца.—Гэта-ж трэба гэтакаму шалёнаму быць, каб сьвіньню сваю забіць.

Сомік сярдзіта глянуў на жонку і агніста-рыжы вус яго заторгаўся. Яна, на ўсякі выпадак, адступілася крокаў на два.

— Гэта-ж адну сьвінку на пляма пусьцілі, дык ён і тую зьеў, каб яго чэрві,—не суцішалася яна.

Ведае Сомік, што сам вінават, а падацца бабе ня хоча. Як гэта, каб яе верх быў?

— Вось пагаўкай яшчэ, дык заробіш ты ў мяне сёньня,—вызьверыўся ён.—Сама-ж і вінавата. Чорт даў табе сьвіньню гэтак рана выпусьціць. Цяпер, брашы не брашы—усёроўна ўжо не аджыве...

— Вось вазьмі лепш нож ды паскрабі троха каля лапаткі,—памаўчаўшы, дадаў ён спакайней.

Сьцяпан пачаў распытвацца, як гэта здарылася.

А было яно так. Скасіў Сомік гарох на Палосках. Ня многа там яго й было, ганачкі, але такі-ж удалы гарох! Стручны! белы, чысты—ніводнага стручка чарвівага. Сомік яго скасіў дый сыраваты прыбраў: Ня было калі сушыць на полі, пад жыта трэба было араць. У цацьвярціну яго нельга было класьці, дык ён узяў дый зложыў пад страхою: «няхай дасыхае». Адно-ж як унадзіліся сьвіньні—рады няма. Сомік і платы кругом прыгуменьня направіў, засаўкі таксама, а яны ўсёроўна.

І такія-ж хітрыя, каб на іх здыхата: ідуць раненька націмочку, як яшчэ на прыгуменьні нікога няма. Калі ідзе Сомік рана ў гумно, дык яны яшчэ здалёк счуюць. Тагды цераз засаўкі—гоць, гоць, як сабакі, і пашлі. А найбольш усё, як Сомік заўважае, Наздрэйкава сьвіньня гэтакія штукі вырабляе. «А ня здох ты разам з сваёю сьвіньнёю!»—кляне Сомік.

Убачыў раз Данілу на прыгуменьні:

— Зладзюга, сьвіньні ў гарох ня пускай, бо ўсёроўна аглядаць ты яе ня будзеш.

А той і слухаць ня хоча.

— Адстань,—кажа.—Чаго ты чэпішся да мяне? То з канём прыстаў, а цяпер сьвіньня ўжо шкоду яму робіць. Мая,—кажа—сьвіньня цераз высокі парог не пералезе, а ня то што каб цераз засаўкі пераскочыць. Ты гэта са злосьці,—кажа,—выдумляеш.

А сын вышаў з гумна з цэпам дый пацьвельваецца:

— Наша,—кажа,—сьвіньня сумленная, чужога гароху есьці ня будзе. Гэта ня тое, што які небудзь гарадавік, які дарэмна чапляецца да людзей.

Злосьць падшыбае Соміка, так і просіцца кулак да Міколавага носа. Ды бяда, ня сіла яго, яны ўдвух.

Вось і надумаўся тагды Сомік: «пачакай-жа—думае сабе.—Я-ж табе пакажу, умее твая сьвіньня цераз засаўкі скакаць ці не».

Устаў гэта ён націмочку, узяў добры driчок дый пашоў на прыгуменьне. Разгарадзіў ён верхнюю засаўку, каб лягчэй было сьвіньні пераскочыць (а то, думае, як не пераскочыць, дык дарэмна ўся турбацыя прападзе), а сам сеў за вуглам ля гароху. Пачакаўшы трохі, чуе,—бразнулі засаўкі. Тут ён нарыхтаваўся. Толькі сьвіньня з-за вугла—тыц, а Сомік па лычы—трэсь. Яна вобземлю ды ў пясок. А ён яшчэ раз між вушэй, каб ня пішчала. Праўда, што яна больш і ня дрыгнула.

«Вось, думае Сомік, і няхай ідзе цяпер пацалуе сваю сумленную сьвіньню».. Тым часам ужо разьвіднівацца пачало. Калі прыгледзіцца Сомік, дык сьвіньня ня чорная, а рабая. Ён ніжэй нагнуўся,—ах, каб цябе воўк!—дык гэта-ж яго сьвіньня. Паклаў Сомік Наздрэўку, патупаў каля сьвіньні дый павалок смаліць.

Стаіць Сьцяпан, грэе ногі каля агню, памагае Соміку бедаваць, а сам думае: «Няхай ты на ражон узьбіся, гэтакі чалавек. Добра, што ты сваю сьвіньню забіў, а не маю».

Бо трэба такі праўду сказаць, што і Сьцяпанава сьвіньня любіла паласавацца Сомікавым гарохам.

Таго-ж дня ўся вёска, як у бубен біла. Вядома, і сам Сьцяпан ня кепскі язычок меў, а тут яшчэ якраз падскочыў Тодар Пошта.

## Янучка і Марыська

Сьвет пад месяцам сіняваты-іскрысты, мяняецца, мільгаціць. На ім рэзка ляглі цені маўклівыя, нярухомыя, мэлянхолічна-задуманыя. Цені ад будынкаў, ад бязьлістых, здрантвелых дрэў, ад калодзежных жураўлёў. Хаты, нібы згорбленыя, скарчанелыя ад холаду бабулькі, насунулі свае

белыя, аздобленыя дыямэнтамі наміткі аж на самыя вочы. Гэтыя цьмяна жоўтыя, квадратовыя, засланыя марознай павалокай вочы не пасуюць з фэерычным бляскам і мэлянхолічным спакоем вуліцы. Яны то ясьнеюць, то цямнеюць, у іх нешта трапечацца, нібы скачуць жвавыя вясёлыя чорцікі. Адна з бабулек, самая маленькая і згорбленая, нібы адапхнутая назад дужэйшымі і маладзейшымі, прысела аж на гародзе за Грамабоевай варыўнёй. Яе шкляныя вочы—застылыя цёмныя і нярухомыя.

Але вось з-за суседняга будынку крадзецца да згорбленай, ахутанай сьнегам хаткі нейкая постаць. Прыпадае да сьцяны, хвіліну прыслухоўваецца. Адварочваецца ў той бок, адкуль прышла, махае рукою:

— Сюды,—шэпча ў паўголаса.

З ценю варыўні вылучаюцца яшчэ чацьвёра. Заходзяць ад глухой сьцяны, каб ня ўбачылі праз вакно. Туляцца ўсе да сьцяны, замiраюць. З хаты чуваць высокі, малады і на дзіва чысты голас:

Ой сама-а я йду
Дый бяду-у вяду.
А бяда-а й не вядзе-цца
Пад вішняю,
Пад чарэшняю
Са мной спаці кладзе-цца.

Дрыжыць пераліваецца дзячовы голас. Б'ецца ў песьні жанчына, з ліхаю бядою: ні здужаць яе, ні адчапіцца ад яе і ўсюды бяда неразлучна з ёю. І нэрвы, як струны, нацягваюцца, калі слухаеш гэту скаргу—песьню, гарачую і чыстую, як сьляза. Хочацца даведацца, як трапіла гэта небарака-дзяўчына ў згрыбелую хатку, чаму яна пакутуе тут папацёмку без агню, хто пакрыўдзіў яе. Хочацца дапамагчы, абараніць яе ад неадчэпнай бяды. Нават гэтыя падшпаркі, якія прышлі пад хату зусім не для таго, каб захапляцца мастацтвам, і тыя ня сьмеюць перарваць ачараваньне песьні, хоць і ня першы раз чуюць Марысьчыны сьлевы.

Але досыць раз глянуць на сьпявачку повідну, як уся ілюзія дзявочай кволасьці і прыгожасьці, і маладога тамленьня зьнікае. Толькі ілюзія неадчэпнай бяды і цяжкай нядолі ператвараецца з ілюзіі ў страшную рэальнасьць, у постаць пажылой жанчыны з васкова-жоўтым худым тварам, як у мерцьвяка. Аднастайнасьць гэтай мяртвай жаўцізны парушаюць толькі вочы—няпрыемна жудасныя, разьедзеныя застарэлай трахомай. Крывава-чырвоныя, набраклыя павекі зьліпліся. Хустка насунута з галавы на твар, каб засланіць ад яркага сьвятла і нястрыманага болю болькі вачэй. Цяжка паверыць, што гэта тая самая Марыська, голас якой дапаўняе цяпер чароўнасьць гэтай ночы.

Ад ранейшай прыгажосьці ды дзявочай маладосьці і засталіся ў яе цяпер толькі гэты голас, чыстаты і маладой звонкасьці якога, здаецца, зусім не кранулі гады, ды яшчэ дзявочае яе імя, ласкавае некалі і іранічнае, амаль абразьлівае цяпер—Марыська. Замацавалася гэта імя ў людзей ня ў памяць яе даўнейшай маладосьці, а хутчэй як мянушка, як пародыя. Яна сама нікога інача не назаве, як толькі ласачкаю: Тодарка, Ганулька, братачка, дзядзечка, цетухна. Свайго мужа і то, ні па злосьці, ні па дабросьці, інача ніколі не назаве, як Янанчка. Нават калі й склясьці ёй каго давядзецца, дык і клянучы гэтыя ласкавыя. Падраж-

няцца з ею дзеці на вуліцы, калецтвам яе ўпікнуць, сьляпою назавуць, а яна так лагодна ды зычліва, быццам гаючае лякарства да больлі прыкладае:

— А мае-ж вы дзетачкі, а няхай-жа бог міленькі дасьць, каб мая долечка спаткала вас у маладым веку, каб вы на яснае сонейка ня зірнулі, каб вы таткі й мамкі ня ўбачылі.

Але дзе пачыналіся Марысьчыны песьні, там канчаліся кпінкі з яе і сьмешкі з яе калецтва, там прыціхалі нават найбольш жорсткія і нячулыя мядзьведзіцкія зубаскалы. Песень яна ўмела можа больш за сотню і аддавала ім усю сябе дарэшты, адгароджвалася імі ад рэальнага сьвету, радаснага для іншых, і пакутнацёмнага для яе. Перапяваючы можа ў тысячны раз тыя песьні, якія сьпявала дзяўчынай, яна нанова перажывала ў іх сваё дзявоцтва і сваю сьняvoкую маладосьць.

Сядзіць Марыська пад акном на прасьніцы, выводзіць нітку за ніткай, такія-ж доўгія і тонкія, як і яе песьні. Сьвятла ў хаце няма, прадзе яна пад месяц. Ёй усёроўна. Яе няшчасьце зьяўляецца разам і крыніцай яе эканоміі: ня трэба трацішча на газу ці смаліну. Доўгая практыка з самага маленства і яе калецтва навучылі яе прасьці напамяць. Пры мяккім сьвятле месяца можна яшчэ хоць калі-нікалі праз балючыя шчыліны глянуць у бараду кудзелі, а пры агні яна зусім ня можа.

Зашастала запалкавая скрыначка, шэрхнула запалка.

— Яначка, ці ня здурнеў ты?! Гэта-ж ты зноў сярнічку паліш! Пашукаў бы вугольчыка ў ямцы, яшчэ-ж можа жарок не патух. Гэта-ж на тым тыдні толькі скрыначку сярнічак узяла, дык ты зараз усе і папаліш.

— Маўчы...—кашель забівае, не дае яму выгаварыць.

— ... кошка сьляпая— канчае ён нарэшце фразу, перарваную кашлем.—Не пераядай вантроб.

Пад акном пачынаецца хорканьне, мяўканьне і нарэшце дружна:

— Янaчка, на радзіны пакліч!—а самі напагатове.

Вось асьцярожна ляпнула клямка і жэўжыкі пырснулі за вуглы суседніх будынкаў. Уздагон ім ляціць і стукаецца аб вугал здаровы бярозавы аскабалак.

— Каб вам языкі павыпірала! Ото навалач!

Ухапіўся за вушак і доўга натужна кашляе.

Знаравілі Янaчку. Ні па вуліцы прайсьці, ні дома на печы спакойна паляжаць. Задражнілі так, што калі хто нават выпадкова ў гутарцы пра радзіны ўспамяне, дык Янaчку ўсё здаецца, што гэта яго дражніць хочуць. У сьне нават часта вярзецца, што пад вакном сабраліся падшпаркі з усяго сяла, скачуць, языкі высоўваюць, на радзіны просяцца. Усхопліваецца Янaчка, каб намацаць качалку ці палена ёмкае, разглядзіцца—няма нідзе нікога. Апамятаецца, што гэта яму сьнілася, пакашляе і зноў лезе пад коўдру. Адзінаццаты год так пацяшаюцца ліхія людзі з яго няшчасьця.

Каторы год жывуць Янaчка з Марыськай, яны й самі добра ня ведаюць—ні то восемнаццаты, ня то дваццаты. Памятаюць толькі, што Янка тады толькі што вярнуўся з царскай арміі. Шапку без казырка з чырвоным акольшкам насіў, схіліўшы на правае вуха, шынэль, хоць стары, але з бліпчастымі гузікамі—напашкі. Праўда і тагды ўжо ў сярэдзіне была некая чарваточынка,—задышка і пакашліваў патроху. Аказвалася цар-

ская служба-матухна. Але стараўся падфарсіць перад мядзьведзіцкімі дзяўчатамі. У Марыські-ж былі тагды ружовыя шчокі, і сінія, зоркія вочы. Праз шынэль з бліскучымі гузікамі яна бачыла яшчэ Янкаў трацяк зямлі і—«сама сабе гаспадыня ў хаце». Як ні круціў Грамабой, а павінен быў даць Янку трацяк зямлі з надзелу. Бо хоць цяпер, глянуўшы на Янку, і цяжка-сказаць, што ён Грамабоеў брат, а яно такі сапраўды так. Два трацякі Грамабой пакінуў сабе, на сябе і на сястру, старую дзеўку. Праўда, хутка яму сястру ўдалося выпхнуць замуж і ён так і застаўся гаспадаром на двух трацякох. Янка й не дамагаўся вельмі сабе палавіны, ён і з трацяком упраўляўся папалам з бядою. Задышка пры цяжкай рабоце ўсё больш адчувалася і слабасьць нейкая апаноўвала,—ня то ад хваробы, ня то ад дрэннага харчаваньня. А Марысьцы неўзабаве з вачыма нешта прыключылася. Думала, пабаліць ды сьціхне, адно-ж што далей, то болей. І з дзецьмі ім таксама моцна не пашанцавала—бязьдзетухаю засталася Марыська. Спачатку думалі, што гэта так, пакуль што. Здараецца, бачыце, што першыя гады ня бывае дзяцей, а потым і знойдуцца. Але—далей болей—пачалі непакоіцца ды адно на аднаго віну складаць: ня ведалі, праз каго ў іх так выходзіць. Годзе чакаць. Пачала Марыська па знахарках ды па шаптухах хадзіць. Той палатна свойчык, той яечак ці масьліца. І гэта ёй нагаворваюць і тое раяць—не памагае .Аж нарэшце неяк, перад самаю вайною нямецкаю, заўважвае Марыська па сваіх жаноцкіх справах, што яна як бы зацяжарала. Надзею і радасьць вялікую затаіла ў сабе пакуль што: «а можа яно так; мала што бывае». Пашоў другі, трэйці месяц—не памылілася Марыська. Нарэшце і стан яе пачаў акругляцца. Суседкі пачалі заўважаць, распытвацца ў яе пачалі ды нашэптываць розныя парады пры сустрэчы. Калі пераваліла на другую палову, Марыська ўжо і не таілася ні ад кога.

А Янку, прыслухоўваючыся да сябе, радасна шаптала:

— Яначка, вось так і чую як яно там трапечацца, ножачкамі выробляе. Хаця-ж бы бог мілы даў—хлопчычак.

І Янка павесялеў. Аж здаецца, ня так моцна горбіцца, ходзячы, усьміхацца часьцей пачаў, перабіраючы пальцамі сваю кучаравую русую бародку. Ня трэба будзе яму цяпер турбавацца пра тое, хто яго старасьць пашануе, ласкі ў чужых людзей ня трэба будзе прасіць. Чаго-чаго, а кусок хлеба дзіця свайму бацьку не пашкадуе.

Зьбяруцца бабы на прызьбе, убачаць Янку на вуліцы, жарцуюць каля яго:

— Вось заганарыўся, і ў наш бок не глядзіць! Ды ідзі ты сюды, пагаворым троха. Можа-ж хутка мы чарку ў цябе ці ня вып'ем?

Сьмяецца Янка, шчэрачы свае дробныя авечыя зубы:

— Ды ўжо-ж, суседачкі, толькі каб даў бог усё добра было, а чаркі я не пашкадую.

Калі пачала тая пара падыходзіць, пачаў Янка пра чарку турбавацца. Прыпасьціў трохі, палатна сувойчык Марыська дала, завёз на рынак, у брата рублёў колькі пазычыў. А Марыська ўжо толькі шчасьлівай часінкі чакае—вось ня сёньня-заўтра.

Адно-ж і тэрмін той мінаецца, і тыдзень і другі праходзіць, а Марыська ўсё ў аднэй меры. Нешта не падабаецца гэта Янку. Нецярплівасьць яго бярэ.

— Ды калі-ж яно ўжо будзе? Калі-ж ты ўжо нарэшце раскідаешся?

— Янічка, дурненькі, ты толькі ня злуй. Вось як бог дасьць тую часіну, дык і будзе. Можа гэта я лічачы памылілася,—супакойвае яго і сама сябе Марыська.

Нарэшце і дзесяты месяц канчаецца, няма таго дзіцяці. Злосьць Янку агортае.

— Ды не кабыла-ж ты, даруй мне божа, што год будзеш насіць! І ўсё ў цябе ня так, як у людзей. Вось пакараў мяне бог!

Марыська ўжо й не апраўдваецца, сьлязьмі больш адбывае. Яна ўжо й сама сабе ня верыць, ня ведае, што тут такое можа быць.

Нарэшце, калі пашло на адзінаццаты месяц і калі паўната Марысьчына пачала спадаць, усім тут ясна стала: ня будзе ў Марыські дзіцяці. Ахнула ўся вёска: ніколі такога ні з кім не здаралася ні ў іх вёсцы, ні навакол. Нават самыя старыя людзі не памяталі такога здарэньня. Ахнулі ад зьдзіўленьня, а пасьля ад рогату. І пашлі перабіраць Марысьчыны косткі, пашлі перамываць языкамі. Каб хаця ён гэтай гарэлкі ўжо ня купляў! Падыдзе другая лепятуха—такая яна ветлівая, такая зычлівая, так шкадуе Марыську, а адвернецца—хвартухом рот закрывае, каб моцна не зарагатаць; бяжыць хутчэй суседцы расказаць, што яна яшчэ ад Марыські пра гэта дзіва даведалася.

Доўга не хацела Марыська доктару паказвацца. За сорам і нават за вялікі грэх лічыла гэта. Але нарэшце такі адважылася, пашла ў мястэчка. Хацелася ведаць, што-ж гэта з ёю робіцца такое. Доктар яе аглядзеў, як мае быць, і пасьля сказаў, што ніякай цяжарнасьці ў яе і ня было. Што гэта падманная цяжарнасьць. Што гэта вельмі і вельмі рэдка, але бываюць такія выпадкі з жанчынай, якая занадта ў галаву сабе набярэ, моцна дзіцяці хоча. Ён яшчэ ёй нешта тлумачыў, але яна амаль нічога не зразумела. Калі Янка пачаў распытвацца дома, дык нічога яму сказаць не магла, адчувала сябе толькі моцна і назаўсёды няшчаснай.

Янка зразу асунуўся і яшчэ горш згорбіўся. Сівізна ў валасох пракідацца стала, хоць тагды яму яшчэ і сарака год ня было. Вельмі-ж яго ўжо кпінкі людзкія дапякалі. Марыська дык тая спакайней іх прымала, нават як бы й прымірылася.

— Брашэце сабе, людцы добрыя, сьмейцеся з майго няшчасьця. І ваша-ж долечка яшчэ наперадзе. Можа бог дасьць з вас яшчэ горш пасьмяюцца,—сказала яна раз на вуліцы.

Дык да яе ня так і прыставалі. А Янка ня мог спакойна цярпець насьмешкі. З дарослымі ён сварыўся і лаяўся з апошніх слоў, а да меншых, якіх ён мог падужаць, проста біцца кідаўся. А тым толькі гэта й трэба было. Дагнаць ён іх ня мог, а падражніцца ды пацешыцца з яго для іх самая лепшая забаўка. Таму і не давалі яны яму ніколі спакою, нават дома на печы.

Праз гэта і Марыську Янка зьнялюбіў. Мала таго, што сама сьляпая ды няўдалая, дык яшчэ й яму на ўсё жыцьцё сарама нарабіла. Ніколі таму да яе цяпер і слова палюдзку ня скажа, усё з крыкам, ды з кленічамі. А яшчэ хвароба гэта за апошнія гады зусім яго надсадзіла. Пакрычыць на жонку, на каня, на куры, дык, здаецца, і лягчэй зробіцца. А калі на поле выйдзе ці выедзе, дык на ўсім палетку чуваць, дзе ён паварочваецца. Паедуць на сенажаць, пачнуць воз класьці. Бярэ Марыська сена тое воб-

мацкам, ня бачыць, як яго лепш падаць. А ён ужо лемантуе на ўвесь луг:

— Падла ты сьляпая, як ты даеш! Сьпераду давай, каб табе хваробы бог даў.

Пакуль занясе яна наперад, рукі памлеюць, пярэбірак раскідаецца, зноў бяда:

— Гэта-ж толькі з воза злазіць ня хочацца, паказаў бы я табе, як падаваць.

— Ціха, шалёны, не сьмяшы ты людзей,—угаварвае яго Марыська, стараючыся сабраць раскіданае сена.

Асабліва абнядужаў Янка за гэту мінулую восень. Цяпер зімою і работа-ж невялікая. У заработкі ён ня йдзе. Лапаць які сплесьці ці направіць ды жывёлу дагледзець, а й то яму хапае. Каня прыдзецца напаіць, дык натузаецца, як мае быць. Конік яго хоць і невялікі, але рухавы і на яду не перабсрлівы. Пастаяў, аддыхнуў ад асеньняй работы, акрыяў, паправіўся. Возьме яго Янка да вады весьці, дык ён тузаецца, падбрыкваць прабуе—гуляць хоча. Закрычыць на яго Янка, закашляецца і павадок з рук выпусьціць, то ён і пашоў па гародах да па загуменьню. То ўжо іншы раз Мікола Грамабоеў падыдзе, накульгваючы:

— Давай, дзядзька, я яго зваджу напаю.

Возьме за павадок каля цугляў:

— Ну, ня дурэй, сівак!

Тузянецца «Сівак» разы два, ды бачыць,—ня ў тыя рукі папаўся.

У апошні час Грамабоі сталі ласкавейшымі. І сам часьцей загаворыць з Янкам, а яна дык іншы раз і малака кіслага збаночак дзяўчынаю прышле (Янкава карова з месяц як запусьцілася). Чуе Янка, што гэта ня так сабе, што брат трымае нешта сабе на ўме. У чым тут справа, добра ня ведае, толькі дагадваецца трохі. «Няхай—думае сабе—паглядзім. Брат усё-ж такі, ня хто чужы. Можа крыўды мае не захоча».

## Дэлегацыя

Сьніцца Юзіку, што ён з сваім аддзяленьнем у сялянскай хаце на пасланай на падлозе саломе. Усе толькі што прахапіліся ад некага страшэннага крыку, хрыплага і пакутнага. Недзе далей чутно—сыгнальная труба кліча пасьпешна і ўзбуджана-трывожна. Юзік узьдзеў набасанож боты, ухапіў вінтоўку, але ніяк папоцемку ня знойдзе падсумка з патронамі. Ён прыпаў на каленкі, мацае рукамі па саломе, а труба ўсё кліча адчайна і трывожна, а крык—вось ужо на дварэ каля хаты: некага рэжуць, з некага цягнуцца жылы і ён заходзіцца перадсьмяротным хрыпам, просячы паратунку. Адрокшыся падсумка, Юзік, з нарыхтаваным штыком, кідаецца ў адчыненае акно, але, саскочыўшы з падаконьніка на двор, ляціць у некае прадоньне. Мільгае думка, што зараз расплешчацца на блін. Ён жахаецца і тут ужо сапраўды прачынаецца.

Але і прачнуўшыся, ня зразу дагадваецца, дзе ён і што з ім. Пакутны, хрыплы нечалавечы крык чуцен недзе тут-жа пад бокам. Ён хутка пераварочваецца і глядзіць на хату. Без спадніцы, у адной даўжэзнай, аж траха па пяты, кашулі каля падпечку ракам Тадора. Пасмы незаплеценых сівых валасоў зьвісаюць па бакох і закрываюць ёй твар. Леваю рукою

яна апіраецца на ток, каб падтрымаць сваё буйнае цела, у зубах у яе доўгая запаленая лучына, якой яна сьвеціць у дзьверцы падпечка, а правай арудуе качаргою і штурхае пад печ. З яе рота праз зубы, якімі яна сьціснула канец лучыны, вырываюцца нявыразныя, але поўныя помсты словы:

— А во табе. А во табе. А во табе.

З падпечку чуецца хрыплы, пакутны крык перапужанага і сьляпога пры сьвятле лучыны пеўня. Устрывожаныя неўпару куры керкаюць працяжна і жаласна, а яна ўсё таўчэ.

— Чаго та ты ўсхадзілася з гэтымі курамі к чортавай матары. Сну табе няма.

Тадора яшчэ разоў са тры таўханула ашалелага пеўня, устала, выняла з зубоў лучыну і тагды толькі адказала старому Верамейчыку:

— Я яго заб-ю, каб ён здох! Гэта-ж жарты! Чужыя пеўні двума наваратамі прапелі, а ён сабе маўчыць, каб яму горла запухла. Людзі даўно папапрадаліся.

— Чорт іх бяры з людзьмі. На ўвесь век не напрадуць патом.

— Ды табе-ж якая трасца!—перайшла Тадора ў наступ на старога, распальваючы смаліну на камінку.—Твая галава па гэтым не баліць. А нябось патом голаю задніцаю сьвяціць ня хочаш. Як што якое, дык дай. Ды яшчэ, калі палатаныя, дык і нос адварочваеш. Бач, патурбавала паноў! Добра, што нявестку сабе пад пару знашоў: да відна можна спаць, не патурбуе...

— Ды па табе дык мне—чорт цябе бяры,—дадала яна памаўчаўшы.—Мне вунь ёсьць пра каго думаць. У мяне клопат, каб дзіця голае не хадзіла. Як прыбярэ мяне бог з гэтага сьвету, дык яму й зьмяніцца ня будзе ў што.

Ведаючы з практыкі, што—далей у лес болей дроў, стары больш не спрачаецца. Ён ведае, што Тадора дарэмна прыкідываецца сіратою. Повен куфар у яе палатна—і зрэбнага, і кужэльнага, усялякага—ды яшчэ паўкубла пашытай адзежы. Піліпку аднаму гэтага дабра да старасьці хапіла-б. Ды каб тэе прышлося, дык і Зося не адмовілася-б абмыць ды абшыць хлопца. Але ўжо гэтакая ўдалася Тадора, дасужая ды зайздросная. Праўда, у хату дбае, а ня з хаты, дык і няма тут чаго вельмі спрачацца з ею.

Стары ўстаў з пасьцелі і па палу перайшоў на печ. Ён ужо драмаў, лежачы плячмі на цёплай чарэні, а Тадора ўсё яшчэ нешта гаварыла сярдзіта і заклапочана.

— Мусіць трэба ўставаць,—шапнула Юзіку Зося, якую таксама пабудзіла курыная экзэкуцыя.

Юзік, высунуўшы з-пад коўдры руку, зьняў з цьвічка нікелёвы гадзіньнік, з выгравіраванай на вечку вінтоўкай і з надпісам «За меткую стральбу», і глянуў:

— Сьпі, яшчэ толькі другая гадзіна. Пяць гадзін да дня.

— Будзе брахаць па ўсім сяле.

— Усёроўна брэша.

— Пойдзеш сёньня?

— Пайду.

— Хто яшчэ?
— Грамабой і Пятрусь Кухар.
— Андрэй ня пойдзе?
— Адмовіўся. Кажа, гэта зямля беднаце будзе, дык няхай яна ідзе, на яе больш уваті зьвернуць.
— А Грамабой жа чаму?
— Выбралі. Кажуць—бойкі, калі што якое, дык не пабаіцца слова сказаць. Нібыта крыкам там нешта зробіш
— І ён згадзіўся?
— Не хацеў. Казаў—сечку трэба рэзаць. Выбралі яшчэ Тамаша Кірыка і Антося Сталаровых, то тыя згадзіліся лепш есьці да яго сечку рэзаць, а каб ён ішоў туды.
— Ня той Грамабой... Ён табе і разу дарэмна ня ступіць.
— Ты такі ўстаеш?
— Усёроўна не засну.
— Пабудзіш мяне ў гадзін шэсьць.

* * *

Тое, што выбраныя на сходзе, Юзік і Алесь Галаскок хадзілі па хатах, апытваючы, хто згодзен выйці на пасёлкі, не дало такіх вынікаў, каб з імі можна было пачаць землянупарадкаваньне ўсяе вёскі. Гаспадарак, якія бязумоўна згадзіліся выйці на пасёлак, набралася ня больш за дваццаць процантаў. Рэшта альбо адмовіліся, альбо хацелі яшчэ пачакаць, каб нарэшце дакладна даведацца, што-ж яны будуць мець, выйшаўшы на пасёлкі. Адмаўлялася ад пасёлкаў наадрэз частка сераднякоў і, трэба сказаць праўду, самая консэрватыўная, людзі даўнейшага складу, у якіх аўтарытэт дзядоў і прадзедаў трымаўся надта высока, і якія да ўсяго новага, да ўсіх пачынаньняў савецкай улады ставіліся вельмі падазрона. Пасёлкі, на іх думку, гэта чарговы выбрык бальшавікоў, якія ў сельскай гаспадарцы нічога не разумеюць, а бяруцца камандаваць і зараз давядуць да таго, што людзі зусім бяз хлеба застануцца. Адмовіліся ад пасёлкаў і частка беднаты, якая была ўпэўнена, што для іх тут ня варта шкурка вырабу, і яшчэ тыя гаспадаркі, у якіх слаба было з рабочай сілай. Частка серадняков хацела пачакаць і падумаць. Яны яшчэ ня былі ўпэўнены, ці варта плаціць звонкай манэтай сёнешняй працы і клопату за далёка няпэўныя выгады пасялковай гаспадаркі некалі ў будучыне. Большая частка беднаты не запісвалася на пасёлкі, пакуль ня ведала дакладна, прырэжуць жа ім зямлі ці не.
— Дык хто-ж яго ведае, як яно з гэтым Бугайнікам будзе.
— Каб жа яно ведалася, што Бульгайнік і Забродзьдзе за намі застануцца....
— Калі дасьце больш зямлі, дык пішаце.—Такое чулі траха ня ў кожнай бядняцкай хаце.

Калі Юзік з Алесем расказалі пра ўсё гэта на адным з чарговым сходаў, якіх у тую восень у Мядзьведзічах было даволі такі шмат, і калі стала пытаньне, ці зусім пакінуць думаць пра пасёлкі, ці дабівацца прырэзкі зямлі, дык вялікая большасьць сходу, і ў першую чаргу траха ня-

ўся бедната, выказалася за тое, што трэбаісьці і дабівацца, каб аддалі Бугаінік і Забродзьдзе.

Каржакевіч тут з радасьцю ўбачыў, што ён тагды на тым першым сходзе папаў у цэль, што цяпер яго справа будзе рабіцца без яго. Ён адвёў вочы бедноты ад сваіх дваццаці пяці дзесяцін на саўгаскую зямлю і цяпер быў сьмел, што калі прыдзецца выходзіць на пасёлкі, дык перадзелу вясковай зямлі ня будзе і абрэзкай яго не зачэпяць. Ва ўсім гэтым ён яшчэ моцна спадзяваўся на даўганосага. Той напэўна дапаможа і Бугаінік адваяваць і яго ў крыўду не папусьціць, калі што якое. Цяпер-жа ў Каржакевіча намер быў адзін: застацца ў баку, паказаць, што ён тут нічым не зацікаўлен. Вось чаму, калі пачалі выбіраць дэлегацыю ў саўгас і выставілі яго кандыдатуру, ен адмахнуўся рукамі і нагамі, сказаўшы, што тут усе карты ў руκі беднаце, няхай яна сама для сябе стараецца. Ён нават пробаваў нібы адгаварваць, мармычучы нешта ня зусім выразнае: ці варта гэта, шмат турботы... Ды яшчэ ці выдзе што. Але гэтым яшчэ падліў масла ў агонь. Нават Нехта быў злосна адгукнуўся:

— Добра табе варажыць, калі ў цябе бяз прырэзкі хапае.

Каржакевіча гэта зусім задаволіла і ён змоўк.

Грамабой жа згадзіўся ісьці дэлегатам у саўгас без усялякай політыкі далёкага прыцэлу. А проста таму, што пагнаўся на двух дарэмных работнікаў, якія яму будуць сечку рэзаць. А Бугаінік яму самому даўно вочы мазоліць. Калі прыдзецца, дык патрапіць што сказаць.

* * *

У саўгасе быў самы ранішні розрух. Выразна, часта, але раўнамерна тахкала сэрца паравога млына і ў тахт яму вылятали клубкі дыму з нявысокага танклявага коміна. Каля млына ў павеці валтузілася чалавек пяць сялян пры лесапільным станку. Заўзята шоргаючы, прагна грызьлі бліскучыя пілы таўсматую, відаць, сырую яшчэ, ёлку і, як белая пена, пырскала з-пад зубоў пілавіньне. Няпрывычныя да машыновага шуму завозьніцкія коні жавалі неспакойна і трывожна, часта падымалі галовы ад пахучага мурагу, натапырвалі вушы, аглядаліся і прыслухоўваліся. Два саўгаскія рабочыя пажарнаю машынаю пампавалі ваду з проламкі, падаючы яе наверх ў дрыўляны жолаб. Па жолабе вада бегла ў вялізарнае старасьвецкае, выдзеўбанае з дубу карыта. Канюхі вялі і гналі на вадапой чараду саўгаскіх коняй. У некаторых—намуляныя хамутамі мясьціны на карках і персях пазаросталі белай шэрсьцю.

— Добрыя коні ёсьць некаторыя,—сказаў Пятрусь Кухар, успамінаючы пра ўкрадзенага каня і пра шэсьдзесят рублёў пазыкі, якую ён нядаўна ўзяў у пазыковым таварыстве.

— А патом таварышы такіх коняй ня ўмеюць гадаваць, як некалі паны,—адказаў яму Грамабой.—Бывала Гняцецкі, калі прыедзе на чацьвёрцы да касьцёла, дык усё мястэчка, як на дзіва глядзіць: як адзін, сівыя ў яблык, аж мяняюцца. Вось ужо ахвотнік быў да коняй!

— Чаму яму было ня езьдзіць, дарэмна людзі рабілі,—сказаў Юзік.

— Ды рабілі патом. І пану было, і яшчэ некаму, і сабе патом заставалася, не паміралі-ж з голаду. А цяпер дык і зусім рабіць ня хочуць—ні

дарэмна, ні за грошы. Гэта-ж каторы год яны ўжо тут гаспадарацъ, сеўшы на ўсім гатовым, а што тут вельмі ўжо віцацъ?

— Якое-ж гатовае? Толькі зямля і будынкі засталіся, а ўсё дабро і жывёлу Гняцеччык паспеў забраць з сабою. А цяпер глядзі—усё-ж і коні, і кароў колькі,—супярэчыў Юзік, ведаючы загадзе, што Грамабоя ўсёроўна не перапрэш.

— У таго, бывала, бугай дык як зьвер, падступіцца страшна,—казаў Грамабой сваё, не адказваючы Юзіку.—А то—прывёў я надоечы сваю карову сюды. Выпусьцілі быка з праварыны, дык хоць ты яго вазьмі ды падсаджай на тую карову. Усёроўна, як той Амялян Занямонскі. Ён і рослы, і касьці шырокай, але-ж што-ж, калі догляду няма. Клубы тыя тарчаць, як ражны.

— Але-ж ты некалі свае каровы да Гняцецкага не вадзіў, а я й патаоў,—сказаў Кухар.

— Чалавек ты, куды ты паткнешся там з сваёю каровай! Няхай яго воўк, яшчэ скалечыць гатоў, гэтакая велiч.

— Ды ня вельмі-б ён цябе і дапусьціў да свайго быка. Гэта мала, што адрабіць прышлося-б, дык колькі разоў трэба было-б шапку скінуць ды ў руку пацалаваць. А гэты саўгаскі бык цэлы сельсавет цяпер абслужвае. Паглядзі ты, колькі ў нас у Мядзьведзічах пашло цялят па гэтым быку,—даводзіў Юзік, злуючы на тупую Грамабоеву ўпартасьць.

Былы панскі дом, мураваны, двухпавярховы, з невялікай колёнадай перад парадным ганкам, адгарадзіўся ад абораў, гумнаў ды іншых гаспадарчых будынкаў высокаю сьцяною клёнаў і ліп, якія перапляліся здрантвелым цяпер голым гальлём. На палянцы пасярод парку, адступіўшы крокаў на паўсотні ад фасаду дому, як ганаровая варта, выстраіліся ў рад высокія, стройныя тапалі, якія стаялі цяпер маўкліва і нярухома, як па камандзе «зважай». Перад ганкам—нешта накшталт вялізарнага бэтоннага келіха з абломкам жалезнай трубкі ў сярэдзіне—рэшткі былога фонтану.

У доме цяпер зьмяшчалася кантора і клюб. Тут жа жыў загадчык і некалькі сем'яў рабочых.

Загадчыка дэлегацыя застала ў канторы. Ён сядзеў за сталом над нейкімі паперамі, а высокі і худы чалавек, канторскі работнік, перагнуўся да яго цераз стол і нешта тлумачыў, торкаючы пальцам у паперы. На прывітаньне мужчын загадчык адарваў на момант ад папер свой круглы ў рабаценьні твар і гасьцінна сказаў:

— Сядайце, мужчыны, пасядзеце трошкі, я зараз.

Юзік павёў вачыма, ці няма дзе сапраўды прыперціся, але ў пакоі быў яшчэ толькі адзін стол, а ні крэсла, ні заслона ніякага ня было відаць.

Управіўшыся з паперамі, якія рахункавод забраў з сабою ў другі пакой, загадчык зьвярнуўся да дэлегацыі:

— Што-ж вы нам скажаце, мужчыны? Здаецца ,мядзьведзіцкія?

— Але, суседзі, можна сказаць, —адказаў Грамабой.

— Мы да вас, таварыш Пракопчык, па важнай справе,—пачаў Юзік,

— Ага. Ну, давайце.—Загадчык сагнаў ветлівую ўсьмешку і твар яго зрабіўся сур'ёзны і ўважлівы.

— Мы ня самі сваім адумам прышлі да вас, сход нас выбраў. Гэта-ж нашы Мядзьведзічы на пасёлкі хочуць выходзіць. Ужо вось колькі сходаў было. Ніяк да згоды ня прыдуць. Некаторыя ісьці ня хочуць, кажуць, каб зямлі прырэзалі, дык пашлі-б. То мы гэта да вас. Можа-б вы што нам дапамаглі ў гэтым?

— Што-ж я тут дапамагу? Угаварваць, каб ішлі на пасёлкі, дык яны-ж і не паслухаюць. Ды й ня ведаю, ці патрэбна гэта. А зямлі— шукайце самі. Можа з запаснога фонду вам дадуць, можа абрэзка якая..

— Няма, здаецца, у нас каго й рэзаць,— бурнуў Грамабой.

— Пашукайце, можа й знойдзецца,—параіў загадчык.

— А мы-ж гэта думалі, можа-б вы нам Бугайнік аддалі. Зямля гэта ад вас далёка, урабляць нязручна. Ды й цераспалосіцы-б ня было. Гэта-ж яна кругом у нашым. Вось якраз малазямельным і было-б патроху,—нясьмела тлумачыў Юзік.

— Мы ўжо і на сходзе пастанавілі, каб забраць ад вас Бугайнік і Забродзьдзе,—бухнуў Грамабой. Юзікава залішняя асьцярожнасьць яму не падабалася.

Загадчык дастаў папяросу, прыкурыў і раздумліва зацягнуўся:

— Нічога з гэтага, браткі, ня будзе. Дарэмна вы пастанаўлялі. Хто гэта вам аддасьць гэтакі кусок зямлі? Я-ж каб і хацеў, дык ня маю права. Мяне-ж бы пад суд за гэта аддалі. Ды зноў жа: вам даць, а чым жа іншыя горшыя за вас? Юркавічы выходзяць на пасёлкі, скажуць— і нам дай; Дымаўка будзе выходзіць, таксама захоча сабе ўзяць кусок. Дык я так усю зямлю саўгаскую раздам, агарод сабе пакіну, дый буду з рабочымі гуркі садзіць.

Юзік маўчаў, не знаходзячы, чым перакрыць простыя загадчыкавы довады. Ён нават нейкую няёмкасьць адчуваў, быццам незнарок у чужую кішэнь залез. А Грамабой усё не супакойваўся:

— А як жа цэлыя маёнткі параздавалі, ды нічога патом і пад суд ніхто не пашоў.

— Што раздалі, то раздалі. Трэба-ж было беднату зямлёю надзяліць. А тых, што засталіся, раздаваць ня будзем. У саўгасах у нас засталося ня больш за два процанты ўсяе зямельнай плошчы і гэта зямля застанецца за саўгасамі, якія павінны стаць апорнымі пунктамі соцыялістычнай сельскай гаспадаркі. Яны павінны цяпер ужо стаць прыкладнымі для сялян, як правільна і культурна весьці гаспадарку.

— Нешта яно пакуль што...—Не дагаварыў Грамабой.

— Вядома, ня ўсё ў нас, як кажуць, на яць. Пачакайце, трохі ў пер'е ўбяромся—што вы тагды скажаце?

— А калі мы заяву ў зямельны аддзел падамо таксама нічога ня будзе?—спытаўся Кухар, бачачы, што гаворка хіліцца ў другі бок.

— Думаю, што нічога.

— А нам жа таварыш Рахлюк абяцаў, параіў нават сюды да вас схадзіць,—сказаў Юзік.

— Ня ведаю, што ён вам абяцаў, але зямлю я буду абараняць.

— Ну а як жа з цераспалосіцай?—запытаўся Юзік, каб мець адказ на апошняе, нявысьветленае для яго пытаньне.

— Ды вельмі проста,—адказаў загадчык.—Калі яна вельмі перашкаджае нам і вам, дык мы можам замен зрабіць. Як—гэта мы ўжо дагаварыліся.

Гаварыць больш ня было чаго, загадчык цьвёрда стаяў на сваім. Юзік бачыў, што тут і дабівацца няма чаго, ён толькі ня ведаў, як-жа з прырэзкамі ўсё такі: ці правільна гэта, што ў беднаты не хапае зямлі, а тут такі вялікі саўгас?

Дэлегацыя вышла з канторы трохі зьбянтэжаная, а Грамабой дык нават раззлаваны. Мулялася яму пад бокам саўгаская зямля.

Проці аборы высокі чарнавусы чалавек тлумачыў нешта другому—меншаму і шчуплейшаму, паказваючы нешта на вароты аборы.

— Што гэта тут мядзьведзіцкія расхадзіліся?—гукнуў чарнавусы, згледзеўшы дэлегацыю.

— Да паноў да вашых прыходзілі,—адказаў Грамабой, падаючы руку.

— Да паноў? Дык ты-ж, глядзі, ня ў тым баку іх шукаеш. Табе трэ' было падацца туды пад Нясьвіж,—гіроічна ўсьміхнуўся чарнавусы.

— Дык якіх яшчэ лепшых паноў трэба?—не здаваўся Грамабой.—Палацы панскія, зямля панская, гумны, аборы—усё панскае. Толькі што празваньне перамянілі—таварышы.

— Вось, наліха, не папыталіся ў цябе раней,—можа-б яно ня трэба было і праганяць Гняцецкага. Усёроўна паны, дарэмна людзей калечылі ды забівалі.—Чарнавусы глядзіць кпліва і зьняважліва.

— Дык яно-ж так выходзіць. Да пана Гняцецкага, хадзілі прасіць, каб даў зямлі кавалачак, хоць у арэнду, і да таварыша Прахорчыка таксама вось мы прышлі. Толькі ня відаць, каб пан Прахорчык быў дабрэйшым за пана Гняцецкага.

— Так, пан Гняцецкі быў добры для цябе. Я памятаю, як ён табе ўсё Забродзьдзе аддаў на чацьвёртую капу, а ты ад сябе сваім жа мядзьведзіцкім даваў па кусочку на пятую. Табе дарэмна тады людзі адрыну сена навазілі.

Грамабой адвёў вочы ў бок.

— Як гэта дарэмна? Я-ж працаваў. Не хацеў жа Гняцецкі цыркацца, па кусочку раздаваць. Ня я, то нехта другі ўзяў бы. Тагды можа мядзьведзіцкія і ў вочы-б ня бачылі сенажаці. А мне хіба мала працы было? З панам дагаварыцца ды людзям раздаць.

— А як гэта «праца» па нашаму завецца?—не адставаў чарнавусы.

— Па-вашаму ня ведаю, а па-мойму гэта праца.

— Ня ведаеш, дык вось у Пятруся папытайся,—кінуў чарнавусы на Кухара.—Тагды й ён табе з воз сена ці ня прывёз.

Пятрусь няёмка ўсьміхнуўся і зачарціў палачкаю па сьнягу.

— Чаго-ж ты на каго? Вы-ж самі траха ня кожны год аддаеце Забродзьдзе на часьці,—зноў узьняў галаву Грамабой.

— Здаём ды ня ўсім і не на пятую капу. І то гэта пакуль у нас яшчэ рабочай сілы ды коняй недахват.

Слухаючы паядынак Грамабоя з чарнавусым, Юзік рад быў, што Грамабой такі нарваўся на свайго. Але яму сорам было, што ён ў аднэй кампаніі з Грамабоем. Чарнавусага, Марціна Шнаркевіча, знаў Юзік, як і ўсе мядзьведзіцкія, ня першы год. Шнаркевіч яшчэ маладым дзяцюком застаўся за парабка да пана Гняцецкага. Зразу-ж пасьля рэвалюцыі ўступіў у партыю, а калі палякі займалі Беларусь, уцёк з былога маёнтку і дабрахвотна пашоў у Чырвоную Армію. Дэмабілізаваўшыся, зноў вяр-

нуўся на старое месца і працаваў цяпер у саўгасе, як старшы рабочы. Юзік паважаў яго, як партыйца і сумленнага работніка, і цяпер баяўся, каб Шнаркевіч і яго не палічыў за Грамабоевага аднадумца. Ён хацеў ужо ўмяшацца ў гаворку, каб растлумачыць, чаго яны прыходзілі, як Шнаркевіч сам памог яму, запытаўшыся:

— А якой гэта зямлі вы ад нас хацелі?

Юзік расказаў яму тое, што нядаўна гаварыў загадчыку.

— Ну дык добра, няхай вось яму наша зямля трэба,—кінуўся ён на Грамабоя,—а табе, Пятрусь, нашто?—запытаўся Шнаркевіч, калі Юзік скончыў.

— Як гэта нашто?—зьдзівіўся той.—Нек ты дзіўна гаворыш. Ты-ж ведаеш, колькі ў мяне зямлі.

— Ведаю я, што зямлі ў цябе няшмат, што ты бядняк. І яшчэ я ведаю, што бедната—апора савецкай улады на вёсцы. Але якая-ж з цябе будзе апора, калі ты аднэю рукою будзеш падпіраць, а другою вырываць цагліны з падмурку таго будынку, які гэта савецкая ўлада будуе.

— Не пад'еўшы, брат, ня вельмі падапрэш,—панура адказаў Пятрусь.

— Дык ня там -жа трэба шукаць, зямлі, дзе вы шукаеце. У раёне ў нас ня мала такіх, што маюць яе лішку. Вось каго трэба памацаць, дапамагчы савецкай уладзе. А то, па твойму, выходзіць так: няхай дзяржава раздасьць усю зямлю, няхай не чапае, у каго яе лішка, няхай, можа яшчэ, не бярэ падатку. А тагды й не агледзішся, як замест пана Гняцецкага зьявіцца пан Жагула, альбо хоць бы той самы пан Зязюля, а мне ды табе, а не табе, дык другому, прыдзецца да іх у парабкі ісьці. Тагды—зноў пачынай рэволюцыю спачатку, бо, выходзіць—хто каго сапхне: ці савецкая ўлада пана Жагулу, ці пан Жагула савецкую ўладу.

— Каб жа нам так гладка жылося, як табе гаворыцца,—не ўцярпеў Грамабой.

— Ах, як ты зьбедніўся!—іронічна зьдзівіўся Шнаркевіч.

— Ды я вось пра людзей кажу.

— Можа, каб ты менш пра іх клапаціўся, дык бы й лепш было.

— Дык нічога з гэтага ня будзе,—сказаў Шнаркевіч разьвітваючыся,—Бугайніка мы вам не дамо.

Юзік ішоў і думаў пра пана Жагулу, які захоча сапхнуць савецкую ўладу. Яму ўявілася, як шырокабароды Жагула, важна гугняючы, садзіцца ў брычку, запрэжаную параю гнедых жарабцоў, як лісьліва круціцца каля яго лёкай, шчуплы і вёрткі (Юзіку здавалася, што ён падобен будзе на Тодара Пошту) і як, зьбегшы з дарогі, зьняўшы шапку з павагай глядзіць у патыліцу Жагулу Сьцяпан Варанец, якога Жагула абмінае, нават ня кіўнуўшы на яго.

У гэтым малюнку больш ярка выступала тое, да чаго ён ужо раз дадумаўся сам лежачы на пасьцелі. Ён тагды спужаўся і схаваўся сам ад сябе за прырэзкі беднаце. Ён пабаяўся думаць далей, і не дадумаўся да таго, што калі нават і льга было надзяліць зямлёй да поўнай нормы ўсю мядзьведзіцкую беднату, дык усёроўна ня ўсе гаспадаркі расьлі-б раўнамерна; што больш дужы, спрытны і нахабны стараўся-б пад'ехаць на другім, а пад'ехаўшы на другім, лягчэй мог бы асядлаць трэйцяга і так буйнелі-б выбіваліся ўгору паасобныя гаспадаркі, падбіраючы пад сябе

шмат іншых. Ды апрача гэтага, не адны Мядзьведзічы на сьвеце. Дык няўжо-ж такі—паны? Ды няўжо-ж так заўсёды і будуць рваць адзін у другога з зубоў, таптаць другога ў гразь, каб самому вылезьці з балота, стаўшы на сьпіну суседа? Дзе-ж выхад? Пра камуну гавораць, пра сацыялізм, але-ж папробуй заікніся ў вёсцы пра камуну—вочы выдзеруць, выгаварыць не дадуць. Дый якая гэта камуна, як да яе дайсьці—чаму гэта ніхто расказаць ня ўмее. У горадзе, так там прасьцей: вытурылі буржуяў, забралі фабрыкі і заводы і цяпер толькі ўмей пусьціць іх у ход. А тут жа людзей з зямлі ня згоніш, і нідзе ты іх ня дзенеш, і нікім іх не заменіш. Хваробу, ня так лёгка выбіцца на пана: зямлі-ж ён каторы цяпер сабе ня купіць, а без зямлі ня вельмі разбухаецца,—усхапіўся Юзік за думку, якая хоць трохі выратоўвала яго ад пакуты яго думак.

А Грамабой, раззлаваны адпорам Шнаркевіча, як бы адказваючы на Юзікавы думкі, зьедліва бубніў:

— Усялякая жаба нос дзярэ. Вельмі асэсар ён тут вялікі—не дамо. Ды хто ў цябе пытацца вельмі будзе? Загадаюць і дасі, аж закруцішся. Ці даўно перад панам у тры пагібелі гнуўся, ён ужо тут мацыяш. Баіцца, каб паны не нарасьлі. Ды не зраўнуеш патом усіх. Бог лесу не зраўнаваў, а то людзей ты зраўнуеш. Падзялілі вось сёньня ўсё пораўні, дык на той год зноў перадзельваць давядзецца. Бо адзін будзе рабіць ад цямна да цямна, а другі будзе чэрава грэць пад сонцам. Такую-ж хваробу ён і мець будзе: зьесьць тое, што яму выдзелілі, ды зноў яму давай.

— Гаворыш ты, Ціхон, аж слухаць няма чаго,—пакрыўдзіўся Кухар.—Ды хіба-ж я ляжу, чэрава грэючы, што ў мяне вось ужо хлеб зараз канчаецца?

— Хто табе кажа, што ты ляжыш. Ня ты, то мо' твой бацька ці дзед ляжаў, што табе ад іх нічога не засталося. Дый сям'я-ж у цябе—дзякаваць богу, дзяцей пяцёра. Ня я-ж тут вінават.

— Ён на мяне ківае,—зноў уздумаў Грамабой пра Шнаркевіча.—Што-ж я ўкраў у каго ці аграбіў каго? Раблю, дык і маю. А калі людзі, бывае, у мяне робяць, дык ці яны-ж дарэмна? Бывае, шт яшчэ за паўгода наперад заплачана. Прыдзе каторы вясною: «Дзядзюшка, дай пудзік мукі». Ці бульбы мерку якую. Як тут адкажашся? Ня камень жа я, дарма, што на мяне кажуць і злосны, і нягодны, і такі, і гэтакі.

Маўклівы заўсёды Кухар больш Грамабою не адказваў. Юзік заняты быў сваімі думкамі. А Грамабой быў гаваркі сёньня, як ніколі. Памаўчыць, памаўчыць ды зноў успамінае Шнаркевіча, каб сказаць пра яго што небудзь злоснае і абразьлівае. І сам усё як бы пробаваў апраўдвацца.

## Сьнег ідзе

Мякка і нячутна сьцелецца белы пух.

У бляску вакон відаць, як лёгаюць мітусяцца, нібы скачуць нейкі невядомы танец, белыя мухі—кволыя і пяшчотныя. Нібы ўтаміўшыся, яны прысядаюць на шчокі, на нос, ня то колюць, ня то казычуць, і тут жа паміраюць, пакідаючы халодную вільгаць. Наўкола малочная муць.

У канцы сяла, наводшыбе, пры дарозе прысела старая згорбленая

школа і глядзіць ня зьмігне цьмяна-жоўтымі падсьлепаватымі вачыма на паломаныя жардзіны плоту, што тарчаць з-пад сьнегу, углядаецца ў малочную далячыню, нібы хочучы ўбачыць прывычную цёмную сьцяну лесу. А ў сярэдзіне ў школе якраз ідзе гарачая гутарка пра гэты самы лес. Справа ў тым, што цёмная сьцяна лесу зусім не такая ўжо цёмная як яна выглядае здалёк. Шмат цяжкіх хвілін за апошні дзесятак гадоў перажыў стары лес, шмат гора перанёс і палысеў. Моцна палысеў. Шмат яго лягло пад тапарамі ў нямецкую вайну, калі ля Мядзьведзіч і скрозь па рацэ Брадзянцы на сотні кілёмэтраў у даўжыню рыхтавалася адна з тылавых абаронных пазыцый, калі рабіліся цяжкія бліндажы па тры, па чатыры накаты таўшчэзных бярвеньняў, каб захаваць «расійскае хрысталюбівае воінства» ад гасьцінцаў ня менш хрысталюбівага воінства нямецкага; рабілася ў шэсьць і дзевяць радоў драцяная агароджа. Калі высьцілаліся лесам сотні кілёмэтраў новых дарог, па якіх штодзённа перавозіліся сотні тон сьмяротнага мэталю. Шмат спаласкалі лесу паны за палякамі, чуючы недаўгавечнасьць свайго панаваньня. Шмат пусьцілі з дымам самі палякі, помсьцячы краіне за партызан, якіх гэты лес туліў і грэў. Палажылі пэўны сьлед і вясковыя драпежнікі, што, як і Грамабой, апіраліся на тэзіс: «дабро народнае, а народ гэты мы. Таму, колькі хочам, столькі й бяром».

Кожны мядзьведзіцкі гаспадар, хто памятаў гэты лес іншым, з жалем у сэрцы глядзеў на яго шырокія лысіны. Шкада было лесу і шмат каму шкада галоўным чынам таму, што нехта пажывіўся, а яму самому нічога ня прышлося, ці прышлося вельмі мала.

Часта гулі мядзьведзіцкія на сходзе.

— Усякі чорт лысы з ўсяго сьвету палошчацца тут, а ты, у лесе жывучы, палена дроў ня маеш. Гэта-ж парвацца са злосьці!

І самі ехалі і секлі. Пляжылі, хто меў сілу і сьмеласьць, у першыя гады рэвалюцыі, сякуць і цяпер. Крадучыся, баючыся, але сякуць. «Палена дроў» у вуснах мядзьведзічан гэта была толькі сынедоха, поэтычны зварот, які прыкрываў сабою не адзін прозаічны воз першасортных дроў і не адзін кавалак страявога лесу.

Вось пра гэта цяпер і гаварылі ў школе пяць хлопцаў і адна дзяўчына—мядзьведзіцкая камсамольская ячэйка. Сакратар ячэйкі, шырокатвары яшчэ бязвусы хлапец, звычайна вясёлы і жартаўлівы, цяпер, разумеючы ўсю важнасьць моманту, раптам стаў сур'ёзным, нек аж пасталеў і ўзяў слова.

Пачаў ён з тэорыі і чуць не давёў, што сам Карл Маркс не ўцярпеў бы, гледзячы на такія непарадкі, але праз хвіліну ўсе свае тэорэтычныя абгрунтаваньні вычарпаў і, глянуўшы на партрэт правадыра засаромеўся і перайшоў да практычнай часткі. Сказаўшы, колькі сьвежых пнёў налічыў лясьнік за гэты тыдзень, ён прапанаваў: падняць гэта пытаньне на першым вясковым сходзе, пераканаць мужчын, што яны самі сабе гэтым шкодзяць, дабіцца, каб яны пастанавілі больш ня красьці лесу і наглядаць адзін за другім. Ніхто сакратару не супярэчыў. Шура яшчэ сказала пару гарачых слоў у падтрыманьне, пры гэтым бляск яе вачэй і энэргічныя ўзмахі кучаравай галавы сказалі больш за яе словы. Маўчаў, спусьціўшы вочы, Міхась Суравец, меншы брат таго Сергея, якога некалі зла віў атрад

па барацьбе з дэзэртырствам, аднак пры галасаваньні ўстрымацца не адважыўся.

Вышэй за ўсіх падымаў руку бязвусы чарнамазы Якуб Курыльчык. Ён нядаўна толькі паступіў у камсамол і заўсёды стараўся паказаць сваю камсамольскую вытрыманасьць і актыўнасьць. Ён ужо цяпер бачыў сябе перад вялікім сялянскім сходам. Уважна слухаюць яго вусатыя дзядзькі, люлькі і цыгаркі з роту павымалі. Слухаюць і згаджаюцца: «Праўду кажа Якуб», а калі ён унёс прапанову ня красьці больш лесу і самім выкрываць самавольцаў,—усе як адна падняліся заскарузлыя мазолістыя рукі. Назаўтра, гледзячы ў зямлю ад сораму, ідуць мядзьведзіцкія дзядзькі адзін за адным да Якуба і выкладаюць яму колькі хто сьсек хвоек. Яны каюцца, а ён абяцае нікому пра гэта не казаць, калі яны дэкларуюць больш гэтага не рабіць. Нават Грамабой і той з грубаватым жартам выкажыў яму ўсё пра свае зладзейскія ўчынкі.

Ачнууся ён ад сваіх прыёмных думак толькі тагды, калі сакратар сказаў, што пытаньні ўжо усе, і хлопцы пачалі ўставаць з лавак. Якубу тагды прышло на памяць, што яго яшчэ адна прыемная рэч чакае сёньня—зайсьці да Зьмітравых.

А ў Зьмітравых зырка гарыць на камінку смаліна і пужае дзяўчат, страляючы ім па прыпол. «Гасьцінец будзе» цешаць яны адна другую.

Самі скачуць на панажох правыя ногі дзяўчат, зьліваюцца ў адзін круг сьпіцы, жвава смычуць мокрыя пальцы сівую ільняную бараду. Вілачак зусім ня відаць: яны ў шалёным захапленьні круцяцца наўкол свайго шпяня, лёдзь спраўляючыся накручваць на шпулю мокрую нітку.

Даўно пераказалі дзяўчаты ўсе вясковыя навіны, перапелі шмат песень і цяпер трохі прыціхлі. Адна з іх, што бліжэй да камінку на зэдліку, раз-по-разу паглядае цераз плячо на дзьверы. Яе сіняя крамная сукенка і русыя, ледзь кучаравыя валасы ёй вельмі да твару. Левая шчака нагрэлася ад камінка—румяная і пульхная. Гэта той магнэс, які цягнуў Якуба да Зьмітравых.

Прышоў Якуб з Максімам Варапцом, Шурыным стрэчным братам. Жартавалі, сьмяяліся і «памагалі» дзяўчатам прасьці, скідаючы з калаўротаў шнуры і закручваючы ў кудзелі вусы.

Але дзяўчатам хутка захацелася спаць. Асабліва той, што ў сіняй сукенцы, ды яшчэ адной, з якою больш за ўсё жартаваў Якубаў сябар. Ім так захацелася раптам спаць і так заўтра зараней трэба было ўставаць, што Якуб хітра падмаргнуў Вольцы (што ў сіняй сукенцы) і ў думках пахваліў дзяўчат за розум і дагадлівасьць.

Ідучы дадому, Якуб узяў Вольчыну машыну, а яна прасьніцу. Весела таптралі белы пух, пакідаючы за сабою дзьве пары сьлядоў. Каля варот Вольчынай хаты. Якуб паставіў калаўрот на сьнег. І ён стаяў нярухома, як вартавы на важным пасту, чутка натапырыўшы адзінае скуранае вушка. Ціха драмала, прытуліўшыся да вугла, кудзеля і барада яе з сівай зрабілася белаю, а ім усё яшчэ не хацелася раставацца.

У яе—сьняжынкі на брывах і валасох ціхія і пяшчотныя. Вочы яе, вялікія і цёмныя ў малочным зроку, глядзяць на яго зьнізу, чаруюць і прыцягваюць.

— Сьнег ідзе, кудзеля намокне. Можа пойдзем ужо?—непакоіцца яна час-ад-часу.

Тады ён нахіляецца да яе, прыцягвае да сябе і цёмныя вочы на хвіліну заплюшчваюцца, а губы п'юць хмельную цеплату, якая разьліваецца па ўсім целе і туманіць галаву.

— Сьнег ідзе...—і зноў на хвіліну заплюшчваюцца цёмныя вочы...

* * *

Кіслы, цяжкі дух сустрэў Якуба, калі ён пераступіў парог свае хаты. Ён запаліў газоўку і, сеўшы каля печы на палу, пачаў разувацца. На аднэй пасьцелі спала маці з меншым дзіцём, а на другой, бліжэй да печы—трое большых. Бацька ня то спаў, ня то ляжаў на печы, яшчэ не разуваючыся.

— Сьнег ідзе?—запытаў ён, не падымаючы галавы.

— Ідзе.

— Пачакай, не разувайся.

Не адымаючы рук ад нагі, Якуб падняў галаву:

— Чаму?

— У лес трэба зьезьдзіць. Я адну хваянку сухую нагледзеў, ды такая-ж лсўкая. Усмал у версе—тыдняў на тры смалiны будзе. А з камля слупкі будуць—трэба ў хляве загараду карове зрабіць. Раскідаецца, зусім слупы пагнілі... Вось якраз добра, што сьнег ідзе, сьлед закрые за ноч.

Усе Якубавы сьветлыя думкі разьляцеліся, сэрца забілася трывожна і нудліва. Перад вачыма стаялі члены ячэйкі з рашуча паднятымі рукамі.

— Не паеду я... Я не хачу... Я не магу красьці, я камсамолец,—прагаварыў ён і шпарчэй стаў раскручваць абору.

— Я-ж ведаю, што ты не паедзеш. Ты-ж камсамолец—цаца вялікая,— дык я да старасьці павінен цябе пялегваць... Табе самому смачна зьесьці ды хораша схадзіць, а бацька—чорт яго бяры—няхай адзін душыцца. Я вось сам лапцей людзкіх ня маю, каб у сьвята абуць, а табе боты мусіў патом справіць... Душыўся,назэй не дасыпаў за працаю, гадаваў, думаў—хоць пад старасьць якая палёгка будзе. Дык не, не дачакацца мусіць... Пакуль жыў, трэба як небудзь варушыцца.—Ён зьлез з печы, апрануўся і ўзяў рукавіцы. Вузкія згорбленыя плечы ў палатаным кажушку і шалік на шыі надавалі яму нейкі хваравіты выгляд.

Бацька ўзяў з-за лавы сякеру і вышаў, не сказаўшы больш ні слова, а Якуб усё павальней і павальней раскручваў мокрую анучу. Раззуўшы адну нагу, ён спыніўся і стаў задумёна глядзець на проціпечнае вакно. Самі пабеглі дзьве сьлязіны, заказыталі каля носа і адна з іх капнула на руку. Ён патрымаў у руках мокрую анучу, узяў за канцы, чагосьці паглядзеў на яе проці газоўкі і пачаў павольна ізноў накручаць на нагу. Абуўшы нагу, ён, не сьпяшаючыся, апрануўся, змахнуў прусака, які адзінока бегаў па стале, патушыў газоўку і вышаў. Конь ужо быў запрэжаны ў простыя сані і бацька, сабраўшы лейцы, рыхтаваўся сесьці на воз. Якуб моўчкі сеў на задні вазок. Сані ціха паплылі па белым моры.

Чымся ясьней вырысоўвалася ў змроку цёмная сьцяна лесу, тым ніжэй прыгінаўся Якуб, седзячы на возе, нібы гэта цёмная сьцяна ўсё з большым цяжарам налягала яму на плечы. Калі ўехалі ў лес, ён не сьцярпеў:

— Стойце!

Бацька стрымаў каня і зьдзіўлена паглядзеў на Якуба:

— Што там?

— Нехта йшоў, здаецца,—зманіў Якуб, каб як небудзь апраўдаць перад бацькам тое, што ў яго незнарок вырвалася. І тут жа раптам яму ясна стала, што гэта «нехта йшоў» павінна яго выратаваць... хоць гэты раз, а там будзе відаць.

— Дзе там хто йшоў?—абазваўся бацька, ня хочучы верыць.—Табе здалося, можа.

— Не, я добра бачыў, як нехта перайшоў цераз дарогу і стуліўся за хвойкаю.

— Які-ж тут чорт можа хадзіць гэтакаю парою?—сказаў злосна бацька, але паганяць каня далей не асьмельваўся.

— Хто яго ведае, можа знарок хто пільнуе... Але начорта нам гэта работа, падумайце вы самі. Ня толькі тае пажывы, як абняславіш сябе, калі зловяць, ды заплаціць прыдзецца.

— У лесе—гэта ня ганьба. Ня дурны чалавек выдумаў: хто ў лесе ня злодзей, той дома не гаспадар.

— Старая прыказка, тата, і старыя людзі яе выдумалі, цяпер яна нам не падыходзіць; самі ў сябе крадзём.

— Людзі патом не глядзяць. Хаты вунь сабе пастаўлялі. Ня гэтакія справядлівыя, як мы з табою,—сказаў бацька, ужо заварочваючы каня.

— Кіньце, тата. Слупкі гэтыя самыя мы і з дроў выберам, як будзем сеч, а на газу—якую небудзь залатоўку агораем.

Але больш угаварваць бацьку ня трэба было. Цёмная сьцяна лесу патроху аддалялася і як бы раставала ў змроку, а разам з гэтым рабілася весялей і на сэрцы Якуба.

Каню таксама весела было. Любіў ён падрамаць, стоячы ў цёплай стайні над ахапкам пахучага сена, і цяпер бадзёра трухаў па мяккай дарозе, весела фыркаючы і паматваючы галавою. Дзівіла яго толькі адно: чаму гэты гаспадары бяз-дай- прычыны ўздумалі прагульвацца на ім у лес ды яшчэ ў такую позную пару?

* * *

Назаўтра, прывёўшы пад калодзеж паіць каня, Якуб застаў там Шуру.

—Здароў, начніца—адказала яна на Якубаў «дзень добры», перадаючы яму калодзежнае вядро.

— Чаму начніца?—сумеўся той.

— Па-ночы валочышся нямаведама дзе.

— Альбо-ж ты ня ведаеш! Вольку праводзіў, пастаялі трохі каля іх.

— А ў лес гэта ты таксама з Волькаю езьдзіў?

Якуб глянуў спалохана і недаверліва:

— Хто табе казаў?

— Хто бачыў, той і казаў. Бацька мой бачыў, як ехалі.

— Нічога ня прывезьлі.

— На спацар езьдзілі?

— Павер, дальбог ня прывезьлі. Я нарокам настрашыў бацьку, што нехта пільнуе, дык і вярнуліся.

— А чаго было ехаць?

— Здурнеў, бацькі паслухаў. Згорнiўся, крыўдаваць пачаў на мяне, што я не памагаю яму, дык мне нек шкода стала.

— А каб бацька падгаварыў цябе дзяржаўны склад падпаліць?

— Вось я-ж пра гэта й думаю. Нядобра зрабіў, не па-камсамольску. Нек а-ж самому сябе сорамна.

— Шура,—памаўчаўшы, нясьмела сказаў Якуб.

— Га?—абярнулася тая ўжо з каромыслам на плячах.

— Не кажы Сьцёпку.

— А ня шкодзіла-б табе на ячэйцы чухранку даць.

— Ня так чухранка страшна, як сорам велымі-ж... Ня скажаш?

— Падумаю,—адказала тая, не азіраючыся і асьцярожна ступаючы з вёдрамі па лёдзе.

Конь ужо напіўся і два разы нецярпліва пацягнуў позад з Якубавых рук, а ён усё стаяў, гледзячы задумёна на носік свайго лапця.

## Суд

Калі Тодару Пошту выклікалі да стала, і калі старшыня суду, гледзячы яму проста ў вочы і нават насупіўшы трохі ад вялікай сур'ёзнасьці свае рыжаватыя бровы, папярэдзіў, што Пошта павінен гаварыць адну толькі праўду і што за непраўдзівае сьведчаньне ён будзе пакараны, Тодар адчуў, што вочы ўсяе залі ўпіраюцца яму ў сьпіну, сьвідруюць яго, дабіраюцца да самых таемных куткоў яго нутра. Ён нічога не адказаў, толькі неяк зьбянтэжана засьмяяўся, ад чаго, старшынёвы бровы яшчэ больш зьбегліся на пераносьсі. Падняўшы вочы, Пошта зьлева ад старшыні ўбачыў знаёмага дымаўскага хлопца, цяперашнята рабочага саўгасу. «Некалі разам каровы пасьвілі, а цяпер гэта-ж і ён тут мусіць некі судзьдзя»,—падумаў Тодар і пасьмялеў, нават аж павесялеў ад гэтага. Калі старшыня папытаўся ў яго, што ён ведае пра крадзеж коняй, Пошта не раздумлеваючы адказаў:

— Ну, яны пакралі.

— Хто гэта «яны»?

— Ну, Даніла з сынам. Апрача больш няма каму.

— Назавеце іх прозьвішча,—дабіваўся дакладнасьці старшыня.

— Наздрэйкі.

— Як зваць?

— Мяне?

— Ды тых, што пакралі.

— Ну, Даніла й Мікола. Антось-жа іх добра знае,—кіўнуў Пошта на саўгаскага рабочага, што сядзеў за сталом, і а-ж зьдзівіўся сам, што старшыня ня ведае такой вядомай усім рэчы.

Наздрэйкі сядзелі на асобнай лаўцы сьпераду, зьлева. Мікола скоса, зьдзіўлена і варожа глядзеў на Пошту, калі той гаварыў, а стары нек мітусіўся, нібы яго злавілі ў пастку. Вочы яго няўпэўнена бегалі па тварух, калі ён аглядаўся на залю. Здавалася, ён хацеў усіх запрасіць у сьведкі: «Паглядзеце, людцы добрыя, што гэта робіцца на сьвеце. На нявіннага чалавека складаюць».

— Чаму-ж вы думаеце, што Наздрэйкі якраз пакралі коні?—Дапытваўся старшыня.

— Больш няма каму. Яны й авёс пакралі. Яны ўсё крадуць.

— Які авёс?

— З азярода ў Соміка. Пазалетась гэта было. Аж дзесяць снапоў.

— І гэта было даведзена судом ці як?

— Нашто там хто, калі я сам бачыў, што сьлед пашоў ад азярода аж у Наздрэйкаву адрынку.

— Ну добра. А што-ж вы ўсё такі пра коні ведаеце?

— Я ведаю тое, што позна тае ночы ў Наздрэйкавых скрыпнулі дзьверы і нехта, крадучыся, падаўся на гарод за вугал.

— І доўга ён там быў на гародзе?

— А хіба-ж я яго пільнаваў?—у тон старшыні запытаў Тодар.

— А ці ходзіць у вашай вёсцы яшчэ хто на гарод за вугал?—спытаўся на гэты раз саўгаскі рабочы.

Тодар аж губы адставіў і вусы яго сьветлыя натапырыліся ад зьдзіўленьня:

— Вось сказаў! Усе ходзім. Гэта-ж мо' табе ня ў горадзе,—адказаў ён пакрыўджаным голасам.

— І ты ходзіш?

— Ну а што-ж, я сьвяты, ці з мяне мышы выносяць?

— Дык гэта ты можа й пакраў коні?

У залі засьмяяліся. Тодар атарапеў ад нечаканасьці і абразы. Вот сук...—намякнуў ён, каб вылаяцца, але схамянуўся.

— Дык я-ж можа не... Я за сваёю патрэбаю.

— Дык можа й Наздрэйка за сваёю патрэбаю йшоў?

— Чорт ім даў, каб абудвым разам прысьпічыла,—буркнуў Пошта ўжо сярдзіта.

— Ага. Дык яны двух ішлі на гарод?—спытаўся ўжо старшыня, сагнаўшы з твару ўсьмешку.

— Удвух, вядома ўдвух. Бацька з сынам. Каб жа адзін, дык няхай бы сабе, я-б нічога. Ато ўдвух,—узрадаваўся Пошта, што нарэшце выкруціўся.

Выклікалі сьведку з Наздрэйкавых боку, дымаўскага чалавека. Баязьліва аглянуўшыся па бакох, ён няўцямна ўтаропіўся на старшыню сінява-тымі палінялымі вачыма. Уцяміўшы нарэшце, пра што ў яго пытаюць, пачаў гаварыць:

— Пра коні я нічога ня ведаю. Толькі назаўтра пад вечар дачуўся пра гэта. Але я ведаю пра Данілу Наздрэйку. Тае ночы ён быў у млыне, крупы рабіў. Яшчэ з вечара прышоўшы у млын, я застаў яго. Мы сядзелі там, гаварылі пра сёе, пра тое. Яшчэ там завозьнікі былі. А потым—можа гадзін у дзьве па поўначы, можа пазьней—надышла мая чарга, я раней прывёз за Данілу. Пашоў я крупы рабіць, а ён застаўся. Ён пасьля мяне рабіў. Я ад'яжджаў, а ён на кош засыпаў. То думаю, што ён мог вярнуцца дадому не раней, як пачало разьвіднівацца.

Старшыня зноў выклікаў Пошту:

— Вось сьведка Відуцкі кажа, што ў тую ноч, калі пакралі коні, Даніла Наздрэйка цэлу ноч быў у млыне. Што вы на гэта скажаце?

— А што мне да таго. Мусіць патрэба некая была.

— Як?—зьдзівіўся судзьдзя.—Вы-ж толькі што казалі, што вы бачылі, як абадва Наздрэйкі позна ноччу вышлі з хаты і, крадучыся, пашлі на гарод.

— Я не казаў, што я бачыў.

— Дык адкуль жа вы ведаеце, што яны выходзілі з хаты?

— Сам гаспадар, у каго каня ўкралі, Сомік гэта бачыў. Ён жа хлусіць ня будзе.

У залі зноў засьмяяліся. Старшыня таксама іронічна ўсьміхнуўся і больш не дапытваўся.

Радзілося нядоўга. Праз хвілін дваццаць абвясьцілі прысуд, паводле якога вінаватасьць Наздрэйкаў у крадзяжы коняй лічылася недаведзенай. Справу пастаноўлена было спыніць і судовыя выдаткі ў суме—10 рублёў 12 кап. спагнаць з Соміка.

Калі вышлі на двор, малады Наздрэйка спыніўся, чакаючы, пакуль будзе праходзіць Сомік.

— Не чапай ты яго, няхай яго сарочка не чапае, гэтакага чалавека. Хадзем,—цягнуў бацька Міколу за рукаў.

Даніла баяўся суду і рад быў цяпер, што хоць так яно скончылася. Але Мікола ніяк ня мог забыцца ні тых двух тыдняў, калі яны з бацькам сядзелі ў каталажцы, пакуль скончылася сьледзтва па гэтай справе, ні таго, як на яго сёньня глядзелі ўсе людзі з варожай зацікаўленасьцю, як на злодзея; як ён не адважваўся падняць вачэй, каб глянуць на людзей, і як гарэлі яго вушы ад сораму і абурэньня. Дачакаўшыся Соміка, сабраў свой твар у зьняважлівую грымасу:

— Што, выкусіў, сабака рыжы?—кінуў зьедліва.

Той увесь затрымцеў, трацячы розум ад злосьці.

— Рад, што злодзей злодзея апраўдаў?—забыўшыся на ўсялякую асьцярогу, крыкнуў ён.—Пачакай, ты яшчэ з маіх рук ня выкруцішся, знайду я на цябе ўправу. Не дажджэш ты больш красьці.

— Дармо, дармо! Паглядзім, хто на каго знойдзе. Я табе яшчэ ўпамянуся, стражніцкая твая скура!—разіў усьлед Мікола.

— Дык садзіся йдзі, дадому паедзем,—паклікаў Пошта Соміка, запрагаючы каня.

— Пашоў ты к...... мацеры. Трапло сабачае!—адгыркнуўся той і, насунуўшы кучомку глыбей на вушы, злосна пакрочыў па вуліцы.

Пошта зьнячэўку засьмяяўся, а потым абразіўся:

— Сам рыжы сабака,—пераказаў ён нядаўна чутую Міколаву лаянку, калі ўжо Сомік адышоўся.—Паткнуў кусок здору, дык думае, вельмі я ўжо расьпінацца буду. Чорт яго тут і ўнаровіць, як табе сказаць. Сам бачыў, то сам і кажы.

Мінаючы Соміка ўжо за мястэчкам, Пошта, на злосьць яму, пацягнуў каня пугаю ад падсядзёлка да хваста, аж той, спудзіўшыся, узяў галопам, але разоў два кульнуўшыся, пашоў зноў трушком, косячы адным вокам на пугу ў Тодаравых руках.

* * *

На вуліцы сабраў каля сябе чараду мужчын дзед Агей. Нізенькі і шчуплы, на крывых, выгнутых ў каленях, ножках, у падраным палатаным, падпяразаным вераўчакай, кажушку. Стаўбунаватая аблезлая кучомка наехала аж на самыя вочы і здавалася, што клінаватая мяцёлка сьветла-рыжай барады расьце з самай кучомкі. Ранейшы панскі паплаўнічы, ён і цяпер наймаўся улетку вартаваць ад патравы Забродзьдзе і Бугайнік, а зімою яшчэ сталяркаю трохі займаўся: таму заслон зробіць, таму прасьніцу альбо матавіла, а часамі і куфэрак які зглямэздае. Збудаваная за панам халупіна наводшыбе ад Мядзьведзіч на Забродзьдзі засталася цяпер Агею ва ўласнасьць, ніхто ў яго яе не забіраў. Жыў ён толькі ўдваіх з сваёю бабаю, быў трохі дзівакаваты, як большасьць старых і адзінокіх людзей, але заўсёды гаваркі і бясклопатны. Цяпер ён быў чамусьці асабліва ўзрушаны.

— Не, ня там шукаюць злодзея, ня там!—трос ён заўзята барадою.

— А хто гэта ведае, там ці ня там?

— Ведае. Той што там, усё ведае,—паказаў Агей тоўстаю крывуляю ў неба.—Ён усё бачыць.

— Чорта ён бачыў што,—пацьвельваецца Алесь Галаскок.—Цёмная-ж ноч была—тагды, а вочы ў яго слабыя, стары ўжо. Гэта-ж як я памятаю, дык ён усё ў аднэй меры.

— Не бядуй, бачыць ён лепш за цябе, дарма, што ты малады. Бачыць, ды ня скора скажа.

А калі ён ведае злодзея, ды ня выказвае, пакрывае, дык ён і сам такі самы злодзей. Вось яго й трэба сплесьці за бараду,—ня сьціхаў Галаскок.

— Маўчы, гіцлю, бо вось як засьвячу па тваёй галаве дурной!—падняў раззлаваны Агей палку.

— О-ё-ёй! Дзедачка, ня буду!—нарокам спужаўся Алесь, ведаючы, што Агей толькі страшыць.

Мужчыны сьмяяліся. Стрымлівалі сябе тыя, што баяліся граху. Малыя хлопцы былі ў захапленьні ад такога сьпектаклю.

— Ды праўда, памаўчы ты, Алесь, дай старому сказаць,—умяшаўся стары Верамейчык.

— Пачакайце, выйдзе праўда наверх. Папомніце маё слова, хіба я жыў ня буду,—гарачыўся Агей, стукаючы палкаю ў сьнег.

Так і пашоў, гаворачы ўжо сам з сабою, і грозячы некаму палкаю.

— А можа ён што й ведае, ды ня хоча казаць?—сказаў той самы Галаскок, калі Агей ужо адышоўся.

*(Працяг будзе)*

# АМАНАЛ

*(Аповесьць)*

**Аркадзь Куляшоў**

(Працяг)

## ПРАБЛЕМА ДУШЫ І РАЦЫ

### РАЗЬДЗЕЛ І.

Дзейныя асобы:
бухгальтар калгасу—Жыгнэр,
Мае гаспадарку.
Слыве за культурнага чалавека.
Да яго прыехаў у адпачынак
яго сын—Інжынэр.
Яго дачка Аўгінька—загадчыца аптэкі.
Якубовіч—сакратар ячэйкі КСМ,
старшыня калгасу
і Аўгінкін муж.
Бондар } члены праўленьня калгасу —
Баргута } Жыгнэравы сябры.
Калгасьнік-камсамолец Алесь Калужны.
Зоталь } камсамольцы-трактарысты.
Агут }

Юнак.
(Дзея адбываецца на яго радзіме,
У хаце Жыгнэра,
у выходны дзень.)

(У хаце Жыгнэр з дачкой і сынам)

Жыгнэр (*дэклямуе*).
У бухгальтара горы рознай працы,
А бухгальтар больш зоры сочыць—
Адгэтуль у бухгальтара
праблема душы і рацы...

Аўгінька:

Яго думаюць паслаць лячыцца ў Сочы.

Інжынэр:

І такое можа стацца:
Гуляючы з агнём—
папаліш рукі,
а ня толькі пагрэеш.

Ёсьць яшчэ праблема...

Жыгнэр:

Ліквідацыі кулацтва?

Інжынэр:

А мне здаецца...

Жыгнэр:

І ў нас такі „грэх"...

(*дэклямуе*)

Ня гледзячы на маю праблему
душы і рацыі,
Калі рукі пішуць лічбы,
а вочы зоры сочаць...

Ты чуеш? (*Устае*).
За лепшую працу
Калгас мяне пасылае лячыцца ў Сочы...
У кожнага свой сродак...
І от я першы пайшоў да іх,
Я першы забраўся ў калгасны асяродак.
Спачуваючы... працуючы...
(*На вуха сыну*)
і ў праўленьне ўцягваючы сваіх

Інжынэр:

Так...

Жыгнэр:

Бачачы, што трактар добры арганізатар...

Інжынэр:

Ты, вядома, ужыў сродак другі?..

Жыгнэр:

Я тлумачыў Якубовічу,
што не сягоньня, дык заўтра
Трактар заменяць электрычныя плугі.

Аўгінька:

І муж казаў, што ты чалавек вялікі,
і начальнік,
І арганізатар не благі...

Жыгнэр:

А як вынік, сёлета трактары маучалі.

Інжынэр:

А працавалі?..

Жыгнэр:

Конныя плугі...

(*На вуха сыну*).

Знаеш... Галоўнае ў гэтым сродак,
Ёсьць яшчэ добры сродак гарэлка.

Інжынэр (*на вуха бацьку*)

Іх трэба падкапаць так...

Жыгнэр (*на вуха сыну*)

З сяродку...

(*паўза*)

Інжынэр (*ціха*):

Але ўсё-ж ткі, як гэты самы?..

Жыгнэр (*ціха*):

Наш грэх?

(*Гучна*)

А ты, Аўгінька, набярыся мужнасьці,
Не надоўга... На нейкі час,
Ты павінна так ставіцца да Калужнага,
Быццам ты да яго нешта маеш.

Аўгінька:

Але-ж я кахаю мужа!

Жыгнер:

Я кажу не надоўга... На нейкі час.

Аўгінька:

Навошта гэта?

Жыгнэр:

Мне трэба...

Аўгінька:

Ты ўсё ад мяне ў сакрэце трымаеш!

Жыгнэр (*дэклямуе*):

Аб зоры вочы не застрэміш,—
Бухгальтару мроящца ў зорах грацыі,
А рукам цесна на папяровай плошчы—
Гэта ёсьць праблема душы і рацыі...

Інжынэр (*да бацькі*):

Можа мы пройдземся да пошты.

(Выходзяць).

*

Аўгінька:

Заўсёды ў майго бацькі такая грубасьць,
Ён мне наказвае строга
Яго слухацца, бо іначай ён загубіць
Майго мужа,
а сам пойдзе ў вастрог.
Але я яму ня дам
падступіцца і блізка,
Я яму не дазволю
над маім каханьнем
глуміцца надта,
Я тады сама атручу яго,
Як некалі Луіза,
Атруціла свайго Фэрдынанда...
І тады ніхто не залечыць маёй адвечнай болі *).

(Уваходзіць Якубовіч).

*

Аўгінька (*кідаецца да яго*):

А, гэта ты, мой ясны сокал!

Якубовіч (*усьміхаецца*):

Я табе даўно кажу, што ня лётаю высока.

Аўгінька:

А я даўно знаю,
што пад тваімі крыламі
мне лётаць ня нізка...

(*Паўза*).

Я нікому ня дам
падступіцца да цябе і блізка.

(Якубовіч адчыняе на вуліцу вакно).

Аўгінька:

Які сягоньня дзень, проста сонца адно!
Колькі ў гэтым лісьці бярозкі экзотыкі,
Тут пачынаецца паэзія чэрвенскай лужыны

---

*) Гэта ня аўтарава памылка,
але Аўгіньчыны словы,
Яна чытала Шыльлераву драму
і да сэрца
прымала блізка,
Таму яна пераблытала
падзеі эпізоду асноўнага,
У сапраўднасьці-ж:
Фэрдынандам была атручана Луіза.

(Глядзіць на вуліцу).

А унь ідзе Калужны, Агут і Зоталь!

Якубовіч (*кліча*):

Хадзеце сюды!

Агут Зоталь, Калужны!

(Яны падыходзяць

Аўгінька ляпае пальцамі аб шыбу).

Якубовіч:

Куда гэта вы?

Зоталь:

На рыбу!

Якубовіч:

А навошта вам гэтыя рыдлёўкі?

Агут:

А гэта, братка...

Зоталь: Капаць зямлю.

Калужны: (*паказвае на зямлю*)

Там, далёка...

Адкапаем срэбра, медзі, жалеза...

Агут:

Ці прасьцей кажучы...

Зоталь:

Думаем адкапаць фасфарыты!

Калужны.

Мы ў самы глыб залезем,

Ня можа быць, каб не адкапалі фасфарыты.

Агут (*да Якубовіча*):

Ты думаеш у нас толькі:..

Зоталь:

Балоты ды жабы?

Агут:

У нас будуць фасфарыты...

Зоталь:

Ня можа ня быць!

Калужны:

А ты, таварыш Якубовіч,

ня быў у новым лесе?

Якубовіч:

Не.

Калужны:

Ты толькі з Жыгнэрам контррэвалюцыю

разводзіш?

Агут:

Які тамака шум стаіць уверсе!

Зоталь:

Вось дзе
Вынікі!..

Агут (*да Зотаяя*):

Памятаеш як мы карчы карчавалі,
Палілі на вогнішчы старыя галіны...

Зоталь:

Там у кожным дрэўцы
праца наша чуваць,
А цяпер гэта...

Агут:

Шум стаіць уверсе...

Зоталь:

Скарб краіны!

Калужны:

Ідзем, хлопцы!

Агут:

Бывай, Якубовіч!

Зоталь:

Нам ужо час!

Аўгінька:

Пачакайце, Калужны,
у мяне справа да вас!
(Выходзіць).

Якубовіч: (*глядзіць у вакно*):

Пайшлі капаць фасфарыты і вудзіць...
Да іх падышоў Юнак...
Ён нясе вуды...
Так. Усе яны тут гаварылі,
быццам я ім чужы.
(Дзьверы адчыняюцца, уваходзіць Жыгнэр).

*

Жыгнэр:

А вось і я!
(*Да Якубовіча*).
Паважаны таварыш!
(*Дае ліст*).
Сягодня вам ліст...
(*Якубовіч хоча разарваць ліст*).

Жыгнэр:

Пачакайце...

Сядайце!

(*Якубовіч садзіцца*).

Якубовіч:

Што-ж, давайце марыць!

Жыгнэр (*усьміхаецца*):

Пра зоры?

Якубовіч:

Марыць пра ўсё тое, што на зямлі...

Жыгнэр:

Марыць пра ўсё тое, што на зямлі!

Якубовіч:

Мне хочацца думаць, як некалі...

Жыгнэр:

Мы арганізавалі калгас?

Якубовіч:

Як ён адразу ўзрос.
Калі трактар пераканаў нашага чалавека,
І той упэўнена казаў:
„Схапіў маю палоску і панёс!"
У гэтым трактары ўся сіла,
ўся маладосьць.

Жыгнэр:

Я не разумею цябе...
Ты азіраешся назад,
Паказалі мы ім гэты трактар, і досыць.
А цяпер яго трэба прадаць,—
Трэба глядзець уперад у Заўтра...

Якубовіч:

Ты кажаш, прыдзе іншая радасьць,
Прыдзе лепшы арганізатар, другі?

Жыгнэр:

Так, я кажу пра электрычныя плугі!

Якубовіч:

А цяпер хлопцы пайшлі капаць
Фасфарыты...

Жыгнэр:

Як фасфарыты?

Якубовіч:

Вельмі проста.
Хлопцы заняліся вынаходніцкай
вялікай працай...

Жыгнэр:

Кінь ты,
тут толькі:
вольнае паветра,
гарэлка, сяброўства...
Ведаю я гэту зямлю, тут з вякоў
Нічога на было, акрамя журавін ды купін
Ды балота, што расьцягнулася вакол...
Гэтую зямлю задарма прадасі і купіш.

(*Паўза*).

Хто гэта пайшоў капаць, Калужны?

Якубовіч:

Юнак, Зоталь, Агут, Калужны.

Жыгнэр:

У мяне да цябе сакрэт, дружа...

Якубовіч:

Ну?

Жыгнэр:

Я заўважаю, што Аўгінька можа табе
здрадзіць

Якубовіч (*сьмяецца*):

Яна... Якая кажа мне:
„Сокал мой, мая радасьць!"

Жыгнэр:

Я заўважаў, яна з Калужным,
Калі цябе няма, гуляе часта...

Якубовіч:

Як?

(*Рве ліст*)

І сягоньня яна сказала:
„Пачакайце, у мяне справа да вас!"

(*Чытае ліст*).

„Трэба пасляць комсамольца на працу
ў Данбас!"

(*Ходзіць па хаце*).

І сягоньня яна сказала:
„Пачакайце, у мяне справа да вас!"
(*Да Жыгнэра*).

Камсамолец Калужны мабілізуецца на
працу ў Донбас.
Чуеш! Комсамолец Калужны заўтра
едзе ў шахты на Украіну!

Жыгнэр:

Правільна (*дэклямуе*).
Каб сэрца не застрэміла калючка!

(*Падыходзіць да яго*).

Мне за цябе было крыўдна, балюча...

(*Кладзе на плячо руку*).

Я-ж цябе люблю, як роднага сына!

(Якубовіч ідзе да вакна.
Ляпае пальцамі аб шыбу).

Жыгнэр: (*дэклямуе*):

Каб сэрца не застрэміла калючка!

(Уваходзіць Аўгінька).

Якубовіч:

Якая ў цябе справа была да Калужнага

Аўгінька (*кідаецца яму на шыю. Плача*):

Я прасіла яго...
каб ён прынёс...
нам рыбы..

Якубовіч:

А?

*

(Вечар. За сталом сядзяць п'яныя госьці.
Аўгінька чытае ля грубы).

Жыгнэр (*ціха да сына*):

Ты Калужнага ў шахце затопіш?

Інжынэр:

Так...

Жыгнэр

Ты яго загубіш?

Інжынэр:

Так.

Жыгнэр:

Каб мы яго ня бачылі болей...

Інжынэр:

Так.

Жыгнэр (*падымае келіх*):

За нашага калгаснага арганізатара
Якубовіча!

Усе:

За нашага калгаснага арганізатара
Якубовіча!

(*П'юць*).

Якубовіч (*да Аўгінькі*):

Што ты чытаеш, мая радасьць?

Баргута (*да Бондара*):

Скажы мне, у чыёй я хаце?

Аўгінька.

Чытаю драму „Каханьне і Здрада"!

Якубовіч:

А?

Баргута:

Скажы мне, у чыёй я хаце?

Якубовіч (*падымае келіх*):

За вялікага чалавека Жыгнэра!

Баргута (*матае галавой*):

Старшыня, дай слова!
Слова дайце!

Якубовіч:

За вялікага чалавека Жыгнэра!

Усе:

За вялікага чалавека Жыгнэра!
(*П'юць*).

Бондар:

Падымаю келіх за нашага Інжынэра!

Жыгнэр:

- Каторы заўтра ад'яжджае!

Бондар:

Падымаю келіх за ад'езд Інжынэра!

Усе:

Падымаем келіхі за ад'езд Інжынэра!

Баргута:

Старшыня, слова!
Слова дайце!

Жыгнэр:

Слова мае член праўленьня Баргута!

(Дзьверы адчыняюцца, уваходзяць:
Калужны, Юнак, Зоталь, Агут).

*

Калужны: (*дае Аўгіньцы шчупака*):

Засмаж гэтага апартуніста!

Баргута:

Павінен адзначыць...
Перш-на-перш...

Агут (*штурхае Юнака і Калужнага*):
Хлопцы, тут ня ўсё чыста!

Якубовіч (*хістаючыся, падыходзіць*):
Т. Калужнага комсамольская
арганізацыя наша
Пасылае...
(*падае Калужнаму паперку*).
Прачытаеш! Вось яна, адносіна...
(*Да Зоталя і Агута*).
А гэта вы, таварышы трактарысты?
Павінен адзначыць адносна
Таго, што нашыя трактары пойдуць
у продаж,
І вам давядзецца пасьвіць кароў...

Зоталь:
Таварыш, кантррэвалюцыю гародзіш!

Якубовіч:
Цяпер стаіць праблема Жыгнэра,
праблема электрычных плугоў!

Калужны:
Таварыш Якубовіч, хістаешся з нечага?

Зоталь:
Таварышы, я даўно кажу,
што ў нас кулацкае засільле!

Юнак (*ціха*):
Хлопцы, трэба паехаць у раён па
сьледчага
(Яны выходзяць...
У хаце п'яная гаворка...
А ў вокнах
кавалкі вечара сіняга).

*

Раніцою.
Калі раса панавала ў сусьвеце,
Адыйшоў ад станцыі цягнік перагружаны.
І тое, як за вагонам гоніцца вецер,
Слухалі разам Інжынэр
і камсамолец Калужны.

Інжынэр:
Вось вы едзеце,
і можа больш
не пабачыце ніколі,
Як над радзімай
рассыпаецца
дождж дробны,
Як пасуцца мірныя рыжыя коні...

— Таварыш,
нам яно ўсюды будзе добра.

Інжынэр:
Будзе насьміхацца ваш вораг люты,
Што выпала выгнаньнем ваша кара.

— Я хацеў зрабіць у калгасе рэвалюцыю
І твайго бацьку
выштурхаць за карак.

Інжынэр:
Цяпер вы ня ўгледзіце тыя дробязі,
Як пасуцца на радзіме рыжыя коні...

— А калі б я ведаў,
што без мяне гэтага ня зробяць,
Я не паехаў-бы сягоньня
ніколі.

## РАЗЬДЗЕЛ II.

(Вуліца на сяле. За правага боку каапэратыў, з левага вясковая хата, у якой памяшчаецца праўленьне калгасу. Каля расчыненага вакна сядзіць бухгальтар калгасу Жыгнэр. Побач з ім сядзяць Якубовіч і калгасныя брыгадзіры. Паміж каапэратывам і праўленьнем калгасу, каля вярбы стаяць калгасныя плугі і два трактары. Тут-жа, каля абружованай ранішнім сонцам вярбы зьбіраюцца калгасьнікі на працу).

Снытка:
Нешта заседзіліся нашы брыгадзіры!

Чырка:
А табе вялікі клопат?

Лабанок:
Як яму, а мне клопат. Зямля чакае!

Дзядок:
Яно праўда, Лабанок, як не засееш,
Ня будзе тады ні нашага,
ні пчалінага клопату.

Чырка:
А ты маўчы лепей. Табе ўсяго
Каліва якое трэба,
каб прычакацца да сьмерці.

Дзядок:

А ты, Чырка, жоўтароты верабей,
Цыц! Я яшчэ з тваім дзедам
Ў аднэй лазьні мыўся. Ня тое,
Каб мы з ім былі прыяцелі,
Ня любіў я твайго дзеда—
Дужа-ж ён падобны быў да цябе:
Чыркае, чыркае, а сілы мала...
І язык у яго быў на твой падобны,
І меў твой дзед здатнасьць, як і ты,
на грэх.

Чырка:

Ты гэта так на Чырку,
Ты знаеш, хто такі Чырка!
Чырка бандыта Чырвонца біў?
(*Глядзіць на ўсіх*).
Біў!

Лабанок (*да дзеда*):

Ты знаеш, хто такі Чырка?
Гэта-ж вялікі, слаўны ваяка:
Ён спалохаўся куста на дарозе,
Ён на вёску прыбег спацеўшы,
Ён ад куста ўцякаць бег?

Усе:

Бег!

(*Рогат*).

Чырка (*да Лабанка*):

Пачакай! Калі ты такі разумны,
Скажы мне, што такое трактар?

Лабанок (*паказвае на трактар*):

Калі ў цябе галава слабая, дык зірні!

Чырка:

Не, ты ня тое... Ты ня так кажаш...

Снытка:

А што такое трактар?

Чырка:

Гэта тое-ж самае, што і саха!

Дзядок:

Хлусіць, ня слухайце яго, хлусіць!

Чырка:

Таварыш Бондар, хлушу я ці не?

Бондар:

Не! Для нас цяпер трактар тое-ж,
што і саха.

Чырка (*глядзіць на Лабанка*):

Ага!

Чырка ня хлусіць!

Сытка:

Як гэта, як саха?

Лабанок:

Як гэта?

Чырка:

А так...

Цяпер у нас будуць электрычныя плугі.

1-шы калгасьнік:

Што гэта за электрычныя плугі?

Чырка:

Не сягоньня, дык заўтра ў нас будуць электрычныя плугі!

2-гі калгасьнік:

Што гэта за электрычныя плугі?

Чырка:

Прыдуць яны на зямлю, як слаўныя ваякі,
І будуць глядзець на вазёры залатым вокам,
А ты будзеш сядзець у хаце
І круціць толькі...

(*Да Бондара*):

І будзеш круціць?

Бондар:

Штэпсаль...

Чырка:

Правільна!

І будзеш круціць толькі штэпсаль,
А яны самі, як слаўныя ваякі,
Будуць пракладаць роўныя баразны,
Ды залатым вокам угледацца на бярозы...

Сытка:

Ты кажаш толькі круціць штэпсаль?

Чырка:

Так... Толькі круціць штэпсаль!

Лабанок:

І будзеш сядзець у сваёй хаце?

Чырка:

І будзеш сядзець у сваёй хаце!

Дзядок:

Э!.. Дык гэта, выходзіць, лепш за трактар?

Чырка:

Я-ж кажу, лепш за трактар.

Дзядок:

А скажы, якое ў іх вока?

Чырка:

Ціхае такое... Ня зглазіць...

Дзядок:

Смутнае такое, бычынае?..

Чырка:

Смутнае такое, бычынае...

Дзядок:

Адкуль яны прыдуць, з-за мор'я?

Чырка:

У нашай краіне іх вырабляюць!

Дзядок:

І ў трактара вока смутнае, бычынае,
Ён як зірне ўначы на сосны,
Дык быццам абсее зорамі...
Тады мне здаецца,
Ён кропелькі суму майго носіць...

Чырка:

А новае вока ціхае... Ня зглазіць.

Дзядок:

Ты кажаш, ціхае такое, ня зглазіць?

Чырка:

Ціхае... Ня зглазіць... Бычынае!

Дзядок:

А чаму іх да нас ня прывозяць?

Чырка:

А я дужа ведаю, чаму...
(*паказвае на трактар*).
От-жа стаіць у нас гэтая ламака.

Дзядок:

Няпраўда,
гэтая машына прышлася мне па сэрцу.

Чырка:

Табе па сэрцу, а мне не...
Кожны дзень мне трэба хадзіць
за конным плугам
Тады, калі ў краіне ёсьць электрычныя плугі.

Снытка:

А ты напраўду кажаш, што ёсьць?..

Чырка:

Толькі нам іх прыслаць ня хочуць!

Дзядок:

А ты нас ня ўводзіш у грэх?

Чырка:

Паверце на слова,
на сэрца,
ня ўводжу!

1-шы калгасьнік:

А ты сам іх бачыў?

Лабанок:

Дзе яму!..

Чырка:

А можа бачыў!..

Лабанок:

А калі бачыў, раскажы.

Снытка:

Раскажы, Чырка!

Чырка: *(ня слухае)*:

От мне грошы трэба...
(*Паказвае на праўленьне*).
А яны не даюць,
толькі гоняць ды гоняць,
Працуй, Чырка, на карысьць дзяржаве,
А грошы потым, а электрычныя плугі
потым.

Снытка:

Правільна... Чаму не даюць грошы?

Калгасьнікі:

Правільна! Патрабуй, Чырка, грошы!

Чырка:

Таварыш Бондар, мы патрабуем грошы!

Калгасьнікі:

Правільна! Хоць колькі! Авансам!

Бондар:

Дык вы прасеце ў Жыгнэра!

Калгасьнікі:

Чырка, прасі ў Жыгнэра!

Снытка:

Якубовіч можа ня даць!

Чырка:

А мы яму скажам,
што на працу ня пойдзем!

Дзядок:

Так нельга...

1-шы калгасьнік:

А нам грошы трэба!

2-гі калгасьнік:

Правільна...

Чырка (*крычыць да Жыгнэра*):

Жыгнэр, нам грошы трэба!

Калгасьнікі:

Нам трэба грошы!

Жыгнэр (*у вакно*):

Прасеце ў Якубовіча!

Якубовіч (*у вакно*):

На працу трэба ісьці!

1-шы калгасьнік:

Не дасі грошы, ня пойдзем на працу!

2-гі калгасьнік:

Правільна!

Якубовіч:

Увечары атрымаеце!

Чырка:

Давай нам зараз! Ня пойдзем!

Калгасьнікі:

Правільна!

Чырка:

Выпісвай нам электрычныя плугі!

1-шы калгасьнік:

Гэй, Якубовіч!
Выпісвай нам электрычныя плугі!

Жыгнэр (*да Якубовіча*):

Трэба ім выдаць.

Якубовіч:

Няможна.

Жыгнэр:

Мы ім павінны выдаць грошы,
А тады яны пойдуць працаваць!
Чуеш,
яны крычаць пра электрычныя плугі?

Чырка:

Давай грошы! Паломім трактары!

1-шы калгасьнік:

Правільна!

1-шы брыгадзір (*у вакно*):

На працу!

2-гі брыгадзір (*у вакно*):

На працу!

Жыгнэр (*да Якубовіча*):

Чуеш, яны хочуць ламаць трактары,
Трэба выдаць ім трохі грошай...

Якубовіч (*ходзіць па хаце*):

Я ня ведаю, што рабіць
Трэба ім выдаць...
Пачакай, ня трэба...

Чырка:

Давай грошы, паломім трактары!

Жыгнэр:

Трэба выдаць! Чуеш...

Калгасьнікі:

Правільна! Грошы!

Якубовіч:

Нічога не паробіш, выдавай!

Жыгнэр (*у вакно*):

Таварышы калгасьнікі,
Заходзьце ў праўленьне, заходзьце,
Ваш бухальтар Жыгнэр выдае грошы!

Калгасьнікі:

Правільна!

*

(Калгасьнікі, каторыя першымі атрымалі грошы, выходзяць з праўленьня і начале з Чыркам ідуць у каапэратыў. На ганку каапэратыву зайграў гармонік. Калгасьнікі выходзяць з каапэратыву на ганак. Чырка і іншыя калгасьнікі нясуць у руках паўлітроўкі).

Чырка:

Пі! (*П'е*). Гуляем, хлопцы!

3-ці калгасьнік:

Папрацавалі, досыць!

Чырка:

Мы, як кляновыя жоўтыя лісты,
Адарваў вецер... Панёс (*п'е*).
І твары ў нас жоўтыя... як лісты...
Таварышы!
П'ем за электрычныя плугі.

Усе:

За электрычныя плугі!

Чырка:

І рукі нашы грубыя —
з абсіверанае кляновае кары...

(Да іх усё больш і больш далучаецца людзей. Грае гармонік. Некаторыя скачуць).

Лабанок:

А ты, Чырка, зноў за гарэлку?..

Чырка:

А як-жа, дружна... Не магу!

Лабанок:

Правільна, Чырка... Вясёлы ты хлопец!

Снытка:

Чырка! (*Паказвае на паўлітроўку*).
Бачыш!?

Чырка:

Шчасьлівы народ, гуляем!

Снытка:

Хлопцы, за электрычныя плугі!

Чырка:

Яшчэ раз за электрычныя плугі!
Няхай прыходзяць электрычныя плугі,
Тады мы будзем працаваць!
А цяпер даволі, адпачнем!

Усе:

Адпачнем! Даволі!

*

(Да трактароў падыходзяць Агут і Зоталь. Яны бачаць, што ніхто ня вышаў на працу).

Зоталь:

Таварыш Жыгнэр, ты выдаеш грошы?

Жыгнэр:

Грошы выдаю, Зоталь, грошы!

Зоталь:

Людзі ідуць піць, а не на працу!

Агут:

Жыгнэр, кінь выдаваць грошы!

Зоталь:

Мы робім прагул!

Жытнэр (*у вакно*):

Бачыце, як раскрычаліся,
Вам усё роўна нічога не належыць!
(*Сьмех*).

Агут:

Таварыш Якубовіч, зямля чакае!

Якубовіч (*у вакно*):

Хлопцы, нічога парабіць не магу!

Зоталь:

Спыні выдачу!

Якубовіч:

Ня маю права!

Зоталь:

Глядзі, ты дрэнна робіш!

Агут:

Як хочаш, а мы паехалі!

Зоталь:

Мы цябе папярэджваем!

*

(Агут і Зоталь садзяцца на трактары. Вось яны мінаюць каапэратыў. Першы едзе Зоталь).

3-ці калгасьнік:

Трактарысты едуць!

4-ты калгасьнік:

Апошнія дні дажываюць!

Чырка:

Гарманіст, грай!

(*Сьпявае*).

Сеў з вялікае тугі
Зоталь наш на трактар,
Электрычныя плугі
Яго зьменяць заўтра!
(*Зоталь раптам спыняе трактар*).

Зоталь (*да Чыркі*):

П'яніца, ты чуеш, зямля чакае!

Чырка:

Я? п'яніца? Каб ты праваліўся каменем!

Зоталь:

Таварышы, зямля чакае!

Дзядок:

Хлопцы, зямля чакае...
Яна сёлета з сокам парэчак,..
А на парэчках ягадкі,
А на сьліўках зялёныя сьліўкі,
А над зямлёю цёплыя хадзілі ліўні...

Чырка:

Рукі нашы грубыя з абсіверанае кары,
Мы хочам адпачыць, гуляць хочам,
Мы п'ем за электрычныя плугі!

Зоталь:

Ня скора яны прыдуць, электрычныя плугі!

Чырка:

Хлусіш, скора... Заўтра, чуеце, заўтра!

Калгасьнікі:

Чуеш, Зоталь!

4-ты калгасьнік:

Хадзі да нас піць!

Зоталь:

Слухайце мяне... Хлусіць Чырка!
Цэлыя караблі жыта вязе наша дзяржава
Ў заморскія краіны... Калышуцца караблі,
У іх вялікія, цяжкія, чорныя трубы,
Яны крычаць па-акіянскі,
самотна, груба...
А назад вязуць яны золата... І тады
Ў нашых домнах гадуецца мэталь,
У нашых домнах гадуецца трактарава
сталь...

(Саскаквае з трактара. Заводзіць руль. Трактар пачынае працаваць).

Чуеце! Нашыя домны гадавалі гэтую сталь
Слухайце мяне... Хлусіць Чырка!
Яшчэ ня скора ў нас будуць электрычныя
плугі,
Электрычныя плугі будуць трактаравымі
сынамі,
Мы будзем працаваць, каб прышлі яны...
Вы чуеце.. Плывуць па акіяну караблі,
У іх вялікія, цяжкія чорныя трубы,
Яны крычаць па акіянскі
самотна, груба,
У іх трактаравы сум. Яны сумеюць
па трактарох,
Так-жа як трактары сумуюць па караблёх...
А вораг хоча,
каб гарачыя вятры
зямлю папалілі,
Каб не хадзілі
над савецкай зямлёй
цёплыя ліўні...
А калі сонца паліць зямлю,
Тады яшчэ бачу я ў трактаравых вачах
Сум па густых парэчкавых рашчынах,
Сум па цёплых ліўнях...
па караблёх.

Дзядок (*падыходзіць да трактаравага ліхтара*):
Засьвяці, Зоталь, вока трактарава...

Зоталь: Адчапіся, Дзядок! Я яму ўсё хачу
сказаць,
Што ведаю....

Дзядок:
Засьвяці, Зоталь... Прашу, як сына!

Зоталь:
Таварышы (*махае рукой*).
Эх, зблытаў ты мяне, дзядок! Забыўся!
(*Запальвае ліхтар*)

Дзядок: (*да ўсіх*):
Бачыце, вока ў яго самотнае, бычынае...
(*Угглядаецца*).
Я вам кажу,
вока ў яго самотнае, бычынае...

Агут:
Таварышы, трактар мой жыве
з высокімі соснамі,
Да яго цела прыліплі кавалкі смалы!

Ён хоча працы
*(паварочвае руль).*
Паехалі, Зоталь!

Зоталь:
Паехалі!
Таварышы, за намі!

Чырка:
Не пайду, я п'ю за электрычныя плугі!

(Усё далей і далей адыходзяць трактары. Усе, акрамя Чыркі, глядзяць ім усьлед. Яны зьнікаюць за ўзгоркам).

Дзядок:
Снытка!
А вока ў яго самотнае, бычынае?!

Снытка:
Эх, расстроіў ты, дзядок, сныткава сэрца!
*(Разьбівае паўлітроўку аб слуп).*
Не магу, таварышы... Сэрца такое...
Пайду!

(Ідзе. Яму насустрач бяжыць Юнак. Усьлед за Юнаком, несьпяшаючыся, ідзе вялікі натоўп калгасьнікаў. Юнак убягае ў каапэратыўную краму).

Юнак:
Зараз-жа зачыняйце крамы!

1-шы каапэратар:
Чаму?

Юнак:
Калгасьнікі ідуць па гарэлку.

2-гі каапэратар:
Трэба зачыніць!

Юнак:
Яны ня хочуць ісьці на працу,
Мы і так спозьнімся з сяўбой!

2-гі каапэратар:
Ідуць!

1-шы каапэратар:
Зачыняй!

(Калі падышоў вялікі натоўп калгасьнікаў, каапэратары якраз замкнулі апошнюю краму).

1-шы каапэратар:
Зачынена!

1-шы калгасьнік:
Чаму? Адчыняй!

2-гі каапэратар:
Крама зачынена!

Юнак:
Каапэратары ідуць працаваць на поле!

2-гі калгасьнік:
Адчынеце, таварышы, мы самі пойдзем!

2-шы каапэратар:
Мы ідзем працаваць на поле!

(На ганак убягае Якубовіч).

Якубовіч:
На працу!

1-шы брыгадзір:
На працу!

Юнак:
Хто працаваць, за мною!

(Каапэратары, брыгадзіры, частка калгасьнікаў, Якубовіч, Юнак і Дзядок ідуць да плугоў, куды нядаўна пайшоў Снытка).

Якубовіч:
Хто працаваць, за намі!

1-шы калгасьнік:
Іду!

(Вялікі натоўп калгасьнікаў, несьпяшаючыся, ідзе сьледам за ім).

*

(На ганку застаўся толькі Чырка. Чуваць, як далёка за сялом працуе трактар).

Чырка:
Эх да, сеў з вялікае тугі
Чырка наш на трактар,
Электрычныя плугі
Яго зьменяць заўтра!
І р... рукі нашы грубыя з абсіверанае кары...

(Ад праўленьня калгасу, паўз каапэратыў, ідуць Жыгнэр, Бондар і Баргута. Чырка кідаецца да іх).

Чырка:
Адну... паў... літровачку...

Жыгнэр:
Адчапіся!

Чырка: (*хапае яго за руку*):

Я... т... табе справу зрабіў?

Жыгнэр:

Зрабіў! (*Штурхае яго, той валіцца ў лужыну*).

Чырка:

Гэта так Чырку!.. Чырку...
Каторы прайшоў агні і воды
І медныя трубы,
І электры... чныя плу... гі...

*(Канец будзе).*

# ВЯЗЬМО

*(Раман)*

**Міхась Зарэцкі**

(Працяг)

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### 1

Хоць брыгадзір Зелянюк і паказваецца ў гэтым апавяданьні, як цалкам станоўчы, мала не ідэальны гэрой сучаснасьці, але й ён, як кожны жывы чалавек, меў свае слабасьці. Так, напрыклад, ён кахаў дзяўчыну. Кахаў пяшчотна, горача, прагавіта, як т'кі й кожны хлопец гадоў у дваццаць ці троху болей, што ня ўправіўся яшчэ марна растрэсьці жыватворчы агонь свайго маладога сэрца.

Дзяўчына Зелянюкова жыла ў горадзе, і да падзей, што тут апісваюцца, мела толькі ўкосныя адносіны, але дзеля паўнейшае характарыстыкі самога Зелянюка ня шкодзіць сказаць колькі слоў і пра яго любую.

Зелянюку яна заўсёды ўспамінацца такая, як ён яе ўпяршыню ўбачыў на заводзе сярод дакучлівае гурмы экскурсантаў.

Яна стаяла над ім трошку сьмешная ў сваім наіўным захапленьні. Яна нібы брала сама ўдзел у рабоце, памагала яму. Ці толькі прыкладаў ён да дрэва разец і з-пад яго празрыстым мярэжыстым касьнікам выпаўзала сьвежая стружка, яна са шчырай турботай сачыла за пакручастым рухам гэтае стружкі. Яе тонкія бровы ўсё падымаліся й падымаліся, лоб старанна зьбіраўся ў густую сетку маршчынак, а напоўраскрытыя ружовыя губкі пацешна рухаліся ў тахт варштату. Як прымаў ён разец, напружаньне ўраз зьлятала з яе твару, і яна аж уздыхала, небарака, у раптоўным палягчэньні. Потым—ізноў.

Яна ўпэўнена была, што ён, заняты работай, ня бачыць яе, і ня мела патрэбы сачыць за сабой, за выразам свайго твару—яна памагала яму з поўным самазабыцьцём. Але ён упраўляўся ўсё-ткі кідаць у яе бок няпрыметныя погляды, і ледзьве стрымліваў усьмешку.

Скрозь высокія з дробнымі шыбкамі вокны ў цэх зазірала рэдкае зімовае сонца і гуляла па стружках залатымі жвавымі зайчанятамі. Адзін зайчык скрозь трапятаўся ў яе на твары і надаваў яму дзіўную кволую празрыстасьць. Калі-ж ён, гарэза, ускочыў быў раптам у яе старанна

раскрыты ружовы раток, Зелянюк ня вытрымаў, і, адхіснуўшыся ад варштату, голасна засьмяяўся. Яна зьдзіўлена паглядзела на яго.

— Чаго ты сьмяешся?

Ён ня ведаў, што адказаць, бо не хацеў пакрыўдзіць яе. Тады, каб парушыць няпрыемнае маўчаньне, яна запытала:

— Ты тут працуеш, у мадэльным?

— Не, я ў ліцейным.

— А што ты тут робіш?

Ён трошку падумаў, мяркуючы, мабыць, ці варта з ёй ўдавацца ў падрабязную гутарку, але зірнуў на яе шчыры, поўны сур'ёзнае ўвагі, твар і здаўся.

— Бачыш, я выходны сёньня. А варштат гэты вольны. Я папрасіў дазволу папрацаваць на ім. Так, для сябе...

— А што ты робіш?

Ён трошку засароміўся.

— Я раблю мадэль аднае машыны... новае машыны...

Дзяўчына працягнула з адкрытым зьдзіўленьнем і павагай:

— Ты—вынаходца?

Ён скрывіў твар у пагардлівую грымасу (ат, якое там вынаходзтва!), і яна, падбадзёраная гэтай грымасай, па-свойску ўсьміхнулася і, жвава падміргнуўшы яму, папрасіла:

— Дай мне паспрабаваць... Я асьцярожна...

Ён адгарадзіў яе рукой ад варштату.

— Ня можна. Папсуеш.

— А можа й не папсую?

— У нас на «а можа» ня робіцца.

Дзяўчына нездаволена скрывіла губкі. Яна пэўна й пашла-б ад яго пасьля гэтага, але, мабыць, не хацела пакідаць па сабе няёмкае ўражаньне і таму, тільна паглядзеўшы на Зелянюка, запытала:

— Ты камсамолец?

— І партыец.

— О!..

Яна змоўчала троху. Потым пахвалілася:

— Я таксама камсамолка. Ты ведаеш, што наша тэхнікумская ячэйка будзе з вашай у сутаварыстве? Будзем памагаць вам, а вы нам...

— Ведаю... А што?

— Нічога. Не дасі пакруціць?

— Ня дам.

Яна дакорліва паківала галавой і строга паглядзела на Зелянюка. Хацела яшчэ нешта сказаць, але яе гукнулі ад дзьвярэй:

— Стася! Мы пашлі далей!

Яна крутка завярнулася і пашла ад яго шпаркай цьвёрдай хадою. Ён глядзеў ёй усьлед з спакойнай усьмешкай, а як дайшла яна да дзьвярэй, ён раптам чамусьці занепакоіўся і, нібы ўздумаўшы нешта, гукнуў яе:

— Стася!

Яна перш сунялася, не азіраючыся—разважала, ці варта адгукнуцца, ці мо' лепей не зьвярнуць увагі. Але ён ужо дагнаў яе, і яны пашлі поплеч.

— Я пайду з табой па заводзе, буду тлумачыць табе. Добра?

— А мадэль?

— Дармо. Гэта ня пільнае.

... І вось ад таго часу мінуў цэлы год. Год гэты быў нязвычайны ў Зелянюковым жыцьці, бо йшоў ён паводле асаблівата дзівоснага календара, дзе было безьліч чырвоных дат, якія, каб дакладна расшыфраваць іх, далі-б надзвычайна стракатую намэнклятуру: супольны сход сутаварыскіх ячэек, сустрэча на вечары ў клюбе Карла Маркса, першы пацалунак, экскурсія ў тэхнікум, другі пацалунак, кіно, супольная паездка ў падшэфную вёску (і многа пацалункаў), даклад у тэхнікуме (ён дакладчык), вечар тэхнікуму на заводзе і выпадковая сварка (усё кончана! усё! усё!), доўгі і палкі вечар прымірэньня, брыгада па ўзаемнаму азнаямленьню з бытам, гарадзкі сад, чаромхавая ноч і прыкрае непаразуменьне з тэхнікумаўскімі варотамі (выдумалі, замыкаць!), супольны палітгурток (яны, вядома, самыя спраўныя сябры), супольны спэктакль (абое раптам— артысты) і т. д. Ды й наогул, хто можа прасачыць за гэтым дзівочным камсамольскім каханьнем, якое ўплятае чаромху ў тэзісы аб сацспаборніцтве, а ў слодыч першых пацалункаў улівае гаркавы прысмак тэорыі дадатковае вартасьці!

І вось сядзіць Зелянюк у глухіх Сівалапах, у хаце селяніна-серадняка Малаха Загароўскага і, апанаваны лютай пяшчотнасьцю, піша горачы бязладны ліст да свае каханае.

«Любая, мілая, слаўная, злосная, дрэнная Стаська!».

Пасьля клічніка ён ставіць яшчэ адзін клічнік і, здаволены, уяўляе, як «слаўная, дрэнная Стаська» ўзьніме зьдзіўлена бровы, прачытаўшы гэты ўступ, і раздумліва паківае галавой: «О...».

«Ты думаеш, што я цябе, свайго дарагога зайчыка, не ўспамінаю кожную хвіліну, кожную сэкунду, кожную... ня ведаю, ці ёсьць яшчэ што меншае за сэкунду. Ты думаеш, што я не абнімаю цябе ў думках, не цалую тваіх сярдзітых губак, тваіх зялёных—у, як у кошкі!—вочак? Ты думаеш, што, калі рэдка пішу, дык я ўжо й забываюся на цябе? Ведаеш, мая...».

Але ці варта перачытваць сьмешную сэнтымэнтальную пісаніну маладога хлопца, які, працяты нястрыманым палам пяшчотнасьці, забываецца ла ўсю сваю грамадзкую значнасьць і станавітасьць і пачынае вярзьці зусім нестасоўнае глупства!

Адылі другая палавіна Зелянюковага ліста мела зусім іншкшы характар, варты ўвагі нават сур'ёзнага чалавека. Зелянюк пісаў пра сівецкія справы.

«... і мяне дужа цешыць, што ты, Стаська, сур'ёзна (а я думаю, што сапраўды сур'ёзна) цікавішся гэтым. Дык вось... Пахваліцца асабліва няма чым. Той сход, пра які я табе пісаў, быў нам—цэлая катастрофа. Праўда, што на наш актыў ён не зрабіў уплыву—мы працуем як і раней, і расьцём. Па маіх падлічэньнях мы маем цяпер блізка пяцьдзесят гаспадароў, якія зараз-жа гатовы пайсьці ў калгас, і будуць, аб гэтым я не сумняваюся, цьвёрдыя калгасьнікі. Але мы ўсё-ткі бяром устаноўку на агульным масавы зрух, і ў гэтым сэнсе той сход падцяў нам ногі. Ён сапсаваў перадачу. Ты-ж езьдзіш на вэлёсыпэдзе, дык ведаеш, што гэта значыць, калі

не працуе перадача. Малое кола круціцца, як сьлед, а вялікага ня рушыць. Так пакуль што й мы. Ды мала таго—яшчэ спрабуюць яго, гэтае кола, крутнуць назад, бо сход той дужа паспрыяў кулацкай зграі, даў глебу для іхнай падкалоднай працы. У некаторых вёсках, дзе ўжо з'арганізаваныя калектывы, павеяла халадком—сярод калгасьнікаў зьявіліся дрэнныя настроі. Але ўсяму гэтаму мы дамо рады. Энэргіі ў нас досыць, мэта ў нас ясная, будзем працаваць як мага—і свайго дойдзем. Праўда, Стаська, ці не?

Найбольш засмучаюць мяне нашы стасункі з сэкратаром ячэйкі. У нас яшчэ, здаецца, не дайшло да адкрытае сваркі, але сутычкі былі жорсткія. Як табе вядома, ён больш за ўсіх вінаваты ў правале таго славутага сходу і вось я ніяк ня ўцямлю, ці ўсьведамляе ён гэта як сьлед, ці падманьвае сябе шкоднай бравацыяй пад дудку старшыні сельсавету, з якім ён блізка таварышуе. Наогул мяне вельмі цікавіць гэты чалавек, і я да яго прыглядаюся можа троху больш, чым трэба. Здаецца, што ён прымячае гэта, і злуецца. Але я маю на гэта свае асаблівыя прычыны, аб якіх ён і не дагадваецца.

Я табе, Стаська, пісаў ужо неяк пра гэтага чалавека. Ён перажывае цяпер сямейную трагэдыю ці, праўдзівей, робіць яе, і гэта так шчытна ўплятаецца ўва ўсё ягонае жыцьцё, у тым ліку і ў грамадзкую працу, што нават цяжка азначыць, што на што робіць уплыў і што чаму спрычыняецца.

Я добра ведаю яго жонку. Гэта вельмі сымпатычная жанчына, больш глыбокая, чымся гэта можа здацца з першага погляду. Ён бязумоўна недаацэньвае глыбіні яе перажываньняў, бо каб ведаў ён пра ўсе захаваныя мучэньні яе, ён-бы, напэўна, прысьпяшыў які-небудзь канец. Яна ніколі ня скардзіцца, унікае ад усякіх гутарак на гэтую далікатную тэму (прынамсі, са мной), але я часам бачу ў яе ў вачах ціхую надзею на нейкую староньнюю дапамогу, на нейкі ратунак. Можа я дрэнна раблю, што старанна трымаюся ў баку ад іхных сямейных непаразуменьняў? Але я бачу па ім, што было-б горай. Ён мае хваравіты гонар, які ня дасьць яму спакойна сьцерпець чыйго-небудзь утыканьня ў ягоныя справы. Гэта больш толькі раздражніць яго, і пагоршыць справу. Адно, што мы робім, гэта ўцягваем паступова яе ў грамадзкае жыцьцё (ёсьць тут на гэта адна надзвычай сымпатычная, разумная і спрытная жанчына), і маем посьпех у гэтым. Новае захапленьне патроху адводзіць яе ад заўсёдашніх згрызот.

Ну, але я табе, Стаська, цэлы ўжо рапарт выпісаў, і, мабыць добра табе надакучыў. Таму прашу прабачэньня, і, каб разьвесяліць цябе, горача цалую тысячу разоў. Не адбівайся, усё роўна рады не дасі. Тысячу разоў—ня менш.

Пішы мне, любая, часьцей, нават калі не атрымліваеш лістоў ад мяне. Калі я й ня пішу, дык не таму, што ня хачу (мне-ж гэта—усё роўна, што пагаманіць з табой, мне пісаць табе—шчасьце), а таму, што літаральна няма на гэта паквольнай хвіліны.

Яшчэ раз моцна абнімаю і цалую бяз канца—любую, слаўную сваю Стаську.

Твой Зелянюк.

Пішы мне, як і раней, на райком партыі—гэта больш пэўна».

Зелянюк цьвёрда ставіць кропку і адрывае ад ліста лятуценна-мяккі, зусім не стасоўны да яго погляд. Сапраўды, у яго адчуваньне, нібы пагутарыў, ён з сваёй Стаськай, і гэтая гутарка пакінула ў яго добры, маладыбадзёры настрой. Высьвістваючы вясёленькі напеўчык, ён акуратна заляпвае канвэрт, піша адрас доўта, старанна, нібы мае з гэтага сабе асаблівае здаволеньне. Потым устае ад стала і, падтупваючы ў тахт вясёленькаму напеўчыку, выходзіць на гаспадарскую палавіну: яго раптам пацягнула да людзей.

У хаце адна Аўгінька. Яна стаіць і глядзіць нечага ў вакно. Зелянюк падходзіць і закрывае ёй далонямі вочы:

— А нутку, адгадай, Аўгінька, хто гэта?

Ён і голасу нават не зьмяніў ды Аўгінька-ж і ведае, што апрача яго нікога ў хаце няма, але дзе-ж яна так проста скажа!

— Або... Хто-ж гэта такі? Ніяк не пазнаю... З голасу, дык быццам дзед Пілíп. Ці ўгадала?

Зелянюк пераварачвае да сябе яе твар і грозна глядзіць на яе, вытрашчыўшы вочы.

— Дык гэта я—дзед? Я—дзед, га?

Аўгінька дробна сьмяецца радая сваім жартам. Зелянюк сядае каля яе на лаўку.

— А я ведаю, Аўгінька, каго ты ў вакне выглядала.

Яна чырванее і зараз-жа зраджае сябе:

— Думаеце, што Віктара? А во й не, да-душы-ж не... Віктара й няма зусім...

— А дзе Віктар?

— Ён пашоў...

Але зараз-жа схапянулася і ўзяла цалком бязуважны тон:

— Адкуль-жа я ведаю? Што я сьцерагу яго, ці што? Толькі таго й клопату...

Зелянюк устае і дзелавіта бурчыць сам сабе:

— Так, значыцца, і скажу яму... Ня маю, значыцца, клопату, ня цікавы ён мне, ня гэткіх бачыла, хай ідзе к ліхой долі, валацуга...

— А во й не казала так, няпраўда... Маніце! Маніце! У, манюка!..

Зелянюк сьмяецца, цалком здаволены. Ён дужа падабае Аўгіньку (можа таму, што, гледзячы на яе, успамінае сваю слаўную, дрэнную Стаську?) і дужа любіць дражніцца з ёй. Ён ведае, што іх з Віктарам вадой не разальлеш, і такое заўзятае каханьне яму вельмі імпануе.

Але-ж яна, хітруньня, ведае добра, дзе цяпер Віктар, а ён патрэбен яму. І Зелянюк, лёгка зьмяніўшы тон, пытае:

— Скажы, па-праўдзе, Аўгінька, куды пашоў Віктар—мне трэба ўбачыцца з ім.

Аўгінька яшчэ з момант глядзіць недаверліва—каб ня было падкопу якога?—адылі здаецца:

— Ён пашоў у Сівец. Ён скора ўжо вернецца.

— І прыдзе сюды?

— Пэўна, што прыдзе.

Яе нават дзівіць гэтае пустое запытаньне!

— Як прыдзе, дык скажы яму, Аўгінька, што я ў Лакоты.

Аўгінька нездаволена крывіцца.

— І каб прышоў?

— Ну, дзе-ж ён адразу пойдзе! Ня кіне-ж ён цябе раптам... Ну, пагамоніце, памілуецеся троху...

— А йдзіце вы...

## 2

У Якуба Лакоты госьць: агроном Сініцкі. Старыя таварышы, удзельнікі аднаго партызанскага атраду. Разам, плячо ў плячо, прайшлі яны калісь праз страшныя, парытыя чорнымі каўдобінамі небясьпекі, гоні жыцьця, але вышлі з яго няроўныя. Побач з касьцяна-худым Якубавым тварам, нібы наскрозь прасьвідраваным глыбокімі ліхаманкавымі вачмі, шырокі дабрадушны твар агронома Сініцкага выдае можа троху й залішне рэзкім кантрастам. Ён ужо лысы, але праз лысіну сьціпла зачэсаны выстанкі рэдзенькіх валаскоў нявыразнага колеру. У яго слаўны целяпаваты нос, і нечакана востранькія, жвавыя і разумныя вочкі. Барада шырока і густа абамшэла шызаю поўсьцю, але самая сярэдзіна, самы кончык голы-гладзенькім пятачком. Круглая, роўная галава Сініцкага дужа нагадвае недасьпелы гарбуз, на адным баку ў яго сонца выграла сьветлую лысіну, ды йшчэ з другога боку спаміж лісьця вытыркнуўся быў на сонца і пабялеў пятачок, але ўвесь гарбуз цьмяны яшчэ, шыза-зялёны.

Якуб сустрэў Зелянюка з парыўчатай радасьцю. Нязграбным ад шчырасьці рухам ён схапіў яго за крысо і пасадзіў пры сабе на лаўку. Ён відавочна быў устурбаваны нечым, і ў замяшаньні шморгаўся на месцы.

— Дык вось, браточак... Глупства... Нікуды ня варты ўсе мае пляны... Вось Сініцкі, агроном. Вы-ж ня знаеце адзін аднаго? Пазнаёмцеся... Ды я й ведаў... От, так сабе, забаўка. Каб спэцыяльнасьць, практыка...

З Якубавага тону Зелянюк адразу пачуў, што гэта ён пакуль што яшчэ так сабе, ад сарамлівасьці, ці мо' з перасьцярогі, каб загадзя падрыхтаваць лёгкі настрой на выпадак магчымай няўдачы.

Аграном Сініцкі з дзелавітай няўважнасьцю прывітаўся з Зелянюком і зноў схіліў свой дабрадушны гарбуз над шырокімі Якубавымі аркушамі. Вочкі яго шнырылі борзьдзенька, жвава, што мышаняткі, і ласкава-ласкава усьміхаліся. Раз-по-разу ён вымаў з бакавой кішэні «вечнае» пяро, з спакойнай мэтадычнасьцю адкручваў яго, нешта дробненька пэркаў у запісной кніжцы і зноў, старанна закруціўшы пяро, клаў яго на месца. Потым ён узьняў галаву, паглядзеў на столь, нібы шукаў там нейкае згубленае лічбіны, апусьціў назад галаву, аж упёрся ў грудзі сьпелым пятачком, і толькі тады ўжо лагодна, здаволена ўсьміхнуўся. Якуб раптам сьціх і зірнуў на яго з непакойным чаканьнем, але ён ні з таго, ні з сяго зьвярнуўся да Зелянюка:

— Цікавая гэта работа—складаць вытворчыя пляны для новых калгасаў. Я ўжо рабіў іх у некалькіх калгасах. Гэта зусім не мэханічная работа, ня простыя выкрахункі. У нас ёсьць ужо ўзорныя пляны, але на іх пакладацца ніяк не выпадае. Гэтыя новыя гаспадаркі мы пакуль што лепім з усякае драбязы, з усякага, прабачайце, сьмецьця. І ў кожным вы-

падку прыходзіцца рабіць асобныя камбінацыі, выкручваць, перакручваць. Нават нормы выпрацоўкі, нормы высеву і тыя ня ўсюды даём роўныя...

Яго маленькія вочкі раптам мякка зазьзялі і яшчэ больш падрабнелі ад лятуценнасьці.

— Каб нам машыны ўсюды... Трактары... Каб нам хаця са два ці са тры трактары на першы абыход.

Зелянюк зацікавіўся.

— Хіба два ці тры трактары многа-б дапамаглі? Гэта-ж, фактычна, дробязь?

— Хо-хо... Гэта ня дробязь. За нашымі ўмовамі тры трактары зробяць удзесяцера болей, чым яны могуць зрабіць...

І, здаволены сваёй няўмыснай загадкай, Сініцкі ўваткнуў зноў у грудзі пятачок і неяк дужа глыбока—жыватом толькі ды носам—засьмяяўся. Зелянюк таксама ўсьміхнуўся сьледам за ім (фактычна, цудоўны сьмех агронома яго насьмяшыў) і, каб зрабіць прыемнасьць яму, зьдзіўлена запытаў:

— Як гэта разумець?

Сініцкаму яго зьдзіўленьне ўпадабалася.

— Хэ-хэ... Удзесяцера болей...

І яшчэ дзеля важнасьці хэхэкнуўшы разы са два ён, растлумачыў:

— Псыхіка... Убачыўшы трактар, і конь удвая больш узарэ. Нам ня то, што ўсё на трактары перавесьці—нам хоць паказаць гэты трактар. Трэба, каб пачулі нешта новае, большае за таго, што кожны меў у сваёй гаспадарцы... Два кані гэта—пэўна, што ня два кані, а троху болей, дзесяцера коняй разам зробяць блізка таго, што паасобку зробіць пятнаццаць, але селяніну гэтага мала, ён ня зьдзівіцца, убачыўшы ў калгасе свайго каня і свой плуг, хоць і будзе ісьці ён у чарадзе з суседзкім. А трактар ён паважае... ого!..

Зелянюк з настойнай цікавасьцю ўзіраўся ў гарбузаваты твар агронома Сініцкага, у яго вясёлыя і разумныя вочкі. Гэты чалавек яму падабаўся: у ім многа было прастаты і здаровае дужае кемкасьці. Зелянюк паспрабаваў уявіць яго ў рабоце і чамусьці, не ўважаючы на ягоную грубіню, целяпаватасьць, мог уявіць яго толькі рухавага, круткага, няўтомнага. Бадай што гэткі і быў аграном Сініцкі.

Тым часам небарака Якуб з ледзьве стрыманаю нецярплівасьцю чакаў свайго прысуду. Ён скрозь сачыў за Сініцкім, ня зводзячы з яго гарачых вачэй як дзіця з марудлівага бацькі, што, прыехаўшы з кірмашу, ніяк не зьбярэцца паказаць прывезенага гасьцінца. Нарэшце ня вытрымаў ён і запытаў:

— Ну як-жа гэта мая тлуманіна?

Ён як мага стараўся надаць свайму голасу і ўсьмешцы сваёй спакойную бязрупатнасьць, ды ня выходзіла: усё роўна чуваць было яго балючае ўзрушэньне. Аграном дабрадушна засьмяяўся і палэпаў яго па плячы:

— Хэ-хэ... Ты хочаш хлеб адбіць у мяне... Ды ці толькі ў мяне—тут і па будаўнічай лініі ці мала чаго намудравана...

Якуб глядзеў на яго, зьбянтэжаны яго жартаўлівым тонам. Тады Сініцкі сказаў зусім сур'ёзна:

— Во што, Якубе. Я-б гэткага пляну ня склаў, каб мне, скажам, прапанавалі зрабіць для вас... Праўду кажу. Бо ты-ж ведаеш тут кожны лапік зямлі, кожную, у каго якая ёсьць, шаўлюжку і ўсё гэта ўзяў на ўвагу, падрахаваў, сплянаваў... Маладзец, Якуб... Гэта, ведаеце, праца дык праца...

Апошнія словы Сініцкі сказаў да Зелянюка—гэтым падкрэсьліў сур'ёзнасьць свае ацэнкі

Якуб Лакота гарэў ад шчасьця. Значыць, праца ягоная была ня марная! Значыць, ён не дарма сядзеў начамі над гэтымі вялізнымі аркушамі, над гэтай цяжкой, новай, неабыклай для яго справай!

Раптам Якуб пыхнуў увесь, заміт:сіўся.

— Гэта-ж мы з Мікітам... мы ўдвух...

І—нібы гэта было пільна патрэбна, нібы бяз гэтага ня можна было й абыйсьціся—выбег з «габінэту», гукнуў малога:

— Сьцёпка! Бяжы зараз пакліч Мікіту Лаўрыненка. Скажы, каб як стой быў тут. Ну, смалі!..

Прышоў Мікіта—дужы хлапчына з масяндзовым тварам, троху сутулаваты, унурысты і маўклівы. Станавіта і нязграбна парукаўся з усімі і з паблажлівай усьмешкай стаў слухаць Якубавы радасныя тлумачэньні.

І—нібы згаварыліся—сьледам за ім упёрся ў хату камляваты, безнадзейна заблытаны ў густой пахлычанай барадзе дзядзька Тодар, Малахаў сваяк, Зелянюковага гаспадара. Прыбег Віктар, бурна засопшыся ад бягні, ці можа ад перарванае сустрэчы з Аўгінькай. За ім—яшчэ, і яшчэ, і сыйшліся, няклікаnыя, нечаканыя мала ня ўсе сівалапаўскія актывісты—на вялікую зелянюкову радасьць і здаволеньне.

Аграном Сініцкі сядзеў сярод гурмы сялян пышна-распараны тоўсты, як самавар, і, як ад самавара, расплывалася ад яго наўкола моцная гаспадарская цяплыня, сагрэваючы дзядзькоў ціхамірна-дзелавым настроем. Нічога не гаварыў ён вялікага, выдатнага—от, перабіраў усякую драбязу, распытваўся, тлумачыў. Але гэтая драбяза набірала ў яго асаблівае значнасьці, трываласьці і трапна ўклінъвалася ў агульную сыстэму новых, прынадных для мужычага розуму, меркаваньняў.

Зелянюк адпачываў. Яму давала надзвычайную прыемнасьць сачыць так за паступовым, але пэўным рухам калектыўнага настрою, якім з дасканалым умельствам кіраваў гэты тоўсьценькі гарбузаваты чалавек. Вось працяліся ўсе спакойнай развагай—паціхлі, утупілі хто куды лятуценна-застыглыя вочы. Вось занялося лёгкае сумненьне—паўзьнімалі галовы, насаражыліся. Гэта—добра. Гэта наўмысьля ён, таўстун, дазволіў ім на нейкі час пасумнявацца—з сумненьня заўсёды родзіцца мацнейшае пераконаньне. Адно слова, адна нязначная драбязговая заўвага, і сумненьне абярнулася ў упэўненасьць—здаволена ўсьміхаюцца ўжо і пазіраюць адзін на аднаго з вясёлым зьдзіўленьнем (бач ты, як яно, га?). А вось пашло ўжо глыбей, ужо лёгка-крытычны настрой цалком распускаецца ў прагнай цікавасьці, перарастае ў захапленьне. І ўжо дрыжыць на тварах творчая нецярплівасьць, ужо карціць кожнаму паспрабаваць, рызыкнуць, распачаць нарэшце, нешта новае, неабыклае.

Зелянюк і ня прымеціў добра, як яно сталася, але скончылася на тым, што загарэлася раптам настойнае злоснае абурэньне—на Сівец, на сівецкіх

«чыстых» гаспадароў, што марудзяць толькі, не бяруцца самі і іх, сівалапаўцаў, забаўляюць.

— Што на іх глядзець? Яны раздуроныя, яны адно глядзяць, каб як лучыць на лёгкі хлеб.

— Яны так і год будуць валаводзіць, а пры іх і мы сядзім.

— Ня хочуць, дык ня трэба. І бяз іх абыйдземся!

Тут, вядома, значную ролю грала даўная ўзаемная варожасьць паміж Сіўцом і Сівалапамі. Можа з гэтага й пайшло, можа проста жаданьне казырнуць, падцерці нос фанабэрыстаму Сіўцу штурхнула іх на раптоўную рашучасьць, але загудзелі раптам Сівалапаўскія актывісты, каб не чакаць Сіўца, не марудзіць, а ўзяць ды арганізаваць свой асобны сівалапаўскі калектыў.

— А тады хай, хто хоча, ідзе да нас, запісваецца.

— Ня ўсё-ж нам да іх хадзіць!

— Ды йшчэ паглядзім тады, каго возьмем, а каго й не!

Зелянюк раптам зьдзівіўся, як гэта дасюль ня прышла яму ў галаву такая простая і трапная думка. Праўда, што многа ёсьць нездаровага і няпэўнага ў гэтым патрыётычна-задзёрыстым настроі, але ў грунце сваім ідэя правільчая. Настрой створаны, глеба гатова, і марудзіць нельга, трэба сеяць, каб не спазьніцца, каб не ахаладзеў запал і рашучасьць. Будзе прыклад Сіўцу. Хай сабе й канкурэнцыя, гэта не пашкодзіць, а яшчэ паспрые агульнаму руху.

І Зелянюк цалком падтрымаў замер сівалапаўскіх актывістых. Ён нават узяў самахоць на сябе абавязак абладзіць гэту справу з фармальнага боку, каб ня было ніякіх затрымак.

Пасьля шумных гарачых размоў позна ўвечары разышліся з Якубавае хаты дзевятнаццаць чалавек сяброў новага Сівалапаўскага калгасу, які меў ужо нават—праўда, толькі ў праэкце—гучную і троху прэтэнзыйную назву «Наша перамога».

Калі Зелянюк, разьвітаўшыся з мужчынамі, узяўся ўжо быў за клямку свае форткі, нехта нязграбна і рвучка скубануў яго за крысо. Ён інстынктыўна адшаснуўся ў бок і напружыўся, гатовы даць адпор невядомаму напасьніку, аж на вялікае сваё дзіва, замест сабакі ці яшчэ якой зьвярыны, убачыў каля сябе разматлашаную ў цемры фігуру чалавека. Чалавек стаяў, прыпёршыся да варот, цяжка варушыўся і мармытаў сабе нешта пад нос. Яго грамозднае мешкаватае тулава паказвала відочную тэндэнцыю асесьці на дол—ён быў бязьмеры п'яны.

— Хто тут?

Чалавек парыўчата тарганууся і на момант адлучыўся ад варот, але зараз-жа зноў узяў ранейшую паставу. Маляўнічым гэстам выставіў наперад руку і загаварыў інтымным шэптам:

— Таварыш... Я п'яны... да-душы, п'яны... Я набраўся, як сьвіньня...

У голасе ў яго было поўна пакорнага трагізму і разам з тым задаволеньня. Ён нібы каяўся, што п'яны, і разам выхваляўся гэтым.

Зелянюк пазнаў Паўлюка Гвардыяна. Ён падышоў бліжэй да яго і спагадліва запытаў:

— Да хаты мусіць не патрапіце, дзядзька Паўлюк?

Сельская народная школа. У пакоі настаўніцы над тазам пры вакне Люба перавязвае руку нізкаму чарняваму селяніну. На сярдзітым твары яго паблісквають вочы. Раптам у іх загараецца агонь пяшчоты і падзякі і з сярдзітага, гнеўнага—твар селяніна робіцца па-дзіцячаму простым, наіўным.

Люба завязвае кончыкі разадранае напал палоскі марлі на руцэ селяніна і з аблягчэньнем глядзіць на параненага.

Твар чарнявага імгненна робіцца жорсткім і рашучым.

Люба перахоплвае яго погляд.

Вуліцаю едуць стражнікі з вураднікам і аконамам пана Вайніловіча.

— **Па маю душу... Дык не-ж, мая душа яшчэ можа спатрэбіцца людзкому гору.**

Люба робіць яму знак пачакаць. Адрывае кавалак паперы і шпарка піша на ёй алоўкам. Скончыўшы пісаць, падае селяніну.

— **Аддайце гэта Дубу... Уцякайце хутчэй, а то будзе позна.**

З удзячнасьцю і выразам пяшчоты на твары чарнявы кланяецца настаўніцы і зьнікае за дзьвярыма.

На вуліцы. Стражнікі зганяюць усё сяло пад стараставу хату.

Недаўменьне, абыякавасьць, страх і азлабленьне на тварах людзей.

Перад стараставаю хатаю на вуліцы стол, накрыты белым настольнікам. За сталом стараста, аконам, ураднік.

Па адным падыходзяць да стала людзі.

Погляды ўсіх трох за сталом упіваюцца ў кожнага, хто падыходзіць Панурыя, векавым горам прыбітыя постаці людзей.

Да стала па чарзе падыходзяць сяляне.

Аконам схіляецца да ўрадніка і гаворыць таму на вуха.

Ураднік ківае галавою. Да стражнікаў—паказвае на селяніна: узяць яго.

Зьбянтэжнасьць, спалох ахапляюць селяніна. Ён спрабуе вырвацца з дужых рук стражнікаў, але за гэта на плечы, на галаву, на рукі сыплюцца ўдары гарапнікаў і няшчасны «падначальваецца» загаду начальства.

Далёка за сялом прыгнуўшыся бяжыць чалавек. Завязаная рука яго засунута пад сьвіткаю ў запазуху. Ён усё далей і далей бяжыць ад сяла, час-ад-часу азіраючыся, пакуль сяло зусім ня зьнікае за ўзгоркам.

Жандарскі ротмістр у сваім габінэце. Пальцамі правай рукі трымае ён перад сабою фота-партрэт. На адвароце надпіс цьвёрдым выразным почыркам..

«Ларыса Нясла́ўская—хрышчоная дачка памешчыка Вайніловіча»..

Ручныя сялянскія жорны. Жылаватая грубая рука круціць за млён цяжкі камень. Другая рука загрэбае мукі, расьцірае ў пальцах. Дробным струменчыкам сыплецца мука на под. Усё шпарчэй ды шпарчэй круціць рука жорны.

Дуб. Ён сьпявае і меле.

Усё шпарчэй ды шпарчэй круціцца камень жорнаў.

У сенцы, засопшыся, параблены ў балота і пыл, убягае чарнявы нізкі селянін. Момант глядзіць на Дуба і падае паперку, пісаную Любай.

Леваю рукою Дуб бярэ паперку. Правая круціць жорны.

З цягам чытаньня правая рука Дуба ўсё павольней і павольней круціць млён.

З запытаньнем пазірае на яго чарнявы селянін.

Дуб разрывае запіску і выбягае. Праз момант прыходзіць апрануты ў ў сьвітку, з-пад якое выглядвае ручка маўзэра.

Дуб зашпільваецца, падхопвае пасланца пад руку і выходзяць абудва з сянец.

Жандарскі ротмістр апошні раз глядзіць на партрэт Ларысы Няслаўскай і хавае яго ў шуфляду стала.

Насупроць вакна габінэту на вуліцы спыняецца лёгкі экіпаж, запрэжаны параю коняй, з хурманом у жандарскай форме.

Ротмістр выходзіць і садзіцца ў экіпаж.

Роўна едзе экіпаж.

Блішчаць наглянцованыя боты.

Блішчаць, нібы маслам аблітыя, вочы.

Блішчыць ружовы гладкі твар.

Блішчыць увесь з ног і да галавы жандарскі ротмістр Налімаў.

На ціхай няшырокай вуліцы з прысадамі экіпаж спыняецца перад домам пана Вайніловіча.

На дарогу, па якой раніцай праехалі стражнікі, выходзяць з сяла па два шасьцёра сялян. Рукі павязаны за сьпіною. Па бакох едуць стражнікі. Пазадзе ураднік з аконамам.

За урадніквава стрэмя хапаецца праставалосая ў сьлязах маладая кабета з дзіцём на руках.

Нага урадніка штурхае ў грудзі кабету—«абрыдла ўжо».

Прыціскаючы дзіця да грудзей, падае на дарогу кабета.

Усьміхаецца ураднік.

Усьміхаецца аконам.

З задняга раду паварочваецца малады селянін.

У роспачы і гневе сілкуюць вырвацца з вяроўкі рукі, але моцным вузлом завязана вяроўка.

Са злосьці плюе ён ураднiку ў твар.

Гарапнік з сілаю ўпіваецца ў плечы селяніну—раз-другі-трэці.

Далёка пазаду прыбітая горам кабета з дзіцем.

З канца сяла на дарогу выяжджаюць дзьве сялянскія хурманкі.

Хурманкі шпарка набліжаюцца да гледача. На іх—па тры чалавекі. На пярэдняй у перадку на каленях сядзіць і паганяе каня Дуб. На задняй—Ясь.

Хурманкі абмінаюць арыштаваных сялян і зьнікаюць у лесе.

Жандарскага ротмістра сустракае на парадным ганку сам пан Вайніловіч. Ён радасна вітаецца, гасьцінна запрашае да пакояў.

У пакоі. Ротмістр аглядаецца кругом, быццам чакаючы ўбачыць яшчэ каго, падыходзіць да пана Вайніловіча.

— **Ці больш нічога ня чуваць, пане Вайніловіч, пра падпал?**

Пан Вайніловіч ківае адмоўна галавою.

Ротмістр сядае ў мяккае крэсла пры вакне—яму добра відаць праз рэдкую сьвіцюшчую фіранку ўсю вуліцу.

— **Нічога, пане Вайніловіч... Мы хутка дамо гэтым паном падпальшчыкам цуглі ў зубы.**

Рагоча ротмістр.

Усьміхаецца пан Вайніловіч.

Цягуткім зьнясіленым крокам ідуць пад стражніцкім канвоем арыштаваныя. Кругом лес. Наперадзе з абудвых бакоў абступаюць дарогу густыя кусты.

Вураднік вымае з кішэні пачак папярос, закурвае.

— **Рукі ўгару!**

Стражніцкія коні шарахнуліся ў бакі. Папяроса выпала з рук у вурадніка.

Перад стражнікамі шасьцёра ўзброеных рэвальвэрамі чалавек (яны нядаўна абмінулі на дзьвёх хурманках арыштаваных з стражнікамі).

Падымаюць рукі ўгору стражнікі.

Туліцца за вурадніка аконам. Паднятыя рукі трасуцца ў паветры. На руцэ пацялепваецца гарапнік.

Памахваючы маўзэрам, Дуб падыходзіць да вурадніка.

Вураднік вырывае з кабуры рэвальвэр.

Стрэлы. Дым. Мітусяніна.

Калі разышоўся парахавы дым... Чацьвёра ўзброеных рэвальвэрамі трымалі за аброці чацьвярых стражніцкіх коняй. Пяты перарэзваў вяроўкі на руках павязаных сялян. Леваю рукою вураднік трымаўся за правую акрываўленую. Рэвальвэр вурадніка павіс на шнуры.

Па Дубаваму знаку яго таварышы абяззбройваюць стражнікаў.

Рэвольвэр вурадніка пераходзіць у Дубава ўладаньне.

Цяпер Дуб заўважае аконама. Ён загадвае апошняму апусьціць рукі і падаць гарапнік.

Гарапнік у Дубавай закасанай руцэ.

Дуб памахвае ім перад сабою, мацае лапатку на канцы гарапніка. Глядзіць на аконама і вясёлая ўсьмешка прабягае па вуснах.

Тлустая фігура пана аконама.

Рука з гарапнікам узьнялася над галавой у Дуба.

Лапатка гарапніка ўліпла ў тлустыя плечы пана аконама.

Спалохашы конь скочыў у бок і аконам гарбузом скаціўся з сядла на дарогу.

— **Тым часам мо' пану аконаму хопіць на памяць.**

Пасьмейваюцца зьбянтэжаныя і радасныя, разам вызваленыя сяляне.

Пан жандарскі ротмістр жвава гутарыць з панам Вайніловічам. Пану ротмістру добра відаць усю вуліцу. Раптам нешта так зацікаўлівае пана ротмістра на вуліцы, што ён забываецца пра гутарку з панам Вайніловічам.

Пан Вайніловіч два разы пытаецца нечага ў ротмістра, але той моўчкі сузірае вуліцу.

Зацікаўлены пан Вайніловіч глядзіць у другое вакно.

Вочы ў пана Вайніловіча расшыраюцца, акругляюцца ад нечаканасьці, ад зьдзіўленьня і ў момант звужаюцца, і месца зьдзіўленьня заступае жорсткасьць, гнеў.

Пан Вайніловіч адрываецца ад вакна і пруткім сярдзітым крокам выходзіць з пакою.

**— Гэта ваша дачка, пане Вайніловіч?**

Адрываецца ротміст ад вакна. Азіраецца, ня чуючы адказу.

Пан Вайніловіч на парадным ганку.

Ветліва—але цьвёрда ссунуты бровы—кліча Ларысу.

Перад вачыма пана Вайніловіча... Памахваньнем рукі над галавою Ларыса разьвітваецца з Ігнасём. Ігнась па тым баку вуліцы здымае шапку і кланяецца адвітальным паклонам Ларысе.

Сярдзіта кліча Ларысу пан Вайніловіч.

Ларыса ўзьбягае на ганак.

**— Я забараняю табе зьневажаць гонар майго і свайго імя гутаркай з усялякім людзкім атрэп'ем.**

Зьдзіўлены твар Ларысы, але яна нічога не адказвае.

У пакоі. Пан Вайніловіч знаёміць Ларысу Няслаўскую з ротмістрам.

Моцна сьціснуты вусны ў Ларысы. Халодна падае яна руку ротмістру.

У пакой убягае ўвесь абліты потам аконам.

За аконамам—абязброены, паранены вураднік.

*(Канец будзе).*

## З ВЕРШАЎ ПРА ВЭНГРЫЮ

**Анатоль Гідаш**

### Пачаў колас налівацца...

Пачаў колас налівацца—так і ёсьць.
От зьбяром, глядзі, самдваццаць—так і ёсьць.
Пану зернятаў асьміну—так і ёсьць.
А сабе адну мякіну—так і ёсьць.

Навальніцы дыша поступ—так і ёсьць.
Хутка дуба стануць косы—так і ёсьць,
Ды з ляза агонь ускінуць—так і ёсьць.
Кроў пальлецца ручаінай—так і ёсьць.

Будзе з неба кроў бруіцца—так і ёсьць.
Стане ўсім тады зямліцы—так і ёсьць.
А каб колас браўся ўгору—так і ёсьць,—
трупы конскія заворам—так і ёсьць.

### Прыкрочыў вечар, блізка ноч

Прыкрочыў вечар, блізка ноч.
Забралі роднага даўно.
Ён цэлы год з тугой бяззорнай
на ланцугу ў закрацьці чорным.

Не перайсьці праспэкт Ваці,
Як сэрцаў злосьць, не перайсьці.
Гнеў бацькі! Бі пад неба проста
і дамагайся лютай помсты.

Так бацька вернецца да нас,
тады адчыніцца сьцяна,
і ў той-жа час, у хрыпе кратаў,
замкнецца зноў,—але за катам!

Так будзе! Так будзе! Так будзе!

## Крычэце!

Матыяс Ракошы і два ягоных таварышы кінуты ў падземную камэру, дзе яны абвясьцілі галадоўку і галадавалі 12 дзён.

Яны ляжаць на дне падземных камэр,
Над імі вісьне змрок,
іх душыць голад.
Крык просвы ўзрушыць дол
і кане.
І так бясконца зноў
ліецца з сэрцаў кроў.

Іх чарапы—вірлівыя катлы,
Іх думкі—дынаміт
вялікіх мецяжоў.
А голад ухапіў ужо
зьнясіленае горла.
Ужо бруіцца змрок
ў шырокіх воч асьлепленыя жорлы,
бурай лютасьці ахоплены вастрог.
і
А мы вось,—край?
А мы,—ўвесь край? Таксама
Над намі сьмерці лямант.
Над намі так-жа вісьне змрок,
нас так-жа душыць голад.
Дзесяцігодзьдзе
Крывёй сыходзім,
Нас так-жа цісну́ць зьдзекі і вастрог.

Крычэце!
І таму—што промні вы,
вы—стрэлы,
на ворагаў вастрэце зноў
бліскучае сваё лязо.

Крычэце!
І таму што вы—набат арліны,
што уздымае сьвет—
люцеюць горы і даліны
і помсты выбух сьпее у траве.

Крычэце! ут
Бо распалены вугальлем гак
убілі ў кволыя суставы
твае кароткай славы,
О, рэвалюцыя!

Крычэце!
Бо над нізінай
дзесяцігодзьдзя
чорнай,
гарачай злосьцю львінай
панура пеняцца сузор'і.

Крычэце!
І таму, што голад ухапіў ужо
зьнясіленае горла,
ужо бруіцца змрок
ў шырокіх воч асьлепеныя жорлы...

Крычэце!
І таму, што мы вось,—край—
Мы,—край увесь,—і па-над намі
гайсае сьмерці лямант.
Над намі так-жа вісьне змрок,
нас так-жа душыць голад.
Дзесяцігодзьдзе
крывёй сыходзім—
нас так-жа цісну́ць зьдзекі і вастрог.

Крычэце!
О, нашы чарапы—вірлівыя катлы.
І сэрцы з-пад зямлі пяюць пра помсту.
Глядзеце:
полымя з расколін.

Пераклад **М. Л.**

# ПАЭЗІЯ

## Юрка Віцьбіч

Гэта яшчэ ня боль, калі часам занываюць у цяглішах, дагэтуль пэўных і паслухмяных, кулі трох рэвалюцый і чатырох франтоў.

Гэта яшчэ ня боль, калі часам захрыпяць, зыходзячы крывёю, раструеныя серкаватым газам цахоў і патлівай іржой сутарэньняў, лёгкія.

Гэта яшчэ ня боль, калі часам застыгнуць, прыпыняючы выразны дзынк, пабітыя пад бярэмямі бязьмежнай нянавісьці і бясконцавай любасьці, сэрцы.

Болезны боль, за ўсе болі большы боль, калі над шыльдай:

| Хэмічны завод<br>„СПАРТАК"<br>(некалі—„Артур Лібэрдзіб і К°") |
|---|

затрымціць мачульнымі лахманамі рагожны сьцяг, калі сацьмее, у пашчах кільнаў *) скварная чырвань, калі не затрымліваюць надысь сумленныя фільтры атрутны бруд.

Тады працуюць у цахох, сьціраючы адзнакі паміж учарашняй гадзінай і сёньняшняй хвілінай, пакуль толькі дазваляе нэрвамі пераплеценая істота працаваць без адпачынку, а ў часіну кароткага, як уздых хадуна, адпачынку, ускакваючы з ложку, крычаць праз настарожаны паўсон—трывожна і прызыўна:

— Палундра, браткі **)! Рагожны сьцяг! Прарыў!

А мо' хто-небудзь адчуваў калі большы боль?

— Ніхто і ніколі!—нечакана ўслых адказаў на высунутае думкамі рубам пытаньне, курмелісты, з юнацкім палам у вачах і дзядоўскай сівізнай на скронях чалавек, хутка ідучы праз заводзкі дзядзінец. Гэтага жвавага чалавека, які зусім нядаўна атрымаў у праходным пункце сталы пропуск і табэльную бляху, ужо добра ведаў увесь—трыстагаловы, серкавым іскраком зацярушаны, серкаватым газам агорнуты—«Спартак». Частка рабочых, не аднойчы пытаючы ў бібліятэках кніжок Фэлікса Стасуліча, ведала яго і раней, па жыцьцём жывым прасякнутых творах, якія прыму-

---

1) Кільны—печы на кісьлінных заводах, у якіх абпальваецца серкавы іскрак.
2) Палундра—пад гэты крык у паўднёвых партох ідзе вокамгненная па тэмпу праца

шалі чытача сьмяяцца і плакаць, любіць і ненавідзець, а завод цалкам ад кільнаў да апаратаў, пазнаёміўся з пісьменьнікам тады, калі, прымацаваны райкомам партыі, ён спачатку рэдагаваў шматтыражку «Чырвоны Хэмік» і апошнім часам быў сакратаром парткалектыву. Абгінаючы абгароджаную пляцоўку, каля склада выробленай прадукцыі, Стасуліч раптам спыніўся. Тыдзень таму гэтак дзўна парожняя пляцоўка, ужо напалову была застаноўлена вялікімі бутлямі з серкавай кісьлінай. Над асьвятлёнымі сонцам бутлямі падымалася сінявая смуга, уласьцівая толькі высокаякаснай кісьліне.

— Як прыгожа дыміцца, Фэлікс? Га? Нібы асобная сорак пятая спынілася прасушваць анучы. Учора выканалі плян на 102 проц., а сёньня разгортваючы наступ маем выканаць на 105 проц.,—пачуўся нечакана з другога боку пляцоўкі звычны бас, і зірнуўшы Стасуліч убачыў, раней не заўважванага, дырэктара заводу Андронава. Рослы, з даўно няголеным віліцуватым тварам, з ордэнам Чырвонага Сьцягу на кашулі, ён абмацваў вачыма бутлі, і толькі аднымі вачыма, звонку спакойны, усьміхаўся. Паціснуўшы Стасуліч паціснуў руку дырэктару, які пазьней за яго прышоў на «Спартак» і ў першую сустрэчу яны не адразу, але ўсё-ж спазналі адзін у адным старых знаёмых. Толькі ніхто на заводзе яшчэ ня ведаў, дзе і калі, у якія гады, што парадзілі дачасна сівізну і зморшчкі, спатыкаліся сёньняшняя дырэктар і сакратар.

— А я кагадзе,—працягваў гутарку дырэктар,—загадаў загасіць фарсункі ў кільнах. Цяпер іскрак згараючы ўжо сам падтрымае сваім бязупынным наступленьнем патрэбную для рэакцыі тэмпэратуру, а эканомячы на нафце, мы зьнізім кошт кісьліны. Ты да мяне на паседжаньне трохкутніка?

— Так. Хачу, Адронаў, высунуць каштоўнае пытаньне і спадзяюся на тваю дапамогу.

— Пабачым зараз, сакратар, толькі я заскочу яшчэ ў апаратурны. Дрэнна ў нас, братка, з ліквідаваньнем ураўнілаўкі—аднэй з галоўных прычын прарыву. Адзін увесь час сочыць за стрэлкай манометру, другі вачэй не адбірае ад стрэлкі гадзіньніка, а вынікі, калі падыдуць з разьліковай кніжкай да касіра, аднолькавыя. Потым, мне здаецца, што не навучыліся мы яшчэ на ўсе сто ганьбіць і словам і справай усялякі людзкі брак. Між іншым, трэба заўтра праз «Чырвоны Хэмік» урачыста перайменаваць заводзкі клязэт у імя ганаровага прагульшчыка Кулікава з мэханічнага, і павесіць там яго партрэт. Як на тваю думку?—і дырэктар нават не чакаючы добра вядомага яму адказу, хутка пайшоў у кірунку апаратурнага цэху, а Стасуліч пакрочыў далей да канторы.

Увайшоўшы ў габінэт дырэктара, Стасуліч убачыў там нязграбнага, на першы ашукліві погляд, старшыню заўкому Карпухіна, перакінутага на «Спартак» з фармазаводу, што заўсёды сьцьвярджаў прычэплівы пах мэдыкамэнтаў, і галоўнага інжынэра Фрыдмана, які, раскладаючы сінявыя чарцяжы, блукаў алоўкам па белай іх павучыне. Чакалі дырэктара, і праз некалькі хвілін, з дзіўнай для яго вялікага цела, ад якога рыпелі памосьціны, жвавасьці, ён прайшоў вітаючыся да свайго крэсла.

— Да працы, таварышы! Старшыня заўкому мае весьці пратакол паседжаньня. На чарзе дня пытаньне аб сустрэчным,—пачаў гаварыць дырэктар і, імпэтна павярнуўшыся, паказаў на каляровую дыяграму, якая вісела перад сталом на сьцяне і якая здавалася зводдаль рэльефам глыбачэзнага з простападнымі стромкімі берагамі яру.

— Мы, дзякуючы клясавай сьвядомасьці рабочага калектыву, выцягнулі «Спартак» з гэтай ямы, у якую ўцягнула яго старое апартуністычнае заводакіраўніцтва, але-ж мы павінны і засыпаць гэтую яму. Мы атрымалі ў спадчыну рагожны сьцяг, а маем змагацца за чырвоны. Вось крыху аб ганебных лічбах.

Дырэктар на момант спыніўся, зірнуў некалькі спадылба ў кірунку насьценнага каляндара, паводле якога сёньня было 1 ліпеня—і працягваў:

— Кантрольныя лічбы трэсту для нашага заводу на другі квартал гэтага году на 1200 тон серкавай кісьліны завод выканаў на 43,3 проц., даўшы 520 тон і не дадаўшы 680. Учора, як вы ведаеце, на агульназаводзкім сходзе быў аднагалосна ўхвален высунуты ўдарнікамі апаратурнага цэху сустрэчны плян на трэці квартал на 1500 тон серкавай кісьліны. Адсюль у трэцім квартале «Спартак» мае даць 1500 тон плюс зьвярнуць вінаватыя 680, а разам 2180 тон. Дык вось, трэба зараз, таварышы, падлічыць усе нашы магчымасьці ў стасунку выкананьня сустрэчнага.

Першае, што заслугоўвае вялікай увагі, гэта зруйнаваньне ўраўнілаўкі. Толькі пяць хвілін таму мне скардзіўся ў апаратурным Станюта, што іншы месяц яго заробак амаль што не адрозьніваецца ад заробку фабзайца, а калі пачаў скардзіцца ўчарашні чырвонагвардзеец і сёнешні лепшы ўдарнік стары Станюта, які ў семнаццатым вывоз ў на тачцы праз браму Артура Лібэрдзіба з усёй яго кампаніяй—гэта значыцца ў нас тут справа вельмі і вельмі кепская. Трэба далей прэміраваць за эканомію на нафце, іскраку, вугалю і г. д.—гэта галоўны кірунак да таннай кісьліны. А ўсё гэта мусіць быць прасякнута сацыялістычным спаборніцтвам. Цяпер наконт тэхнічных варункаў. Наш стары завод патрабуе рашучай перабудовы, і некаторым апаратам даўно ўжо мейсца ў музэі каля ботаў Пётры Першага. Зараз таварыш Фрыдман коратка пазнаёміць нас з рэканструкцыяй заводу, якая забясьпечыць з тэхнічнага боку выкананьне сустрэчнага.

Карпухін дзьмухнуў на пёрка, старанна памакнуў асадку, якую трымаў чатырма пальцамі, і напісаў на паперы:

1) Прапрацаваць нормы заробку на падставе ліквідаваньня ўраўнілаўкі і разгарнуць сацыялістычнае спаборніцтва паміж цэхамі і брыгадамі.

— На працягу трэцяга кварталу, як вам ужо вядома,—пачаў гаварыць інжынэр,—завод пераходзіць цалкам з нерэнтабельнай вытворчасьці („$SO_4$"[1]) спосабам нямецкай фірмы Грыло-Шрэдар, на спосаб Танталеяўскага заводу. Калі раней мы скарыстоўвалі ад серкавага іскраку толькі 82 проц. серкі, дык пры новым спосабе гэты процант павялічваецца да 94. Палепшаныя фільтры зусім забясьпечваюць у апаратах плятыну, каштоўнасьць якой 80 тыс. рублёў, ад атручваньня аршэньнікам, жывым срэбрам і фосфарам. Тэрмін рэакцыі скарачаецца з 16 хвілін да 10, павялічваючы тым

[1]) $H_2SO_4$—хэмічная формула серкавай кісьліны.

самым прапушчальную здольнасьць усёй сыстэмы. Трэба сфарсаваць мантаж новай апаратуры, якая гарантуе з тэхнічнага боку выкананьне сустрэчнага. Дазвольце мне скончыць вычарпаную інформацыю, некалькі нязвычайнай для старога інжынэра па сваёй форме і глыбока звычайнай па свайму зьместу, лірычнай канцоўкай.

Я вітаю прапанову дырэктара заводу аб прэміяваньні лепшых ударнікаў і шчыра падтрымліваю высунутую ўчора на агульназаводзкім сходзе рабочымі прапанову наконт прэміяваньня ў першую чаргу таварыша Андронава. У мінэралёгіі ёсьць, так званая, шкала цьвёрдасьці. Першае месца паводле яе займае тальк, другое—гіпс, трэцяе—вапенны шпат, чацьвёртае—плявіковы шпат, пятае—апатыт, шостае—палявік, сёмае—крамняк, восьмае—тапаз, дзевятае—карунд, дзесятае—дыямэнт і адзінаццатае, бязумоўна, належыць да бальшавікоў, а разам з імі і да дырэктара заводу «Спартак».

Старшыня заўкому з колішняй дакладнасьцю запісаў:

2) узяць алюрам тры крыжы перабудову з спосабу Грыло-Шрэдар на спосаб Танталеяўскага заводу—
і пачаў дбайна слухаць аб чым гаварыў цяпер Стасуліч.

Ёсьць яшчэ вялікая сіла, якую трэба скарыстаць больш удала, чым скарыстоўвалася яна ў варунках нашага заводу раней. Сіла, якая дапамагае зьнішчаць спакінутую нам мінулым шкодную напатрэбшчыну, сіла, якая дапамагае выкоўваць людзям мацнейшых за дыямэнт. Я хачу гаварыць аб ролі ў сацыялістычным будаўніцтве, аб ролі ў змаганьні за сустрэчны плян мастацкай літаратуры наогул і паэзіі ў прыватнасьці.

— Ха-ха-ха!—раптам з нязвычайнай для сябе жвавасьцю ўскочыў з крэсла, і, шыргануўшы на беззаганна чыстыя чарцяжы асадку, зарагатаў Карпухін. Размахваючы рукой, з адкусаным каледзінскай куляй пальцам, старшыня заўкому крычаў:—Ты што, Стасуліч, жарты строіш? Кпіць з нас хочацца? Ці што? Ха-ха-ха! Поэ-эзія! Вершы-вякі! Магчыма Гогаль і добра вершы пісаў, але на колькі градусаў па арэомэтру Бамэ павысіць моцнасьць і якасьць кісьліны самы лепшы з яго вершаў? Га? Серкавая кісьліна рашчыняе і жалеза, і медзь і алюміні, а што рашчыняюць вершы. Ха-ха-ха! Дзівак ты, братка! Цудасей!

Стасуліч спакойна слухаў Карпухіна, з прафэсійнай зацікаўленасьцю сочучы, як адразу пачырванеў зямлісты ад стамлёнасьці твар, як заняліся маладосьцю бескалярновыя ад недасыпаньня вочы. Яму ўспомнілася як два тыдні навылёт гэты нібы нязграбны чалавек ня выходзіў з заводу, начуючы ў пакоі заўкому на стале падсунутым да адчыненых вокан, каб адразу, пры першай затрымцы ў працы начных зьмен, апынуцца ў цахох, і калі старшыня заўкому скончыў, Стасуліч пачаў зноў гаварыць:

— Ня больш, як дзесяць хвілін, адыйме невялікае апавяданьне, якое яскрава пакажа, што рашчыняе паэзія, і спадзяюся, таварышы, на вашу ўвагу.

Скончыўшы з ласкі пана пачатковую міністэрскую школу ў вёсцы на Наваградчыне, вельмі хацеў я вучыцца далей, толькі скончылася і ласка пана, у якога бацька мой быў канюхом. Адукаваў магнат канюховага сына, каб здолеў ён без памылкі падлічыць колькасьць жывёлы на чужых тлус-

тых абшарах і колькасьць лат на ўласнай зрэбнай кашулі. Пшанічныя глебы ў Навагрудчыне—лёэс і сутлінкі, але шчаўлём харчавалася сялянская галеча. Поўныя клеці ў Навагрудчыне ў магнатаў—злота і пэрлы, але парожныя аруды ў ачкурнікаў. І гольлю спавітая голь ішла з багатай бацькаўшчыны на пошукі працы ў розныя бакі, вымерваючы зьбітымі нагамі блытаныя шляхі Расійскай імпэрыі. Пайшоў і я з хатылём за плячыма на вандроўку і пасьля мноства вялікіх і дробных гарадоў, трапіў нарэшце ў гэты горад. Сталай працы і прытулку ня здолеў я знайсьці і тут, а дрэнна ведаючы і горад, і мову яго жыхароў і жыцьцё наогул, апынуўся падыспадам яго—басяцкім і бяспрытульным, дзе пілі кухлямі ліха і напарсткамі слодыч. Багата цікавых людзей спаткаў я тут, але найбольшае ўражаньне спакінуў на мяне Андрон Транзітны. Цесна было гэтаму рысламу, з магутнымі плячыма, з нейкай валовай сілай чалавеку на зямлі, і ніяк ня мог ён знайсьці свайго месца. Нідзе не абжываючыся ён блукаў з гораду ў горад, з вёскі ў вёску, ніколі ня ходзячы па броўцы, а заўсёды па шпалах, ніколі ня ходзячы па ходніках, а заўсёды па бруку. Чалавек быў шырокі, як Волга, на ўзьбярэжжы якой у аснач оўскай сям'і ён і нарадзіўся, а жыцьцё цвакаючы заганяла яго ў рэчышча раўчака. У чалавека была нейкая з малаком маці ўсмактаная нянавісьць да ўсяго навакольнага, да ўсяго яму асабова недаступнага. Гэтая нянавісьць віхурыла, гэтая нянавісьць перашкаджала працаваць больш чым гэта трэба, каб не памерці з голаду, але гэтая-ж нянавісьць была сьляпой.

— Ці бачыў ты калі, Фэлікс, мядзьведзя ў чарапашцы?—пытаў мяне часам Андрон.—Чарапашка гэтая—Расея, а мядзьведзь гэты—я, Андрон Транзітны. На ўсход пойдзеш—Волга з Камай шляхі пераймаюць, на захад—Вісла з Бугам, на поўдзень і поўнач—Чорнае мора з Белым, а паміж гэтымі ракамі і марамі, як байбакі, жывуць і, як трусы, распладжваюцца мільёны незалежных гаспадароў. Адзін вартуе і дзень і ноч навылёт свой уласны маёнтак, другі вартуе і дзень і ноч навылёт свой уласны смык, за скарбы свае здольны ўсім вакольным, як і адзін аднаму, зубамі горла перагрызьці. Маталы-ыга! Перад кожнай брамай вые на ланцугу ваўкарэз, на кожнай браме вісіць пудовы замок, а праз вакенца відаць, як у хаце падлічвае грошы гаспадар. І як добра было-б шывырга нуць ваўкарэзу ў чарапок аршэньніку, адчыніць пешняй замок, і, падвесіўшы да курчыны за шыю гаспадара, запіхаць яму ў раскрытую ляпу ўсе яго грошы. Праўда, добра? Падлю-югі! І хто гэта толькі запаскудзіў усю зямлю багнамі і загаціў на ёй усе віры. Як на тваю думку?

Што я мог адказаць на гэтае Андрону, калі сам яшчэ добра ня ведаў, чаму мой бацька конюх, а не магнат.

Працавалі мы, калі траплялася выпадкова праца, заўсёды разам, і ў тэй апошні дзень нашай супольнай працы разгружалі на прыстані мяшкі з сольлю. Андрон працаваў за траіх, як працуюць руплівыя і галодныя да працы людзі. Угрунь цягаў па трапу сяміпудовыя мяшкі і, падбягаючы да склада, так перасмыкваў плячом, што мяшок турчыкам пералятаў праз галаву і лёгка ўкладваўся ў рад. Але як толькі купец падышоў да яго і, хітравата ўсьмяхаючыся, пахваліў за сумленнасьць, абяцаючы накінуць капейкі з сотні пудоў, Андрон адразу пачырванеў, нібы хтосьці крыўдна зьняважыў яго, сеў на мяшок і да самага вечару, калі атрымоўвалі грузчыкі разьлік, ня гледзячы на лаянку купца, больш не падымаўся. Увечары,

пераехаўшы цераз раку, мы сядзелі на беразе і чакалі пакуль пачнуць пушчаць у начлежны прытулак «Шанхай». Ганарысты гаспадар прытулку назваў яго так таму, што ўсе гасьцініьніцы ў горадзе насілі назвы замежных гарадоў. Вы напэўна, памятаеце гасьцініьніцу «Рыо-дэ-Жанэйра» ў цэнтры, «Парыж», «Антвэрпэн», «Лівэрпуль» і г. д. Розьніца была, між іншым, у тым, што нумар у «Рыо-дэ-Жанэйра» каштаваў за суткі пяць рублёў, а ложак у прытулку «Шанхай» на ноч дзьве капейкі. Так вось мы сядзелі ў той вечар пад дамбай і чакалі пакуль адчыняць нам дзьверы ў «Шанхай».

На праціеглым беразе пачала ўжо агортваць будынкі расплывістым муськлінам шэрая гадзіна, але яшчэ плылі адтуль над вадой адвеку ўвечары гучныя гукі. Направа каля вялікай баржы пад аднастайны, як гадзіньнікавы пульс, крык:

— Майна!
Віра!
Майна!
Віра!

—хістаўся ў розныя бакі з пакамі крант. Нібы вялізарны, драпежны гарбаносы птах, ён схіляючыся дзяўбаў вантробы застыглай нярухомай баржы і, выплёўваючы потым на ўзьбярэжжа, ахрыпла клёкатаў. Побач з крантам па двух супастаўных трапах амаль што ўгрунь цягалі на сьпінах пакі з бавоўны грузчыкі, і бязупынны рух іх, нібы аднойчы на ўсё жыцьцё заведзены, здаваўся зводдаль мэханічным рухам чарпакоў зямлячарпалкі.

Проста перад нашымі вачыма кагадзе ездзылінкала ўсімі званамі сваімі стракатая царква, і цяпер праз расчыненыя вокны яе, афарбованыя ў чырвань бязьлічнымі лямпадкамі і сьвечкамі, даносілася, як ціха і пяшчотна сьпявалі дзяўчата:

— Блаже-ен муж іже не іде на совет нечесті-івых—
і раптам выбухнуў цьвінтар дагэтуль нячутнымі басамі:

— Алілуйя! Алілуйя! Аліл-у-ія!

Было перадсьвята Ўшэсьця, і ў царкве ішла ўсяночная.

Налева глядзеліся ў самую раку вежы па кутох высокіх і моцных муроў, якімі быў абгароджаны гмах з чорнымі кратчатымі вокнамі. І штохвіліны, разрываючы глухую цішу, якой спавіты быў гмах, крычаў у амбразуру вежы салдат жалобна і працягла:

— Слуша-а-ай!

А адзаду чулася як грукоча аб зачыненыя дзьверы начлежнага прытулку задрыпанае басяцкае жыцьцё. Спачатку дрынкатліва загаласіла жанчына:

— Шырмач [1]) за фрайерам [2]) ідзе.
Дамушнік [3]) утроп яму пяе—

а потым дзесяткі прапойных галасоў падхоплівалі:

Маруха [4]), грош нам усім цана
Чакае урку [5]), а тут луна [6])

---

[1]) Шырмач—на мове злачынцаў—кішанёвы злодзей.
[2]) Фрайер—кліент злодзея.
[3]) Дамушнік - кватэрны злодзей
[4]) Маруха—на мове злачынцаў—сынонім прастытуткі.
[5]) Урка—на мове злачынцаў—злачынца.
[6]) Луна—на мове злачынцаў—расстрэл.

Мяне ахапіла прытхлай сьлізотай страшная ўнутраная пустата, калі рашчыняе безнадзейная сьлізговіца апошнія крышталі юнацкай жыцьцярадасьці. Здавалася, трапіў я ў непераможную жукавіну, і чутна як з усіх бакоў цвакае бязьлітасная аблава. Направа—катаржная праца, насупраць—царква, налева—турма, адзаду—«Шанхай». У здрасаванай сьвядомасьці ўсплыў нечакана сугучны вакольнаму, калісь на бацькаўшчыне ў пачатковай школе вывучаны верш, і, нічога не заўважаючы, гледзячы кудысь угору, дзе нацягвала на сябе неба чорную сьвітку хмар, пачаў, пад акампанімэнт гэтага вакольнага, дэклямаваць:

. . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . волосом рус,
Видишь, стоит, изможден лихорадкою
Высокорослый, больной белорусс
Губы бескровные, веки упавшие,
Язвы на тощих руках,
Вечно в воде по колено стоявшие
Ноги опухли, колтун в волосах,
Ямою грудь, что на заступ старательно
Из-зо дня в день налегала весь век...
. . . . . . . . . . . . . .

І ў словы мае пачало ўплятацца нейкае нявыразнае хліпаньне. Сьпярша мне здалося, што хліпаюць невялікія хвалі спакінутыя кагадзе прайшоўшым буксірам, удараючыся аб жалезныя бакі нафтаналіўной шаланды, але зірнуўшы ўніз на таварыша, аб прысутнасьці якога забыўся, убачыў да скону жыцьця незабыўнае. Андрон Транзітны, схаваўшы твар у падагнутыя калені, голасна, як дзіцянё, плакаў і затым, імпэтна абярнуўшы да мяне пачырванелы твар, глуха спытаў:

— Хто гэта напісаў? Га?

— Някрасаў. Расійскі паэт.

Хутка ўскочыўшы, і нібы саромяючыся за свае сьлёзы, Андрон, нават не разьвітаўшыся са мной, пайшоў усьцяж берагу. Калі пушчалі ў «Шанхай», я ня бачыў таварыша побач з сабой, і толькі пачаў стамлёны за цяжкі дзень правальвацца ў салодкую замсту, як за сьцяной на вуліцы загармідарыў брук пад коламі машын пажарнай каманды і вогненныя водблескі затанчылі па зялёнай ад вільгаці столі начлежнага прытулку. Гарэлі кашары казацкай сотні, і потым апавядалі, што дзьверы іх звонку былі падпёрты важкімі, якія-б здолелі перацягнуць толькі коні, слупамі. Далейшага жыцьця Андрона Транзітнага я амаль што ня ведаю.

Старшыня заўкому і галоўны інжынэр зацікаўлена слухалі апавяданьне. Раптам ад дырэктара яны пачулі тое, што прымусіла Фрыдмана схіліцца пытальнікам усім тулавам наперад, а Карпухіна ўскочыць з крэсла і ў такім выглядзе на некалькі хвілін застыгнуць.

— У час пажару на кашарах—працягваў Стасулічава апавяданьне дырэктар,—я ўсё-ж не пасьпеў уцячы, і мяне казакі схапілі. Спачатку вельмі зьбілі, потым, калі крыху ачуняў, судзілі, але як не палітычнага, а крымінальнага злачынцу. Вышаўшы з турмы, дзе пазнаёміўся з палітычнымі, прыймаў удзел у працы нелегальнай друкарні і, пасьля яе выяўленьня жандармамі, пайшоў за Байкал на катаргу ўжо як палітычны. І да самай рэвалюцыі маё жыцьцё—гэта турмы, дзе ўступіўшы ў партыю бальшаві-

коў атрымаў вышэйшую палітычную адукацыю, і кароткія перапынкі ўцякацтва, каптуром запоўнены працай рэвалюцыянэра-прафэсіянала. У гады грамадзянскай вайны камандаваў дывізіяй і пасьля баёў пад Кахоўкай атрымаў ордэн Чырвонага сьцягу.

Я кожнай каморкай істоты сьцьвярджаю каштоўнасьць запрапанаванай таварышом Стасулічам зброі. Асабліва для мяне, паэзія была тэй серкавай кісьлінай, у якой цалкам рашчыніўся Андрон Транзітны і нарадзіўся таварыш Андронаў, цалкам рашчыніўся басяк і нарадзіўся дырэктар. Гэты верш сабраў да купы маю ўсклычаную ненавісьць у адзін магутны муралом і паказаў, куды гэты муралом накіраваць. Трэба, каб паэзія, зьмяніўшы туніку на спэцвопратку, прыйшла з габінэтаў і салёнаў да кільнаў і апаратаў і, разам з тэй паэзіяй, якая падымаецца непасрэдна адтуль, цалкам улілася ў сацыялістычнае будаўніцтва.

Усхвалёваны Карпухін падышоў да Стасуліча, моўчкі моцна пацісну ўяму рукі і потым, нахіліўшыся над сталом, запісаў:

3) Уключыць паэзію ў змаганьне за сустрэчны пляи.

1932 г.
Масква.

# ЯНКА КУПАЛА

## Ал. Кучар

З пяцідзесяці гадоў свайго жыцьця—дваццаць сем год Янка Купала аддаў літаратурнай творчасьці, змаганьню, за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне працоўных Беларусі.

Купала найбольш папулярны паэта ў рабочых і сялянскіх масах Савецкай Беларусі. Значэньне Купалы, як паэта, як мастака, выходзіць далёка за межы нашае рэспублікі. Ён вядомы сярод працоўных Савецкага Саюзу, за мяжой.

Янка Купала—па праву ёсьць самы выдатны паэта Савецкай Беларусі.

І от, заўсёды, калі мы падыходзім да ацэнкі творчасьці вялікага паэты,—паўстае пытаньне,—у чым-жа ідэёвая, сацыялістычная сіла паэты, якія былі дачыненьні яго на працягу творчага шляху да рэвалюцыйнага руху, да пераможнага руху рэвалюцыі пад кіраўніцтвам рабочае клясы.

Нацыянал-здраднікі беларускага народу, шавіністы, у купе з нацыянал-фашыстамі, Луцкевіч, зноў і зноў пачынаюць займацца і ставіць праблемы творчасьці Янкі Купалы. Нацыянал-фашызм кроўна зацікаўлены ў тым, каб усялякімі праўдамі і няпраўдамі, усімі магчымымі мэтадамі «навуковага» прадажніцтва і спэкуляцыі выхаласьціць, спустошыць, затушаваць увесь рэвалюцыйна-дэмакратычны характар творчасьці Янкі Купалы.

Здраднік, прыслужнік польскай дыфэнзывы А. Луцкевіч называе Янку Купалу «прарокам беларускага адраджэньня» («Беларускі звон»), ён імкнецца давесьці, што творчасьць Янкі Купалы—гэта голас беларускага нацыяналізму. Нацыянал-фашызм імкнецца ўсімі магчымымі сродкамі зьвязаць творчасьць Янкі Купалы з лёсам беларускай контррэвалюцыі. На гэта заходня-беларускія фашысты мабілізуюць усё, што толькі мажліва—друк, правакацыйныя сэнсацыі—у выглядзе «навуковых артыкулаў», папоў, клерыкалаў, ксяндзоў, махляроў, правакатараў і проста жулікаў.

Псрамаганьне Купалай сваіх мінулых нацыяналістычных памылак, усё больш і больш актыўнае падтрыманьне пляцформы савецкае ўлады, удзел у сацыялістычным будаўніцтве, набліжэньне да пазыцый сацыялістычнага пралетарыяту, адкрытая глыбокая нянавісьць і пагарда, якую пісьменьнік выказвае да нацыянал-шавіністычных гандляроў лёсам працоўных Заходняй Беларусі—хвалюе Луцкевічаў, ксяндзоў Станкевічаў, Астроўскіх.

Як-жа пралетарыят ацэньвае творчасьць Янкі Купалы?

Пралетарыят ацэньвае Янку Купалу як найбольш гучнага рэвалюцыйнага, дэмакратычнага прадстаўніка—шырокіх сялянскіх мас, які праз сваю мастацкую творчасьць выявіў—усю сілу і слабасьць, увесь уздым і ня-

упэўненасьць, усю магутную нянавісьць і роспач—сялянскіх дэмакратычных мас, што вышлі на змаганьне з самаўладзтвам, з рэшткамі прыгоньніцтва на барыкады першай расійскай рэвалюцыі.

Янка Купала найбольш гучны і дэмакратычны прадстаўнік прагрэсыўната нацыянальна-вызваленчага руху—выразьнік настрояў мільённых мас беларускага прыгнечанага фэодальна-памешчыцкай, царскай Расіяй—народу.

Дваццацісямігадовы літаратурны шлях Янкі Купалы, быў поўны магутнымі рэвалюцыйнымі ўздымамі, і слабасьцямі, арлінымі ўзьлётамі і прасмыканьнем да зямлі—пакорай перад дужэйшымі.

Гэты шлях крывы і няпэўны. На гэтым шляху былі цяжкія пераходы і кручы, якія не заўсёды мог адолець паэта. Быў уздым да ролі вялікага трыбуна нацыянальна-вызваленчага руху і зьніжэньне да ступені буржуазнай нацыяналістычнай абмежаванасьці. Быў уздым да ступені дэмакратычнага прадстаўніка мільённых мас абяздоленага сялянства і зьніжэньне да ступені ўсхваляваньня ўласьніцкае абмежаванасьці заможнага сялянства. Быў уздым рэвалюцыянэра і натхніцеля рэвалюцыйнага змаганьня і зьніжэньне да ступені лібэральнага пакорнага памяркоўнага нашаніўскага прапаведніка. Ад твораў поўных нянавісьці да цара, пана, царскага чыноўніка з заклікам на рэвалюцыйнае змаганьне—да твораў няўпэўненых, хваравітых, містычных, якія выражалі жах перад жыцьцём і абвяшчалі магілу адзіным збавеньнем чалавецтва. Ад актыўна-дзейных заклікаў у часе рэвалюцыі 1905 году да пацыфісцкай мальбы ў імпэрыялістычную вайну 14-га году. Ад правільнага разуменьня адзінства сацыяльных і нацыянальных інтарэсаў у змаганьні працоўных на этапе прагрэсыўнага нацыянальна-вызваленчага руху—да абвяшчэньня праз сваю творчасьць буржуазна-нацыяналістычных лёзунгаў—«Беларусь для беларусаў».

Творчы шлях Янкі Купалы багаты выдатнымі старонкамі рэвалюцыйнага дэмакратычнага змаганьня і зрывамі, памылкамі абмежаванага нацыялістычнага лібэрала.

І от, прайшоўшы гэты вялікі і цяжкі шлях Янка Купала цяпер, як ніколі, самым рашучым чынам перамагае горшае ў сваім творчым шляху, перамагае нацыяналістычныя памылкі свае творчасьці, зьвязвае свой лёс з перамогамі сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР, з лёсам пралетарскай рэвалюцыі. Дарог да мінулага ў Купалы быць ня можа. І чым больш паэта актывізуецца на новых сваіх шляхох, тым большую выклікае да сябе нянавісьць нацыянал-фашызму.

* * *

Янка Купала быў узьняты на хвалях буржуазна-дэмакратычнае рэвалюцыі, і выставіў праз сваю літаратурную творчасьць тыя патрабаваньні, стаў правадніком тых ідэалаў, якія выстаўляла рэвалюцыйнае сялянства ў 1905 годзе. Якія былі гэтыя патрабаваньні? Сялянства імкнулася «Да зямлі, да волі,—піша Ленін.—Якое значэньне будзе мець поўныя перамога гэтага руху? Здабыўшы волю, яно зьнішчыць панаваньне памешчыкаў і чыноўнікаў у кіраваньні дзяржавай. Здабыўшы зямлю, яно перадасьць землі памешчыкаў сялянам».

Ленін называе гэты рух сялянства буржуазна-дэмакратычным:

«Чаму сучасны сялянскі рух ёсьць дэмакратычна-буржуазны рух. Таму, што ён, зьнішчаючы ўладу чыноўнікаў і памешчыкаў, стварае дэмакратычны лад грамады, не зьмяняючы буржуазнай асновы гэтай дэмакратычнай грамады» (Ленін).

Праз творчасьць Янкі Купалы першага этапу яе разьвіцьця знайшлі выяўленьне гора селяніна, яго бяспраўнае становішча, цяжкі падатковы, чыноўнічы цяжар, знайшло сваё выдатнае выяўленьне прыгнечанае нацыянальнае становішча беларускага народу, прыгнечаньне яго як нацыі. Творчасьць пісьменьніка заклікала да паўстаньня, да змаганьня з панам, за зямлю, за волю.

Ідзі, і крычы
Прагавітым людзям,
Няхай хлеба даюць
Табе, жонцы, дзецям.
Няхай зьнімуць з цябе
Чынш, падаткі, налог,
Бо бясплатна для нас
Даў зямлю гэту бог.
Што табе трудна жыць
Дзецям хлеба няма,
Што ня топлена печ,
Хоць мароз, хоць зіма.

У заклiку да мужыка, каб ён ішоў і крычаў на ўвесь сьвет пра свае крыўды па сутнасьці—праграма сялянства, яго патрабаваньні ў буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі. Але апрача такіх шматлікіх вершаў, дзе фармулююцца патрабаваньні мужыка ў рэвалюцыі 1905 году (верш «Мужык», «Ах, ці доўга», «З песень безьзямельнага», «Вось тут і жыві», «Дзе-б і праўда жыла», «Чаго нам трэба»)—мы маем па пэрыядзе творчасьці 1905—07-ых гадоў у Янкі Купалы вершы, якія заклікаюць да паўстаньня супроць цара, паноў, вершы магутнай ідэёвай насычанасьці, выключнай рытмічнай мужнасьці і суровасьці. Гэта такія вершы, як «Там», «Перад вісельняй», «Перад бурай», «Даўней і цяпер» і інш.

У вершы «Перад вісельняй» з ідэёвай выразнасьцю паказаны сапраўдны рэвалюцыйныя адчуваньні змагара, які ідзе за свой народ на вісельню.

То падымаўся люд скаваны,
Дзе быў кат-цар і капітал,
Няволі рваліся кайданы,
За трупам клаўся трупаў вал.
. . . . . . . . . .
Яшчэ прыбавіце скананьне—
Прадсьмертны вашых рук абраз,—
Нядоўга-ж ваша панаваньне
Загуба прыдзе і на вас.
Загубу крыўдаю, сьлязамі
У магільны выкапалі ніз;
Людзкой расплаты ўжо над вамі,
Тапор адточаны навіс.
Ня ўмруць ніколі грозны клікі
На сонца захад і на ўсход:
Тут сьпіць ваяк, ваяк вялікі
За волю, долю і народ.

Гэтае-ж выражана і ў вершы Янкі Купалы «Пашкадуй мужыка»—агулам вершы, надзвычайна супярэчлівым, дзе выяўлены наіўныя лібэральныя мары Купалы пра тое, што трэба яшчэ прасіць пана, каб ён дапамог мужыку і дзе з другога боку кіпіць помста—выражэньне першабытнага сялянскага дэмакратызму.

Бо за крыўду сваю адамсьціць
Сьвіньням будзе крыві не пабраць,
Адамсьціць, аж зямля задрыжыць,
Аж віхры зашумяць, загудзяць.

На першым этапе свае творчасьці Янка Купала зусім выразна фармулюе праграму нацыянальна-вызваленчых патрабаваньняў. Царская Расія была вартавым, у першую чаргу, вялікадзяржаўнай, вялікарасійскай буржуазіі ў прыгнечаньні меншых нацый.

«Расія ўладар аграмаднай колькасьці ўкрадзенай уласнасьці, якую ёй давядзецца аддаць назад у дзень расплаты»,— пісаў Энгельс пра нацыянальнае прыгнечаньне ў царскай Расіі.

«Сацыялісты,—пісаў Ленін,—павінны самым рашучым чынам падтрымліваць найбольш рэвалюцыйныя элемэнты буржуазна-дэмакратычнага, нацыянальна-вызваленчага руху».

Зусім зразумела, што праграма нацыянальна-вызваленчых патрабаваньняў у Янкі Купалы цесным чынам зьвязана з праграмай сацыяльных патрабаваньняў для прыгнечаных рэшткамі фэадалізму мас сялянства. Бо тое і другое ўзаемна зьвязана і ўваходзіць у задачы буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі:

«Маркс,—піша Ленін,—бачыў ва ўсіх бяз выключэньня дэмакратычных патрабаваньнях не абсалют, а гістарычнае выяўленьне змаганьня кіруемых буржуазіяй народных мас супроць фэадалізму».

Нацыянальна-вызваленчыя патрабаваньні Янкі Купалы цесна зьвязаны з патрабаваньнямі зямлі і волі для прыгнечанага сялянства.

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У вагромністай такой грамадзе?
— Беларусы.
А што яны нясуць на худых плячох,
На руках у крыві, на нагах у лапцёх?
— Сваю крыўду.
А чаго-ж, чаго захацелася ім,
Пагарджаным век, ім, сьляпым, глухім.
— Людзьмі звацца.

Янка Купала на першым этапе свае творчасьці заклікае да яднаньня працоўных усіх нацый на змаганьне супроць самаўладзтва. Ён абуджае беларуса ў вершы «Там» на змаганьне, паказваючы яму, напрыклад, паўстаўшых расійскіх рабочых і сялян.

Што йдуць...
Зрабіць нявольніка свабодным
Даць бязьзямельнаму зямлі
Дык вось на сьмерць ісьці іх змусіў
Найнешчасьліўшы чалавек.
А вы, адродкі Белай Русі,
Сьпіцё. як быццам кат засек
До' спаць. Паўстаньце грамадою
І йдзеце ім там памагаць.

Паўстаньце крэпасьцю такою,
Каб вораг вас ня мог зламаць.
Паўстаньце, покуль цар звыродны
Крыві ўсёй ня выссаў з вас.
Паўстаньце! Край ваш стогне родны
Заве збаўляць, як зваў ня раз.
Хай кроў пальлецца дзень, другі
Варожым трупам на падсьціл,
Хай у нявол ланцугі
Спадуць ад грому вашых сіл.

Зразумела, што выступаючы як рэвалюцыйна-дэмакратычны пісьменьнік, Янка Купала да разуменьня задач, якія стаялі перад пралетарыятам, перад авангардам гэтага пралетарыяту, да разуменьня задач сацыялістычнай рэволюцыі ня ўзьняўся і ня мог узьняцца. Ён аставаўся выразьнікам інтарэсаў дэмакратычнай рэвалюцыі, а не сацыялістычнай. Яго пазыцыі ў рэвалюцыйным змаганьні былі дваістымі, як і пазыцыі сялянства. Для нас-жа адносіны рэвалюцыйнага пралетарыяту да сялянскага руху ў буржуазна-дэмакратычную рэвалюцыю зусім акрэсьленыя і ясныя:

«... Мы можам сказаць і кажам **толькі адно:** мы дапаможам усяму сялянству зрабіць рэвалюцыю дэмакратычную, **каб тым лягчэй** было нам, партыі пралетарыяту, перайці як мага скарэй да новай вышэйшай задачы—рэвалюцыі сацыялістычнай»... «Сялянскаму паўстаньню мы павінны ўсялякім чынам дапамагчы да канфіскацыі зямлі,—але зусім не аж да ўсялякіх дробнабуржуазных праэктаў» (Ленін).

У Янкі Купалы ўжо на першым этапе яго творчасьці выступаюць такія элемэнты, дзе пісьменьнік ад сапраўднай дэмакратычнай рэвалюцыйнасьці зьніжаецца да абароны ўласьніцкіх інтарэсаў сялянства. У пісьменьніка на першым этапе творчасьці маюцца элемэнты народніцкай ідэалёгіі, жывуць ідэі прадстаўнікоў дробнабуржуазнага сацыялізму (як называе яго Ленін)—гэта выключная вера ў тое, што чалавек будучнасьці—мужык, вера, якая ідзе ад народніцкіх пазыцый.

На гэтым этапе ў пісьменьніка выяўляецца тое, што найбольш яскрава можна бачыць у далейшай яго творчасьці: нявер'е ў сілы рэвалюцыі, слабасьць, пакорнасьць, бясьсільнасьць перад лёсам.

Жудка стонуць рэкі,
Узбураны вясною,
Плачуць мае песьні,
Галосяць са мною.

Тут толькі плач, енк у песьнях, тут толькі гора і роспач, але без вызначэньня шляхоў, як выйсьці з гэтага гора, з роспачы. Праўда, на першым этапе творчасьці Янкі Купалы—гэта ня сыстэма, гэта толькі «бываюць хвілі», але гэтыя хвілі малавер'я, роспачы, пакорнасьці ўсё-ж бываюць:

Пракляў-бы сьвет і быт, і долю
Усё-б на лес сухі паслаў,
І даў-бы думам спаць уволю
І сам-бы спаў, навекі спаў.

Альбо:

Не баюся я вас...
А прыдзе бедаку
Надта трудненькі час—
Я ў магілу ўцяку.

Выступаюць на першым этапе творчасьці пісьменьніка і некаторыя рэакцыйныя элемэнты ў ідэёвых пазыцыях. Гэта тая дробнабуржуазная абмежаванасьць, якая робіць сялянскі рух дэмакратычным, а не сацыялістычным. Ёсьць супроцьстаўленьне мужыка—наогул, гораду наогул:

Цешся горад. Што там знача
Вёска з голадам, з бядой?
Хтось там стогне, хтось там плача—
Плюй, махай на ўсё рукой.

Нарэшце выяўляецца і такое, калі паэта, расчароўваючыся ў мэтадах рэвалюцыйнага змаганьня за зямлю і волю, становіцца на шлях прапаведзі, працавітасьці, міралюбія і нават абароны заможніцкае сялянскае гаспадаркі (у вершах «Чаго нам трэба» і, асабліва, у поэме «Сьцёпка Жук»,—дзе дбайнасьць і гаспадарлівасьць Жука, абвяшчаецца прычынай яго сытага і шчасьлівага жыцьця). Тут якраз і выявіліся элемэнты абароны стальшіншчыны ў Янкі Купалы, абароны, характарнай для ўсёй рэакцыйнай палітыкі «Нашай Нівы», пад моцным уплывам якое быў на другім этапе свае творчасьці Янка Купала. У вершы «Маладая Беларусь» мы маем пэўную ўжо эвалюцыю Янкі Купалы з пазыцый нацыянальна-вызваленчых на пазыцыі нацыяналістычныя, з прымесяй пропаведзі клясавага спакою і міралюбія.

Грамадзянская згода, супольнасьць загосьце
Аж усьцешацца прадзедаў цені і косьці
Слоў унука ня зглушыць ніякі прымус
Што ён роднай зямлі верны сын, беларус.

Вось па сутнасьці ў зародку тыя элемэнты, якія прывялі Янку Купалу на этапе творчасьці 1910—1918 году да падпаданьня пад моцны ўплыў рэакцыйнага нацыянал-адраджанізму, буржуазнага нацыяналізму.

* * *

Другі пэрыяд творчасьці Янкі Купалы зьвязаны з яго дзейнасьцю ў лібэральна-буржуазнай «Нашай Ніве». Але нельга, як гэта некаторыя робяць,—ставіць знак роўнасьці паміж рэакцыйнымі пазыцыямі «нашаніўства» і творчасьцю Янкі Купалы гэтага пэрыяду. Рэакцыйнае «нашаніўства», нацыянал-адраджанізм звужаў агульную ідэёвую аснову творчасьці вялікага паэты. Аднак, на ўсіх этапах свае творчасьці маючы нават вельмі вялікія адхіленьні, і, знаходзячыся ў пэўныя пэрыяду ў вельмі моцным палоне буржуазнага нацыяналізму (1918-22 год) Янка Купала застаецца рэвалюцыйна-дэмакратычным паэтам, паэтам нацыянальна-вызваленчага руху.

Уплывы варожыя, буржуазныя выявіліся ў творчасьці Янкі Купалы ў 1910-12 гадох.

У 1905—1907 гады Янка Купала застаецца мужна на сваіх пазыцыях заклiку да рэвалюцыйнага змаганьня, заклікае на гэтае змаганьне нават пасьля паражэньня першай рэвалюцыі, у абставінах царскай Расіі, калі ў літаратуры вылі сымбалісты пра скон сьвету, калі ўпадніцтва, прадажніцтва і здрадніцтва інтэлігенцыі ўсюды мела мейсца. У гэтыя годы ва ўсёй літаратуры былой царскай Расіі толькі нямногія засталіся вернымі

ідэалам рэвалюцыі, прадвяшчалі і клікалі яе. У ліку гэтых нямногіх быў пісьменьнік пралетарыяту Максім Горкі і інш. От у гэтыя гады, Янка Купала набывае сваёй паэзіяй значаньне агульна-расійскае, як адзіны гучны трыбун рэвалюцыйнага сялянства,—саюзьніка пралетарыяту, як выразьнік пратэсту прыгнечаных нацыянальнасьцяй у былой царскай Расіі.

Але ўжо ў 1908-9 годзе і пазьней Янка Купала паступова пачынае зьніжацца з рэвалюцыйна-дэмакратычных пазыцый да пазыцый памяркоўна-лібэральных.

У другім зборніку Купалы «Гусьляр» праз мастацкую канкрэтную і пачуцьцёвую форму выяўлена містычнасьць, тая філёзофія заняпаду і пэсымізму, якая знайшла сваё выдатнае завяршэньне ў паэмах «Сон на кургане» і «Адвечная песьня». Ад мінулае канкрэтнасьці Янка Купала пераходзіць да абстрагаванага, адцягненага, да ідэёва-хворага:

> І вецер і сокал, і я
> Сыны адной долі жыцьця;
> Наводзім маркотныя мы
> І думы, і песьні адны.

Купала заклікае «К зорам агністым, к прыволью нябеснаму, вырваўшы з ціны жыцьцёвай душу», заклікае ляцець туды, дзе «хэрувімы спаткаюць цябе».

Але гэта ня толькі асобныя моманты цяжкіх адчуваньняў паэты, тут пачынаецца філёзофскае абгрунтаваньне ідэй пагібелі, скону чалавецтва, скону сусьвету. Найбольш поўна яно выяўлена ў вершах «Зьнямога», «За годам год», «Думка» і інш.

> Безнадзейна, бястрывожна,
> Ціха зважна, асьцярожна
> Хаос гнёзды ўе свае,—
> Сьвіты, захады крыляцца,
> На адной таўкуцца кладцы
> Цемра вабе згубным дном;
> Плача сонца маладое
> Над плянэтай. над старою
> Іскры сыплюцца цурком.

У другіх вершах ёсьць выражэньне тае-ж ідэі: хаос запаланіў сусьвет, чалавечы род ідзе на скон, на звод.

> За векам век, за звонам звон
> За мглою мгла з усіх старон.

Філёзофія ідэалізму, містыкі, заняпаду—усё больш і больш пачынае займаць мейсца ў творчасьці Янкі Купалі і даходзіць да апогею ў драме «Сон на кургане».

Як вядома, «Наша Ніва»—ня мела вялікае сацыяльнае базы для сваёй дзейнасьці. Яна апіралася на пласты кулацкага сялянства, памешчыцтва, што стаяла за капіталізацыю свае гаспадаркі, на дробнабуржуазныя гарадзкія элемэнты. Пры чым, апіраючыся на памешчыцтва буржуазнага тыпу, штохвілінна блакавалася з рэакцыйным фэадальным памешчыцтвам. Ідэю «адраджэньня бацькаўшчыны» «Наша Ніва» меркавала зьдзейсьніць праз нейкага прарока, ці праз дзейнасьць групкі памяркоўных лі-

бэралаў, бо шляхі для ўплыву на батрацтва, бядняцкае і сярэдняе сялянства для «Нашай Нівы» па сутнасьці былі зачынены. Гэтая рэакцыйнасьць нашаніўскіх пазыцый знайшла сваё частковае выяўленьне і ў творах Янкі Купалы гэтага пэрыяду, у кніжках «Шляхам жыцьця», «Спадчына» і, асабліва, у вершах «Прарок» і «Забытая скрыпка».

Купала, які ў рэвалюцыі 1905 году гаварыў поўным і магутным голасам ад імя селяніна, цяпер пачынае цурацца гэтага селяніна. Купала, што лічыў селяніна за свайго кроўнага брата, цяпер абвінавачвае гэтага селяніна ў тым, што ён зусім не зацікаўлены ў перамозе волі, а клапоціцца больш пра тое, «сколькі яму дасі чырвонцаў», абвінавачвае селяніна ў тым, што ён, селянін не разумее песьняра, што ня хоча зразумець прарока. Ды і наогул ідэалістычныя мары пра тое, што праз прарока, праз песьняра, праз баяна можна адрадзіць свой народ, узьняць яго на змаганьне, знаходзіць сваё выяўленьне ў творчасьці пісьменьніка гэтага пэрыяду. Пры чым, мастаку надаецца па-ідэалістычнаму надземная, богападобная сіла.

А пра народ цяпер паэта вось што піша:

> Ярмо валочаць паніжэньня,
> У кляцьбе бясьсільнай гоняць век..
> Глядзіш... пытаеш свайго ценю:
> Дзе тутка зьвер, дзе чалавек?

Альбо:

> Відаць сьвятла ня знаць і тым,
> Хто нарадзіўся ўжо сьляпым,
> Такім ён дойдзе да магілы.

Да поўнае-ж містычнае жахлівасьці, роспачы і бясьсільля Янка Купала даходзіць тады, калі пачынаецца імпэрыялістычная бойня. Пісьменьнік ня можа што-кольвек супроцьставіць ёй. Купала становіцца прапаведнікам дуалізму, двоістасьці цела і душы. Хваравітае пераламленьне паэты дае творы выключнай эмацыянальнай сілы, роспачы, уздыму, заняпаду, імклівасьці і адчаю. Паэта ўяўляе, што разам з ім існуе нейкая новая істота, яму раўналежная і падобная «ідзе за мной ўсьлед кагцісты бледны труп», такое-ж двоістае існаваньне мае ня толькі цела, а і душа.

> Разарваў-бы, здаецца, я грудзі свае,
> Сэрца-б вырваў і кінуў на ўцеху ўрагом...
> Дайце сьмерць, хай ня чую, што ноч мне пяе.
> Дайце сілы... О, божа! Нікога кругом.
> Ах! што гэта?—Раскрылася неба й зямля,
> Рай і пекла зьмяшаліся ў процьму ў адну,
> Здань за зданьню паўзе, кожна здань—як зьмяя
> Тая прэцца уверх, тая цісьнецца к дну.

Так Янка Купала сустрэў імпэрыялістычную вайну. Гэта было не супраціўленьне, не змаганьне з ёй. Гэта была роспач, гэта была ідэалістычная філёзофія пагібелі, заняпаду народу, пагібелі свае, пагібелі чалавецтва.

> Вырывай з сябе жылу па жыле,
> Ві ў вяроўку, у пятлю і павесься
> І, пакуль, у зямлю не зарылі.
> Хоць дух будзе шыпець у бясьсільлі,
> На сваіх вісі жылах і сьмейся.

Гэта Янка Купала пісаў у 1915 годзе. Але кульмінацыйным пунктам містычных пошукаў збаўленьня,—была драма «Сон на кургане» і «Адвечная песьня». У драме «Сон на кургане» народ, чалавецтва сымбалічна выяўлены праз Сама. Сам стукаецца ва ўсе дзьверы і нідзе не знаходзіць збаўленьня. Асноўная ідэя гэтага твору—гібель сусьвету. Сам шукае скарб, ведзьмы насьмяхаюцца, зьдзекуюцца над ім. Гэты праклятый скарб так і не дастаўся Саму. Бацькаўшчына яго, сымбалізаваная вёска,—гарыць і на папялішчах яе брат прадае брата. Ад Сама адцураліся жонка, дзеці, бацькі. Сын пагубіў сваю матку. Сын адцураўся ад бацькі, жонка праклінае свайго мужыка. Пагібель. Збаўленьня няма. Кругом прадажніцтва, шпіянаж і гора і нядоля.

Зусім зразумела, чаму пэўны час пасьля гэтых твораў Купала, абс мала пісаў (да 1918 году), або зусім маўчаў. Гэта быў такі ідэёвы тупік, выхад з якога мог быць толькі на шляхох рэвалюцыі.

Нацыянальна-вызваленчыя ідэалы на другім этапе ў творчасьці пісьменьніка—пачынаюць прымаць нацыяналістычную афарбоўку. У поўнай адпаведнасьці з ідэаламі «Нашай Нівы» Купала шукае абстрактнай бацькаўшчыны. Маюцца нават элемэнты нянавісьці да іншых нацыянальнасьцяй у пісьменьніка. Купала захоплены мінуўшчынай Беларусі, яе колішняю веліччу. У пляцформе нацыянальнага пытаньня Янкі Купалы пачынаюць затушоўвацца нацыянальна-вызваленчыя элемэнты, прагрэсыўныя і выяўляцца яскрава рэакцыйны нацыянал-адраджанізм.

У творах пісьменьніка ёсьць мары пра такую веліч Беларусі, калі-б яна магла сама дыктаваць другім народам свае правы, а гэта, па сутнасьці, ёсьць ужо тэндэнцыя рэакцыйная ў дачыненьні да другіх нацыянальнасьцяй:

> Быў час—свае правы чужым ты дыктавала,
> І цяпер, хто зводна над табой сьмяецца,
> Гэта... вецер, што ў платох трасецца.

Тут у паэты ўжо вельмі яскрава вызначаецца разрыў паміж сацыяльнымі і нацыянальнымі ідэаламі. Вызваленьне бацькаўшчыны Купала бярэ адарвана ад сацыяльнага вызваленьня прыгнечаных, змаганьне за бацькаўшчыну выступае як абсалют:

> Годзе заходняй, ці ўсходняй культуры,
> Для беларуса цана ім адна.

Беларусь, самае слова Беларусь у Янкі Купалы пачынае рабіцца словам сьвятым:

> Бяры сьветач, ідзі за судзьбінай
> Ідзі з словам сьвятым, Беларусь.

Ад жалю, роспачы, безнадзейнасьці Купала лёгічна ідзе да бога. На бога пачынае ўскладаць надзею «адраджэньне Беларусі»:

> Хрыстос васкрос... К табе, о, божа,
> І я ў дзень гэты думку шлю,
> Хай Беларусь, мая старонка,
> Уваскрэсьне к лепшаму жыцьцю.

Паэта ахоплены нейкім рэлігійна-містычным дурманом і ён, бясьсільны і «перад небам і перад зямлёй», піша:

> Адбіваючы тут-жа паклоны плашмя,
> Нейкі нехрысьць крапідлам махае, пяе
> Ды шыпіць, як гадзюка, хрыстова імя,
> І за золата гэта імя прадае.

Ад нацыяналізму Купала лёгічна прыходзіць да таго, што ўсе свае надзеі пакладае на мінуўшчыну Беларусі. У вершы «Свайму народу» ён піша:

> Сягні у даўно заснуўшыя сталецьці,
> Заслону дзён уцёкшых адхілі,
> І глянь, як сёньня твае жывуць дзеці,
> Як ты жывеш на прадзедаў зямлі.
> Тваймі рукамі ўзьнесены замчышчы,
> Глянь, зарастаюць, дзікім палыном,
> Па сьцен астатках вецер дзіка сьвішча
> Як-бы пяе памінкі быўшым днём.
> Пяе аб тым, як гэтыя байніцы
> Край сьцераглі на захад і на ўсход.
> Як з поўначы разбойны чужаніца
> Ня мог замчыскавых скрышыць варот.

Тут вельмі яскравае ўсхваленьне мінуўшчыны Беларусі. Гэта ўсхваленьне мы маем ня толькі ў творчасьці Янкі Купалы, але ва ўсіх пісьменьнікаў нашаніўцаў, і ёсьць яно гэтае ўсхваленьне ня толькі ў рэакцыйных нацыяналістычных вершах, а і ў творах нацыянальна-вызваленчага характару. Чым тлумачыцца ў пісьменьнікаў нацыянальна-вызваленчага руху захапленьне нацыянальнымі межамі Беларусі пэрыяду скону фэадалізму і пачатку разьвіцьця капіталізму. Гэтае захапленьне мае зусім законнае апраўданьне.

«Энгельс гаварыў,—піша Ленін,—што межы «вялікіх і жыцьцяздольных эўрапейскіх нацый», якія ў хадзе гістарычнага разьвіцьця праглынулі шэраг дробных і ня жыцьцяздольных нацый, адзначалася ўсё больш і больш «мовай і сымпатыямі насельніцтва». Гэтыя межы Энгельс называе «натуральнымі». Гэтак было ў эпоху прагрэсыўнага капіталізму, у Эўропе, каля 1848—1871 гадоў. Цяпер рэакцыйны імпэрыялісцкі капіталізм,—піша далей Ленін,—усё часьцей **ломіць** гэтыя дэмакратычна адзначаныя межы. Усе адзнакі гавораць пра тое, што імпэрыялізм пакіне сацыялізму, які ідзе яму на зьмену, межы менш дэмакратычныя».

Вось чаму, выключаючы адсюль тыя творы, якія ўсхваляюць фэадальную веліч Беларусі, у сваіх нацыянальна-прагрэсыўных творах Янка Купала ішоў у мінуўшчыну, як і многія пісьменьнікі нацыянальнага вызваленчага руху, шукаць гэтыя, больш дэмакратычныя межы свае бацькаўшчыны.

Але ня толькі нацыяналістычныя бакі творчасьці Янкі Купалы вызначалі паэту на другім этапе яго літаратурнай дзейнасьці. Зразумела, што і на гэтым этапе жыве, праўда, у значна паслабленай і мізэрнейшай форме,—праграма рэвалюцыйна-дэмакратычных патрабаваньняў і нацыянальна-вызваленчых ідэй. Гэта выяўлена ў многіх вершах і ў п'есе «Раскіданае гняздо»,—п'есе перадавой, прагрэсыўнай. Зразумела, у п'есе няма пралетарскіх змагароў. У п'есе анархічнае ўласьніцкае сялянства ўсхваляецца, абагатвараецца, але п'еса дае ўзор еднасьці ў змаганьні сялян-

ства, ідэй нацыянальна-вызваленчых і сацыяльных. У п'есе крык пратэсту за разбураную бацькаўшчыну, (разбурэньне і паўпэрызацыя сялянства, нацыянальны прыгнёт), але мы павінны памятаць: Ленін заўсёды падкрэсьліваў, што на гэтым этапе буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі (1913—16 гады) крык за бацькаўшчыну, за народ быў прагрэсыўным, перадавым:

«Для украінцаў і беларусаў, напрыклад, толькі чалавек, які сваімі марамі жыве на Марсе, мог-бы адмаўляць, што тут няма завяршэньня нацыянальнага руху, што абуджэньне мас да аволодваньня роднай мовай і яе літаратурай... тут яшчэ адбываецца. «Бацькаўшчына» тут яшчэ не прапяяла сваёй гістарычнай песьні. «Абарона бацькаўшчыны» яшчэ можа быць тут абаронай дэмакратыі, роднай мовы, палітычнай свабоды супраць прыгнятаючай нацыі...».

Ленін падкрэсьліваў, што сярод нацый Расіі, дзе з пачаткам XX стагодзьдзя асабліва разьвіўся нацыянальна-вызваленчы рух «Задача пралетарыята гэтых краін, як у справе завяршэньня іх буржуазна-дэмакратычнага ператварэньня, так і ў справе дапамогі сацыялістычнай рэвалюцыі другіх краін ня могуць быць выкананы без абароны права нацый на самавызначэньне» (Ленін).

* * *

Пралетарскую сацыялістычную рэвалюцыю, надыход яе, тое, што гэтая рэвалюцыя несла сапраўднае вызваленьне ўсім нацыянальна прыгнечаным народам,—усё гэтае, усю веліч надыходу новай эры ў гісторыі чалавецтва, Купала яўна не зразумеў. Нам, ацэньваючы творчасьць паэты, няма чаго змазваць, ці хаваць сапраўдную сутнасьць палітычных пазыцый Купалы ў часе рэвалюцыі 1917 году. Купала быў пад вельмі і вельмі моцным уплывам буржуазнага нацыяналізму, так што нават у асобныя часы ён станавіўся на пазыцыі нацыяналізму, знаходзіўся ў палоне буржуазнага нацыяналізму. (У вершы «Крыўда» і інш.).

Янка Купала не разумеў таго, што пераможная пралетарская рэвалюцыя ня толькі ня будзе супярэчыць поўнаму вызваленьню прыгнечаных нацыянальнасьцяй, а наадварот дапаможа правесьці праграму нацыянальна-вызваленчых ідэй у жыцьцё ў найбольш шырокай і дэмакратычнай форме.

У Купалы ў часы рэвалюцыі 1917 году супроцьстаўленьне—інтарэсам нацыянальнага вызваленьня—інтарэсам пралетарскай рэвалюцыі, інтарэсам пралетарскага інтэрнацыяналізму.

Поўнае і пасьлядоўнае вырашэньне нацыянальнага пытаньня камуністычнай партыяй і пралетарыятам у нашай краіне—зрабілі пэўны пералом у творчасьці пісьменьніка. Аднак, Купала ўжо ў 1922 годзе, стоячы яшчэ на нацыяналістычных пазыцыях дае шавіністычную драму «Тутэйшыя».

Усе гэтыя буйнейшыя палітычныя зрывы на творчым шляху Янкі Купалы няма ніякае патрэбы затушоўваць, змазваць, але ня трэба забываць пра адно, што ня гэтае ёсьць асноўнае на ўсім творчым шляху Купалы. Асноўным зьяўляецца тое, што на галоўнейшых этапах свае творчасьці Купала застаецца на пазыцыях рэвалюцыйна-дэмакратычных.

Буржуазныя ўплывы на творчасьць Купалы сказваліся моцна і ў першыя годы НЭП'у. Цяпер Купала прымае ўжо Кастрычнік, але прымае яго, галоўным чынам, у той часьціне, дзе ён, Кастрычнік, мімаходам давяршыў тое, што не змагла зрабіць буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя,—ва ўсебаковым і поўным вызваленьні прыгнечаных нацый, у праве нацый на самавызначэньне і інш. і інш.

У гады НЭП'у, калі ўплывы буржуазныя ў літаратуры і, у прыватнасьці, на творчасьці Купалы, былі моцнымі, паэта піша вершы «Безназоўнае», дзе сутнасьці Кастрычніцкай рэвалюцыі ён не зразумеў. Янка Купала ў гэтых вершах заклікае ісьці, сабірацца ў БССР, у адну сям'ю, што называецца, усіх беларусоў, бяз розьніцы іх клясавых сымпатый, ці антыпатый да дыктатуры пралетарыяту:

Нібы пчолы ў соты з мёдам
Да свайго вульля,
Мы вяртаемся дадому,
Як адна сям'я.
На сход сходзімся і лічым,
Ці усе прышлі,—
Хто спазьніўся—прысьці клічам
Да сваёй зямлі.

Але і другая тэндэнцыя фармуецца ў творчасьці Янкі Купалы пасьля рэвалюцыі 1917 году—тэндэнцыя правільнага асэнсоўваньня задач пралетарскай рэвалюцыі, тэндэнцыя набліжэньня да пазыцый сацыялістычнага пралетарыяту. Яскрава гэта выяўляецца ў вершы Купалы за 1921 год «На сьмерць Сьцяпана Булата». Здаровая тэндэнцыя ідзе праз вершы «Арлянятам», «Дзьве сястры» і інш.

Галоўнае, што ў названых вершах Купала пачынае разумець пралетарскі характар нашае рэвалюцыі. Гэтымі творамі Купала становіцца на шлях перамаганьня сваіх нацыяналістычных памылак, на шлях перабудовы свае творчасьці.

З пачаткам разгорнутага сацыялістычнага наступу, з разгрома адчыненых і замаскаваных ворагаў пралетарыяту з разгромам у БССР буржуазнага нацыяналізму перабудова творчасьці Купалы пачынае ісьці больш шпарка, прычым на высокай ідэёвай і мастацкай аснове.

Вельмі часта, заштатныя літаратурныя абываталі, ці аматары «добрага старога эстэтызму» ахвочы пагаварыць (нават і праз друк), пра тое, што вершы Янкі Купалы парэвалюцыйнае пары, слабейшыя, ніж вершы дарэвалюцыйных часоў, што творы, якія адлюстроўваюць працэсы сацыялістычнага будаўніцтва, пазбаўлены тае вялізарнае сілы, якая характарна для ранейшае творчасьці Янкі Купалы. Так сьцьвярджаць, значыць альбо нічога не разумець у мастацкае творчасьці наогул, альбо не хацець разумець сапраўднае сілы Купалавае паэзіі.

Перабудова ў творчасьці Янкі Купалы адбываецца адносна павольна, але арганічна і на высокай ідэёвай і мастацкай аснове. Мы з усёй упэўненасьцю сьцьвярджаем, што вершы Янкі Купалы «Сыходзіш вёска з яснай явы», «Дыктатура працы», і «А ў Вісьле плавае тапелец»—ёсьць лепшыя і выдатнейшыя здабыткі нашае сучаснае савецкае літаратуры.

Асаблівасьцямі мастацкага мэтаду Янкі Купалы заўсёды былі—шырыня ахопу і выражэньня людзкіх пачуцьцяў. Гэта—пачуцьці не абмежа-

ванага кола людзей, дзівакоў. Гэта не абмежаваныя пачуцьці самога паэты. Лепшыя і найбольш дэмакратычныя элемэнты творчасьці Янкі Купалы заўсёды выражалі, уздымалі пласты пачуцьцяў шырокіх народных мас, нацый,—выяўлялі іхнае гора, іхную радасьць, іхную нядолю, іхныя перамогі, іхную крыўду, іхны ўздым, іхную роспач.

У Янкі Купалы выключная сіла любові, ды агнём і полымем узрошчаная нянавісьць. У Купалы амаль поўная адсутнасьць характарнай для многіх старэйшага пакаленьня беларускіх пісьменьнікаў, лірычнай кволай сантымэнтальнасьці. Поступ і рытмічная хада яго мужная і ўпэўненая.

Вось усе гэтыя ўласьцівасьці мастацкага мэтаду Янкі Купалы і характэрны для яго вершаў «Сыходзіш вёска з яснай явы», «Дыктатура працы», і «А ў Вісьле плавае тапелец».

> З жарбацкай торбай твой патомак
> Ня пойдзе па Сібірным шляху
> Шукаць прытулку, як бяздомак
> Жудкі гісторыі абломак
> Пад сказ дзён бурных згібне прахам

Для некаторых маладых людзей прыхільнікаў аж авантурыстычнага наватарства ў паэзіі, якім не-да-спадобы нібыта старыя формы ў паэзіі Купалы,—мы скажам: з усіх шматлікіх вершаў і проста вершаванай пісаніны пра калектывізацыю сельскай гаспадаркі,—покуль што верш Янкі Купалы «Сыходзіш вёска з яснай явы» застаецца адзіным бадай вельмі значным помнікам у вершаванай форме пра сацыялістычную пераробку вёскі ў савецкай літаратуры Беларусі. Гэтак, як верш «А ў Вісьле плавае тапелец»—ёсьць адзін з лепшых вершаў пра прыгнёт у панскай Польшчы.

Янка Купала—народны паэта нашай рэспублікі.

Што робіць Янку Купалу народным паэтай? [1]).

Янку Купалу народным паэтай робяць тыя, найбольш дэмакратычныя рэвалюцыйныя элемэнты яго творчасьці, дзе паэта ўмеў абагульняць у паэзіі глыбейшыя пачуцьці народу, выражаў яго крыўду, гора, заклікаў да змаганьня, да волі. Народным паэтай Янку Купалу робяць тыя элемэнты яго творчасьці, дзе ён выступае як рэвалюцыйна-дэмакратычны паэта народу, асноўных мас сялянства, якое падняло сьцяг змаганьня на барыкадах рэвалюцыі 1905 году. Народным паэтай Янку Купалу робяць тыя элемэнты яго творасьці, дзе ён выступае, як паэта нацыянальна-вызваленчага прагрэсыўнага руху.

Маладзейшаму пакаленьню беларускай савецкай паэзіі,—трэба вучыцца на творчасьці Купалы. Трэба крытычна засвойваць ня толькі лепшыя элемэнты ў яго ідэёвых пазыцыях, трэба вучыцца на здабытках Купалавага паэтычнага мэтаду.

Маладзейшаму пакаленьню беларускай савецкай паэзіі,—трэба вучыцца больш, чым у каго другога з старога пакаленьня беларускай літаратуры—вучыцца—выражэньню сапраўды вялікіх пачуцьцяў, вучыцца гіганцкай страснасьці, сіле, агнём і полымем узрошчанае нянавісьці, рытмічнай мужнасьці і стойкасьці,—у Янкі Купалы.

---

[1]) Мы ня схільны думаць, што Я. Купалу народным паэтай робіць тое, што ён выкарыстоўвае багата народнае творчасьці. Такі погляд проста сьмешны і беспадстаўны.

# ШЛЯХІ ВЯЛІКАЕ ПЕРАБУДОВЫ

## Ал. Кучар

### 1

У Кузьмы Чорнага ёсьць апавяданьне «Начлег у вёсцы Сінегах». Яно гаворыць пра дні грамадзянскай вайны, пра змаганьне супроць белапалякаў. У вёсцы Сінегах начуюць нашыя чырвонаармейцы, сярод якіх і сам аўтар. Кузьму Чорнага мала цікавіць грамадзянская вайна, перамогі, радасьці гэтых перамог. Яго хвалююць чалавечыя пачуцьцёвыя буры. Грамадзянская вайна для яго толькі агульны фон, на якім дзейнічаюць, разьвіваюцца, змагаюцца, растуць буры пачуцьцяў. Вёску разрабавалі палякі. У апавяданьні «Начлег у вёсцы Сінегах»—узьнімаюцца буры пачуцьцяў—ад сымпатый жалю і крыўды за хлапчука, які скалечанымі, бруднымі і абсіверанымі нагамі павінен да дня яшчэ галодны і недагледжаны гнаць у поле каровы.

«І я нагнуўся над ложкам. Хлапчанё спала. На левай назе каля пальцаў, збоку, была белаватая пухліна, запецканая ў гразь... Чакаючы каманды рушыць, я ўбачыў яго: накульгваючы, ступаючы на пяту, ён гнаў каровы. Каля хаты стаяла маці яго—вялікая гродзенская жанчына»...

Гэтае невялікае апавяданьне, характэрнае для ўсяго першага пэрыяду творчасьці Кузьмы Чорнага. Кузьма Чорны не бярэ сацыяльную сутнасьць працэсу, зьявы, падзей,—ён бярэ толькі індывідуалістычнае, вузка замкнёнае пераламленьне гэтага працэсу ў сваіх настроях, пачуцьцях, думках, сьвядомасьці, альбо ў сьвядомасьці яго гэрояў. Пры тым, гэтае пераламленьне бывае да таго індывідуалізавана, што бадай ад самога існага працэсу рачаіснасьці нічога не застаецца, гэта значыць, што сьвядомасьць людзей падмяняе самыя працэсы рэчаіснасьці, рэчаіснасьць, як рэальная, якая аб'ектыўна існуе па-за нашымі пачуцьцямі, закрэсьліваецца і пераносіцца ў сьвядомасьць. Для ілюстрацыі таго, як працэс рачаіснасьці падмяняецца ўтрыравана псыхалёгізаваным адлюстраваньнем яго ў сьвядомасьці, можна прывесьці апавяданьне «Буры». Тут гэраічная грамадзянская вайна засланяецца аналізам пачуцьцяў, якія выклікае конь, што канае. Пры чым, Чорны ня толькі робіць спробу аналізу адчуваньняў каня, а псыхалёгізацыя пераносіцца, як і за звычай у творчасьці Кузьмы Чорнага, на ўсе знадворныя абставіны і працэсы, на пэйзаж, партрэты і інш.

«У ціхіх скаргах няпрыбранага жыта чуў я вялікія буры... Тут проста гарачымі днямі асыпалася перасьпелае жыта і начамі ціха гарэлі вёскі. Сьмерць у цішы страшней за раптоўную сьмерць у бурах...».

«... і ён глядзеў на сухую пакутную галаву каня. Конь худы, страшны сваёй худзізною ляжаў, выцягнуўшы мокрую шыю, на гарачай ральлі, хроп і раз-па-разу шараваў нагамі па зямлі... ня было голай нуды ў чуць жывога каня...».

Першы пэрыяд творчасьці Кузьмы Чорнага характарызуецца ідэалістычным творчым мэтадам. У Кузьмы Чорнага паглыблены, утрыраваны псыхалёгізм, псыхалёгізм пасыўны, нядзейны. Паказ чалавечае сьвядомасьці павінен быць такім, каб мы бачылі гэтую сьвядомасьць, працэс станаўленьня яе, як дзейны працэс, такі працэс, разьвіцьцё якога выходзіць з сацыяльнае практыкі чалавека, дзе сьвядомасьць служыць для зьмены рачаіснасьці і сама зьмяняецца, прагрэсуе, разьвіваецца, абагачаецца:

Чорны бачыць сьвядомасьць чалавека такой, якая разьвіваецца па-за сацыяльнай практыкай, сама сабою, Кузьма Чорны жыцьцё, рэчаіснасьць бярэ як фон, пра якое, жыцьцё, надзвычайна павольна і падрабязна разважаюць гэроі яго творчасьці. Аб'ектыўную рэчаіснасьць пісьменьнік разглядае як абсалютна пасыўную, а сьвядомасьць у яе шматвобразнасьці, зьяўляецца фактарам, які распаўсюджваецца на ўсе працэсы. І аднак, гэтая актыўнасьць сьвядомасьці ня ёсьць актыўнасьць, якая зьмяняе рэчаіснасьць, гэта актыўнасьць такой сьвядомасьці, якая ня мае сабе выйсьця за межы свайго існаваньня. Таму чалавек у Кузьмы Чорнага сузіральны, не актыўны, ня дзейны чалавек. Гэты чалавек ня здольны перарабіць,ператварыць, зьмяніць рэчаіснасьць. На гэтым этапе творчасьці Кузьмы Чорнага зрухі і зьмены рэчаіснасьці застаюцца па-за ўвагай пісьменьніка. Тое-ж самае і ў дачыненьні сацыяльных узаемаадносін паміж людзьмі. Чорны бярэ чалавека ізаляваным, а таму ўсюды ў яго фігуруе чалавек «наогул». Не чалавек, які ўдзельнічае ў клясавым змаганьні, не чалавек, які апрача сваіх суб'ектыўных інтарэсаў бачыць і калектыўныя клясавыя інтарэсы, а чалавек абстрактны, у аснове дзейнасьці якога ляжаць толькі асабістыя інтарэсы. Менавіта, тут пачынаецца другая тэндэнцыя ў творчасьці Кузьмы Чорнага, тэндэнцыя грубаматэрыялістычная, грубага фызыялёгізму.

На гэтым этапе разьвіцьця творчасьці, для пісьменьніка найвялікшай асалодай зьяўляецца—з любасьцю разглядаць псыхалёгічна складаньня рысы, неакрэсьленыя пачуцьці, раптоўныя асоцыяцыі, якія ўзьнікаюць у чалавека, разгляд складаных псыхалёгічных працэсаў—псыхалёгіі індывідуальнага чалавека.

Асноўная асаблівасьць творчага мэтаду Кузьмы Чорнага на першым этапе тое, што ён ня можа паказаць у супярэчлівым дыялектычным адзінстве чалавека і прыроду, а закрэсьлівае рэчаіснасьць, ступаючы на шлях абмежаванага суб'ектывізму, на шлях суб'ектыўнага ідэалізму. Інтэлігенцкія шматадчувальныя, бязмэтныя і бязвольныя ў сваім дзеяньні—гэрої Кузьмы Чорнага. Чорнага цікавяць толькі псыхалёгічныя пачуцьцёвыя працэсы, і ён адразае сьвядомасьць людзкую ад усяе тае практыкі, у якую ўключаны чалавек, пісьменьнік займаецца выключна глыбінёю псыхалёгічных адчуваньняў, гэта значыць, зводзіць рэчаіснасьць, прыроду да сьвядомасьці.

Некаторыя думаюць, што гэта менавіта і ёсьць правільны шлях у пазнаньні рэчаіснасьці. Так, напрыклад, тав. Ярмілаў, характарызуючы

творчасьць Л. Ляонава, знаходзіць, што ў рамане Ляонава «Вор» мы маем адзінства чалавека і прыроду, таму што творчасьць Ляонава абараняе палажэньне «сьвет—гэта чалавек». Такая думка зьяўляецца проста варожай марксызму-ленінізму, бо зразумела, што аб'ектыўная рэчаіснасьць, якая існуе па-за нашай сьвядомасьцю тут закрэсьліваецца, зводзіцца да сьвядомасьці.

Што мы маем у творчасьці Кузьмы Чорнага?

Мы маем самастойнае існаваньне, разьвіцьцё, змаганьне і перамогі чалавечых пачуцьцяў. Нават, фізыалёгічна ў многіх творах Кузьмы Чорнага мы чалавека не адчуваем. Мы маем толькі «дэманстрацыю пачуцьцяў», «парады пачуцьцяў», пакуты, радасьць гэтых пачуцьцяў, якія адздзяліліся ад чалавечае плоці і так самастойна і існуюць. Кузьма Чорны на першым этапе свае творчасьці імкнецца стушаваць клясавыя супярэчнасьці паміж людзьмі на вёсцы. Напрыклад, у рамане «Зямля» пісьменьнік **імкнецца** з аднолькавай любасьцю ставіцца і да Ганны дачкі кулака, Вольгі. Алеся, Тамаша, Сабастрняка. Для пісьменьніка гэта складаныя індывідыумы. Ён ня ставіцца да іх з утылітарнай, практычнай мэтай, ён іх бачыць як глыбока складаныя істоты, і гэтае яго захапляе, гэтае ёсьць яго стыхія. Калі ўзяць вобразы раману «Сястра»—там дзейнічаюць ня людзі з іх рукамі і нагамі, а фактычна псыхалёгічныя профілі гэтых людзей, людзі ў рамане жывуць нечым, некім, нейкім. Яны кудысьці ходзяць, штосьці робяць, але яны ня жывуць тым, што робяць. Іх думкі, настрої—асобная сфэра дзейнасьці. Падрабязна спыняцца на аналізе раману «Сястра» няма тут мажлівасьці. У чацьвертым нумары «Маладняка» за 1929 год была надрукавана пародыя на гэты раман, якая на мой погляд надзвычайна ўдала характарызуе асноўнае раману. Сустракаюцца два гэрої раману Ваця і Казя:

— «Гэта ты?

— Я.

— Дзе ты быў?

— А ты дзе?

— Я нідзе.

— Ты куды ідзеш?

— Я нікуды.

— І я нікуды.

— То от можа сядзем.

І Ваця з Казям селі на нейкую лаўку».

Гэта зразумела надзвычайна спрошчана і груба, але перадае асноўнае раману «Сястра», яна, пародыя, характарызуе бязмэтнасьць і бязвольнасьць, адарванасьць ад жыцьця людзей, якія ня могуць разабрацца ў напльве пачуцьцяў. Гэрої раману «Сястра» разважаюць пра рэчаіснасьць, а не зьяўляюцца ўдзельнікамі работ па ператварэньні рэчаіснасьці.

Кузьма Чорны, на першым этапе сваёй творчасьці, ня хоча рабіць прыгавары над сваімі людзьмі, ганьбіць адных і любіць, шанаваць другіх. У апавяданьні «Мельнікі» саўгасавец Кірылка наглядае за спрэчкаю паміж бацькам і сынам мельнікамі, спрэчкай выкліканай сацыяльнымі прычынамі. І от, Кірылка ня можа разабрацца хто правы з іх, хто вінаваты, і нарэшце прыходзіць да вываду: **«ат, што галава, то розум».**

Вось гэты прынцып паложаны ў аснову ацэнкі чалавека ў творчасьці Кузьмы Чорнага. Нельга асуджаць адных і абараняць другіх, усе людзі толькі надзвычайна складаныя і супярэчлівыя істоты.

Танката псыхалёгічнага аналізу—адзнака творчасьці Кузьмы Чорнага на тым этапе яе разьвіцьця. У кнізе апавяданьняў «Верасьнёвыя ночы» дадзены надзвычайна глыбокі аналіз чалавечае натуры—Агаты. Людзі дзейнічаюць і жывуць ціхай пачуцьцёвай пакорай, з гэтай пачуцьцёвай пакорай яны прымаюць радасьць, сум, пакуты і нават сьмерць. Часамі, гэтыя людзі хацелі-б што-кольвек рабіць, будаваць, каб гэтае ўсё толькі адбывалася павольна, ціха, спакойна. Ну і зразумела, што ў адпаведнасьці з аналізам глыбокіх, складаных адзнак псыхалёгіі чалавека—пэйзаж, прырода ў Кузьмы Чорнага атрымліваюць адпаведную псыхалёгічную афарбоўку. У апавяданьні «Верасьнёвыя ночы» так выяўлена праз псыхалёгічна пачуцьцёвае ўспрыйманьне чалавека нават ападаньне дасьпелых яблыкаў. Кузьма Чорны, паказваючы вёску, увесь у палоне патрыярхальнасьці, ён баіцца разбурыць патрыярхальны сьвет вёскі. Ціхая яе павольнасьць, дзе чалавек, як і пісьменьнік, ідзе за плыньню рэчаіснасьці, за плыньню падзей—захапляе пісьменьніка. Больш таго, чалавек Чорнага, як і сам пісьменьнік абараняецца за гэтай патрыярхальнасьцю ад наступу сацыялістычнага будаўніцтва.

Дробна-буржуазная ідэалёгія, інтэлігенцкая замкнёнасьць, захапленьне буржуазным гуманізмам, гуманістычнае чалавекалюбства — дыктуюць Кузьму Чорнаму такія дачыненьні да рэчаіснасьці.

Адна з раньніх кніжак Чорнага «Пачуцьці»—вельмі поўна ілюструе асновы творчага мэтаду пісьменьніка на першым этапе і мае ў сабе суб'ектыўна ідэалістычную сыстэму поглядаў, кніжка «псыхалёгізаваная» да апошняга радка. У аснове гэтай кніжкі Кузьмы Чорнага ляжыць ідэя: «сьвет—гэта чалавек», таму няма чаго нам займацца рэчаіснасьцю, няма чаго вывучаць тыя працэсы, якія адбываюцца ў рэчаіснасьці, сацыяльныя ўзаемаадносіны, працэсы клясавага змаганьня. Не. Трэба толькі вывучаць, аналізаваць складаныя чалавечыя пачуцьці, і тым самым мы ўжо будзем само сабой пазнаваць сьвет у яго шматвобразнасьці. Асноўная ідэя гэтае кніжкі праходзіць праз усе апавяданьні—«Вечар», «Буланы», «Пачуцьці», «Парфір Кіяцкі»—і выражана яна ў апавяданьні «Вечар» наступным чынам:

«Многа бачылася сьвету, а колькі яшчэ бачыцца будзе. Можа зямлі й мала за жыцьцё было пройдзена, ды многа было пройдзена чалавечых душ. **А чалавек—гэта-ж сьвет, адна істота—неабходны прастор, і разглядай яго, калі ўмееш»**

Ня дзіва, што ва ўсёй кніжцы «Пачуцьці» мы бачым ня людзей, а псыхалёгічныя профілі, псыхалёгічныя схэмы, якія разважаюць, спрачаюцца, думаюць, ходзяць. Чорны да таго ігнаруе рэчаіснасьць, канцэнтруючы ўвесь сьвет у сьвядомасьці людзей, што характарыстыка кожнага чалавека ў яго апавяданьнях кампазыцыйна разарваная—робіцца разрозьненымі думкамі, абрыўкамі фраз. Мэтад Кузьмы Чорнага зараней ужо вызначае, што людзі яго гэта не «созидающие», а выключна «думающие» істоты—менавіта такімі зьяўляюцца ў кніжцы і Віктар Зеніч, і Парфір Кіяцкі, і вобразы сялян.

Кладучы ў аснову «чалавек—гэта-ж сьвет», Кузьма Чорны з гэтага пункту гледжаньня характарызуе ўсю зямлю і людзей на ёй:

«І ўяўлялася зямля і людзі на ёй. І ўсё хацелася пайсьці па зямлі, ахваціць яе сабою і сказаць кожнаму: **вось я бачу, чую, адчуваю цябе. І пачынаю адчуваць у цябе тое, чаго ты і сам можа не адчуваў...».**

Вось тая філёзофская мерка сьвету, якую ўстанаўляе Кузьма Чорны на першым этапе свайго творчага росту. Асноўнае, «абсалютная» ідэя сьвету крыецца ў аналізе адчуваньняў чалавека. З гэтага пункту гледжаньня становіцца зразумелым і другі асноўны тэзіс, высунуты пісьменьнікам у апавяданьні «Буланы», што:

«Жыцьцё бязьмернае і неабдымнае, і перад адчуваньнем яго—нішто абшары сьвету».

Для таго, каб чалавечую сьвядомасьць абвясьціць адзінай крыніцай усяго існага, трэба, зразумела, гэтую чалавечую сьвядомасьць ізаляваць ад няжывое прыроды. Раз існым—тым, што ахапляе ўвесь сьвет,—абвешчана жывое, значыць, тут мы ўжо маем справу з адчуваньнямі, з пачуцьцямі. Адгэтуль-жа вынікае і тое, што Кузьма Чорны ў апавяданьні «Буланы» даходзіць да фаталістычнага наданьня акрэсьленых думак і пачуцьцяў, і нават амаль сьвядомасьці—жывёле, але пра гэтае пасьля.

Ставячы ідэёвай асновай сваёй кніжкі суб'ектыўна ідэалістычнае палажэньне «сьвет існуе, пакуль існуе чалавек, сьвет існуе пакуль існую я, пакуль існуюць мае пачуцьці»—ён з гэтага пункту гледжаньня разьвівае канфлікты паміж дзейнымі асобамі ў апавяданьні. Паказальным зьяўляецца апавяданьне «Вечар». Покуль думае Віктар Зеніч, покуль ён успрыймае—існуе пэўны стан, становішча рэчаў. Праз думкі Віктара Зеніча, з абрыўкаў яго ных думак, мы ведаем, пра жыцьцё сталяра і яго жонкі, пра Антаніну Гельц, якая ўсё сумуе па мінулым, пра хворага яго брата, пра жыцьцё рабочага клюбу. Як толькі абрываюцца Віктаравы думкі, мы нічога больш пра гэтых людзей ня ведам. Ня ведаем нават, што сталася з хворым Зенічавым братам і інш. Такое-ж мы маем і ў апавяданьні «Пачуцьці», дзе ўвесь сьвет сканцэнтраваны ў імпрэсыяністычным успрыйманьні Андрэя.

Але найбольш яскрава гэта выяўлена ў апавяданьні «Парфір Кіяцкі». Чорны робіць спробу паказаць, як Парфір Кіяцкі адрокся ад свайго духоўнага сану, і якімі філёзофскімі думкамі ў Кіяцкага суправодзіўся гэты працэс. І вось выяўляецца, што яго адраканьне выражалася праз суму суб'ектыўных ідэалістычных думак і настрояў, якія апанавалі былога папа. Пры чым, пад пакрывалам гэтых філёзофскіх думак і глыбокіх пачуцьцяў—ад рэальнага працэсу перараджэньня папа нічога не застаецца. Відаць, сам Кузьма Чорны думкі Кіяцкага апраўдвае, бо, як мы пабачым, яны ў Кіяцкага вынікаюць з тэзісу, які абараняе і пісьменьнік «Сьвет—гэта чалавек»:

«Але тады раптам ускінуўся вялікі бунт істоты, бура супроць буры, і няважны стаў непарадак. **Вышэй усяго стала сваё «я», якое давілі і тады.**

— Вакол зраблю хаос, а сам падымуся над ім».

Так разважае Парфір Кіяцкі, і гэтымі суб'ектыўна ідэалістычнымі думкамі суправодзіцца працэс яго перараджэньня, адыходу ад старога. Яскрава відаць і тое, што «я», якое становіцца вышэй усяго сьвету і навакол

творыць хаос, ідзе ад палажэньня пісьменьніка, што сьвет сканцэнтраваны ў жывой пачуцьцёвай істоце і што гэтая жывая пачуцьцёвая істота ахапляе сабою ўвесь сьвет. Гэтае-ж выяўлена і ў другім месцы ў развагах Парфіра Кіяцкага:

«Адчуваньне гэтае вызвала аднекуль з глыбіні істоты нейкую як-бы ўпэўненасьць, што гэта-ж калі ня прыпомніць ён, дык гэта будзе роўна таму, **што каб гэта рушыўся раптам увесь парадак сьветабудовы».**

Аднак Кузьма Чорны ня так наіўна ўжо закрэсьлівае аб'ектыўную рэчаіснасьць па-за нашымі ўспрыйманьнямі. Пісьменьнік разумее, што за межамі нашых пачуцьцяў ёсьць рэчаіснасьць, ёсьць нешта, што існуе па-за нашымі пачуцьцямі.

У Парфіра Кіяцкага—жанчына абудзіла ў ім такія пачуцьці:

«Зьявілася раптам страшная ўпэўненасьць, **што гэта і ўсё, што навакол, не яго, ня ў ім, а недзе за ім і да яго мае дачыненьне няглыбокае, пустое і ўся тая гармонія па-за ім.** Ён няпрыметны. І ня ён вырас бы ў істотаю саваёю на ўвесь сьвет, а сьвет вырас характвом сваім і свая велічыня толькі здалася, **бо была істота адрозьнена ад навакольнага».**

Парфір Кіяцкі тут выразна адчувае, што ўсё што навакол яго, ня ў ім,—значыць робіць адрозьненьне свае сьвядомасьці ад сьвету па-за яго сьвядомасьцю, але ён да таго ізаляваны ад усяго сьвету, што лічыць дачыненьне рэчаіснасьці да яго няглыбокім, пустым.

Калі прасачыць філёзофскія асновы першага пэрыяду творчасьці Кузьмы Чорнага, дык мы будзем бачыць, што ў гэтым выпадку Парфір Кіяцкі разьвівае думкі толькі самога Чорнага.

Для ўсяго першага пэрыяду творчасьці Чорнага якраз і характэрна, што ён жахаецца гэтага сьвету па-за нашымі пачуцьцямі, ён уцякае ад яго. Гэтае-ж мы ў найбольш закончанай форме маем у рамане «Зямля», «Сястра», у яго дробных апавяданьнях. І калі пісьменьнік разумее часамі, што па-за нашымі пачуцьцямі ёсьць сьвет, дык гэта толькі «ўпэўненасьць страшная», ад якой пісьменьнік хацеў-бы пазбавіцца. Таму ён на працягу першага пэрыяду сваёй творчасьці імкнецца давесьці, што сьвет толькі існуе ва ўспрыйманьні жывых істот, з тым, каб усё-ж гэты сьвет трымаць у палоне пачуцьцяў і ані не далей іх. Адсюль Кузьма Чорны да таго ўтрыруе свой псыхалёгічны творчы мэтад, што надзяляе каня пачуцьцямі, ледзь не сьвядомасьцю (апавяданьне «Буланы»): «Ня было яму хоцэладна і было нейк усё абыякім. Ня веела, значыцца, палявою воляй, а мінуўшчыны для адчуваньня ня было, была моцная мяжа ў іх, між тым, што ёсьць і тым, што было. Па адзін бок мяжы ўсё было запоўнена тым, што ёсьць, па другі бок—там дзе павінна было быць тое, што было,—было пуста. Гэтая пустая заўсёды палавіна часам прапускала пра сябе для раптоўнага ўяўленьня нешта вельмі тонкае і надзвычайна вострае, што рабіла заўсёды раптоўны ўздым таго, што застаўляла падымаць угору наколькі хопіць сіл галаву»...—так перададзены адчуваньні каня. Тут характэрным зьяўляецца тое, што адчуваньням Кузьма Чорны таксама ня прыпісвае сталае меркі,—пазнаньня жыцьця, гэтыя адчуваньні няпэўна, імпрэсыяністычныя, і якасьць іх залежыць ад тае істоты, якая адчувае. Шматплянавасьць адчуваньняў, вельмі частае зьмяшчэньне плянаў, суб'-

ектыўнасьць у тлумачэньні кожнага пачуцьця—падкрэсьліваюць ідэалістычныя асновы творчага мэтаду Кузьмы Чорнага на этапе «Пачуцьцяў».

Няпэўнасьць гэтая, як і ў рамане «Сястра» характарызуецца эпітэтамі: «нешта, нечае, нейкае».

«Ён не даваўся ім—яны зноў прабудзілі ў ім нейкую, аб нечым і ад нечага, трывогу, ён кінуўся бегчы,, а пасьля як-бы раздумаўся, адчуў раптам, што ногі неяк дрыжаць і слабыя».

Гэта пачуцьці каня перад яго сьмерцю. Суб'ектывіцкія, неакрэсьленыя адчуваньні служаць для выяўленьня тых пачуцьцяў, якім мы ня маем назвы, якіх мы ня можам пэўна адзначыць—гэта значыць Чорны адшукоўвае новыя пачуцьці, якія можа адзін раз перажывае чалавек, або другая жывая істота, каб болей іх ніколі не адчуць. Чорны тут цалкам у палоне фаталістычнага інтуіцызму, дзе кожнае нязначнае пачуцьцё, выкліканае нямаведама якімі фаталістычнымі прычынамі, можа зрабіць найвялікшыя павароты і зрухі ў паводзінах чалавека. А вось якія яны, чалавечыя пачуцьці, у якіх няпэўнасьць, неакрэсьленасьць ёсьць адзнака магутных чалавечых адчуваньняў:

«Будзе ў гумне пахнуць саломаю, сухою мятліцаю, што ў жытных снапох, і яшчэ нешта будзе там, ці то гэта ў зыках якіх-небудзь, ці ў выглядзе ўсяго, ці ў гэтым паху. Яно несьвядома роднае, яно ахапляе ўсё жыцьцё, праходзіць праз яго; **яно вялікае, значнае, што заўсёды адчуваецца ўсякім і ніколі нікім ня выказваецца ў словах, і заўсёды зьвязана з чалавечымі настроямі**».

І вось, нават для выяўленьня вялікага і важнага Кузьма Чорны мае мерку толькі вузка-суб'ектыўную, няпэўную і нявыразную.

Часамі пры паказе людзкой сьвядомасьці Чорны ўтварае цэлы хаос напльву пачуцьцяў, настрояў—так што адны пачуцьці зьмяняюць другія, нямаведама якімі прычынамі выкліканыя.

«Зьяўляўся ў вушшу гром гораду й гаворкі людзей, то раптам тонкасьцю выбухалі недзе з сэрца адносіны з людзьмі, а то ўсё калі-небудзь чуванае, бачанае, перажытае на момант зьнікала й пасьля зноў раптам зьяўлялася»...

У «Пачуцьцях» Чорнага кожны радок прасякнуты адзінай ідэёвай асновай: абвяшчэньне нашых адчуваньняў меркай усяму існаму, нашы адчуваньні служаць меркай пэйзажных вобразаў і інш.:

«Вострa пахла зямля і дыхала поле неабдымным прасторам. **І ўсё, самае нават малое, праходзячы праз людзкія пачуцьці, поўна было вялікага сэнсу**»...

Суб'ектыўна ідэалістычная сыстэма поглядаў вельмі-ж аб'ядняла кола тэм, глыбокіх ідэй і праблем у творчасьці Кузьмы Чорнага. Творчасьць Чорнага, калі-б ён працягваў лінію «пачуцьцяў» няўхільна павінна была-б прыйсьці да свайго заняпаду, да свайго лёгічнага канца, бо мела сваёй стыхіяй вузкія, абмежаваныя, хваравітыя, нязвычайныя пачуцьці.

Творчы мэтад Кузьмы Чорнага такім, якім ён знаходзіў сабе найбольш поўнае выяўленьне ў кніжцы «Пачуцьці», мэтад суб'ектыўна ідэалістычны ня мог спрыяць далейшаму пасьпяховаму росту пісьменьніка. Пачынаецца шуканьне выхаду з творчага тупіка. Хуткія працэсы росту сацыялістычнага будаўніцтва—прамысловасьці, сельскай гаспадаркі, перaробка міль-

ённых мас дробна-ўласьніцкіх сялян—патрабавала ад пісьменьніка адыйсьці ад старых творчых пазыцый, ад старога сьветапогляду, ад гуманістычнай інтэлігентшчыны. Кузьма Чорны ў гэтыя часы (1927-28 г. г.) робіць вельмі нязначныя зрухі наперад, ды і то гэтыя зрухі праводзіліся вялікімі памылкамі. Ад ідэалістычнага псыхалёгізму ён кідаецца ў грубы мэханістычны матэрыялізм, біалёгізм, хаця ідэалістычная сыстэма застаецца ў сіле і існуе побач з біалёгізмам.

Калі Кузьма Чорны пачынае выводзіць сваіх гэрояў з рамак «строгай ізаляцыі» ад усяго знадворнага сьвету, калі ён прабуе адыйсьці ад замкнёнага псыхалёгізму і паказаць чалавека разам з яго рукамі і нагамі ў яго дзейнасьці, у клясавых узаемадачыненьнях, ён нямінуча сыходзіць да фізыялёгізму. Замест клясавых адносін выступаюць эгаістычныя пачуцьці і імкненьні, імкненьні чалавека як фізіялёгічнае істоты. Паводзінамі людзей кіруюць біялёгічныя імкненьні і наданьні. Дачыненьні гэрояў Кузьмы Чорнага да іншых людзей маюць падставы ня клясавых пазыцый, калектыўных інтарэсаў, а пункт гледжаньня сваіх асабістых жаданьняў:

«Ён нішто чалавек, мне нічога дрэннага не зрабіў», альбо «Што-ж я магу мець супроць яго, для мяне ён добры».

Раман «Зямля»—ёсьць работа Кузьмы Чорнага, якая паказвае, што пісьменьнік робіць спробу адыйсьці ад суб'ектыўнага ідэалізму да біалёгізму, аднак такая работа, дзе Кузьма Чорны яшчэ прабуе давесьці, што яго старыя творчыя пазыцыі не перашкаджаюць распрацоўцы і выразьненьню вельмі важных і вялікіх ідэёвых праблем нашага часу.

У «Зямлі» Кузьма Чорны паставіў сабе за тэму паказаць тыя працэсы, якія былі ў аднаўленчы пэрыяд на вёсцы. І гэтыя працэсы паказаў у крывым люстры. Раман «Зямля» найбольш шырока паказаў і вялізарнейшы крызіс сьветапогляду пісьменьніка.

У чым асноўная ідэя раману «Зямля?

Ідэяй раману «Зямля»—так, як яна выражана праз мастацкія вобразы (ня маючы тут на ўвазе суб'ектыўныя намеры аўтара), ёсьць—давесьці, што на вёсцы існуе клясавы мір, спакой, ня гледзячы на ўсе дробныя спрэчкі і непаладкі паміж сялянамі, што ўсе сяляне адно брацтва, тым больш, што ў біалёгічных адносінах яны ўсе аднолькава складаныя і разумныя істоты.

Асноўнае пры паказе вёскі аднаўленчага пэрыяду—гэта паказаць клясавае разьмежаваньне, паказаць, як на вёсцы паўстае кляса супроць клясы.

Чорны прабуе разгарнуць паказ на вёсцы клясавае няроўнасьці, паказвае бедняка Мацея, вясковых актывістых (Тамаша), серадняцтва ў вобразе сівабародага Паўлы, кулакоў (Сабастыяна, Юліка Барановіча, Вашыловіча). Паказвае іх маемасную няроўнасьць, пакуты беднякоў, часамі паказвае зьдзекі над імі кулацтва, спрэчкі паміж беднейшаю часткаю вёскі і заможнікамі, але ўрэшце рэшт усё-ж такі даводзіць, што гэтыя людзі ёсьць адна агульная сям'я, якая можа знайсьці сабе агульную мову. Недарма—перад сьмерцю—усе гэтыя людзі адчуваюць сябе зьлітнымі ў адзінае. Сьмерць Тамаша, Мацеявай жонкі ў паказе Кузьмы Чорнага выклікае пачуцьцё глыбокае пакуты ва ўсіх, робіць гэтых людзей зьлітнымі, зьяднанымі. Пачуцьцё біалёгічнае крэўнасьці, роднасьці зьнітоўвае гэтых людзей. Тамаш быў на вёсцы актывістым, абараняў нібыта інтарэсы бяд-

няцтва, многія з заможніцкіх пластоў вёскі яго ня любілі, і от, Тамаш, памірае і ўся вёска, пачынаючы ад заможніка Сабастыяна і канчаючы бедняком Мацеям, адчуваюць глубокую пакуту, бо сьмерць тут у Кузьмы Чорнага выступае сымбалем агульна-чалавечым, якая кладзе канец усім клясавым спрэчкам і супярэчнасьцям, перад сьмерцю ўсе людзі роўныя.

Сабастыян сам узяўся рабіць дамавіну Тамашу:

«Нехта-ж патом вінават, што некаму жывецца дрэнна. Як гэта, каб ня было каго, ці можа там чаго, вінаваціць, што нехта ўмірае, а ня жыве. От табе тут і праўда. Шукай тут праўды». Гаворачы гэтае Сабастыян надзвычайна паважае тыя маладыя пачуцьці, якія заўжды жылі ў Тамаша. Уся вёска шкадуе Тамаша, як нейкага сьвятога, пакутніка за інтарэсы вёскі, а між іншага, гэта ўсяго толькі сябра сельсавету, органу дыктатуры пралетарыяту. Жанчыны ладзяць па Тамашу цэлае набажэнства:

«...Стаіць перад ім на каленях і валасы на сабе рве. І народу поўна хата. Бабы і старыя сьпяваюць царкоўныя песьні»,—апавядае камсамолец Клемусь. Нават кулак Вашыновіч «прыходзіць памаліцца па Тамашу—на каленях перад ім памаліўся, заплакаў і пацалаваў Тамашу ў нагу. У белых панчохах ляжыць Тамаш».

Гэтая еднасьць усіх людзкіх пачуцьцяў, усіх людзей, бяз розьніцы клясавае прыналежнасьці замацоўваецца яшчэ больш перад долам, у які павінны апусьціць Тамаша:

«У той дзень зямля прымала ў сябе Тамаша. Яна была раскапана і разварочана рыдлёўкамі... На тры аршыны ўглыб расчыніла зямля нетры свае, маўчала, цяжкасьцю кожнае жмені пяску, перад холадам усіх недарэчнасьцяй сьвету. Тры аршыны пяску ўпарта чакалі... Сярод сотняй людзей пад халодным сонцам, у замарожаным сьвеце... Медзяныя зыкі, яны ўвасаблялі ў сабе ўсю магутнасьць сьвету і ўсю яго слабасьць, і вялікасьць усіх вялікасьцяй была ў гэтых зыках»...

Чорны ў рамане «Зямля» стаіць на пункце погляду, што клясавы мір, спакой на вёсцы можа быць дасягнуты. На варце гэтага клясавага спакою Кузьма Чорны ў рамане «Зямля» паставіў камуністага Алеся і актывістага Тамаша. Яны клапоцяцца пра земляўпарадкаваньне, пра алейню, грамадзкія справы, нават мараць арганізаваць камуну. Яны стаяць не на варце клясавага змаганьня, а клясавага братэрства. Ня дзіва, што ўсе сяляне задаволены работай Алеся і Тамаша. Земляўпарадкаваньне правялі, і ўсе проста рады:

«От усё і скончылася,—кажа Тамаш,—усёй нашай камісіі канец. Да хаțадоў управіліся, перамералі, перарэзалі. Няхай цяпер хто нездаволены прывыкае, прывыкне, палаецца, падзякуе».

А Вашыновіч кажа:

«— Чорт яго ведае, можа яно і лепш будзе».

Такім чынам, зрабіўшы выхад з абмежаванага кола аналізу вузкіх і хваравітых пачуцьцяў на паказ працэсаў рэчаіснасьці больш поўна, людзей у дзеяньні—Кузьма Чорны аднак не становіцца на паказ людзей у іх клясавым змаганьні, а толькі ў іх біялёгічных дачыненьнях, пераносячы ўсю ўвагу на бытавы паказ вёскі і інш.

Ва ўсіх людзей у «Зямлі» шырокія пэрспэктывы, мары, ідэі, аднак яны толькі ў пачуцьцях, у думках. І гэтыя пэрспэктывы і мары тінуць, не

атрымліваючы рэальната ўцелаісьненьня ў рэчаіснасьці, у сацыяльнай чалавечай практыцы. Вялізарнейшымі пэрспэктывамі і ідэямі жыве Тамаш, Алесь, а між іншага яны нават ня могуць дапамагчы бедняку Мацею ўзьняцца з бруду, беднасьці, гібеньня, так што, адзіны шлях Мацея ў паказе Кузьмы Чорнага—гэта згібеньне ў бядноце. Чаму так атрымліваецца? Таму, што Кузьма Чорны пераламленьне гэтых вялікіх мар і ідэй бярэ толькі або ў псыхалёгічным, або ў біалёгічным пляне, а не ў атмасфэры сацыяльнай чалавечай дзейнасьці, клясавым змаганьні, і тым самым пустошыць увесь сэнс гэтых вялікіх ідэй.

Такімі спустошанымі і нязьдзейсьненымі на практыцы застаюцца мары Алеся пра арганізацыю камуны.

У дачыненьні да «Зямлі» мы можам упэўнена сказаць, што тут яшчэ жывуць і дзейнічаюць людзкія пачуцьці, у іх фізыялёгічнай целаіснасьці, а не клясавыя людзі ў іх сацыяльнай практыцы.

«Зямля» ў Кузьмы Чорнага выступае ў мэтафізычным ідэалістычным сьвятле—сымбалем чыстаты, прыгожасьці, сымбалем лепшых людзкіх пачуцьцяў. Уласьнік зямлі ёсьць чысты і самы поўнацэнны ўладар яе. Нядзіва, што ў рамане ўласьнікі зямлі так настойліва выступаюць супроць батрацтва, якое пачынае набываць таксама сабе гаспадарку:

«Горш за ўсё дык гэта сьцегачы. Крыўдна, ай-ай, як крыўдна, ліха на яго. Панацягвалася з усяго сьвету і цяпер камандаваць прэцца. Унь іншы можа дзе якім паскудзтвам займаўся, па сьвеце валачыўся, а гэта прыблытаўся сюды, разьзявіў горла арудаваць...».

У «Зямлі» пісьменьнік аддаў вялікую даніну эмпірычнай фіксацыі пачуцьцяў, слоў, думак, бытавых дачыненьняў. У «Зямлі» усё цячэ сваёй плыньню, надзвычайна павольна разгортваюцца перад чытачом людзкія пачуцьці і паводзіны. У Кузьмы Чорнага ў «Зямлі» пераважае паказ індывідуальнасьці, асобы і надзвычайна чулыя і далікатныя адносіны да гэтае асобы. У адпаведнасьці з асноўнай ідэёвай устаноўкай, што клясавы спакой на зямлі мажлівы, пісьменьнік не асуджае ніводнае з дзейных асоб, ніякіх вобразаў процілежных іх думкам не супроцьстаўляе.

Што кладзе Кузьма Чорны ў аснову падзелу сялян на вёсцы на багацейшых і бяднейшых? У аснову кладзецца прынцып, які вынікае лёгічна з пункту гледжаньня біялёгізму: ад прыроды людзі няроўныя. Адны здаравейшыя, другія слабейшыя, адны больш, другія менш энэргічныя, адны больш працавітыя, здольныя да працы, другія менш. Багацейшы больш працаздольны, больш энэргічны. Бядняк нядбайны, непаваротлівы. Беднякі самі гэтымі прычынамі тлумачаць сваю беднасьць. Бядняк Мацей кажа:

«Летась у мяне было тры вішні ў агародзе, дык я іх спаліў у печы, а пасьля ад вулачкі плот разабраў, так што людзі даўно пасеялі агароды, а ў мяне пустка была, сьвіньні цэлую вясну спацыравалі».

А от што гавораць пра беднякоў тыя самыя сяляне, якія так жадаюць братэрства і клясавага спакою, і словам якіх нічога ня можа супроцьставіць ні камуніст Алесь, ні Тамаш, ні сам аўтар:

«Якое ім ліха абходзіць. Робяць мала, клопату ў галаве нямнога, а ты ім давай. Чаму, не, уга! Гэткім пролетарам і я магу зрабіцца... Што гэта дрэнна гатовае браць? А хто-ж табе вінават, што ў цябе не гаспадарка, а

халера веда: што? Што ты сваю гаспадарку да торбы давёў!?. Гультаёў на сьвеце колькі хочаш».

Тая думка, што ад прыроды, ад нараджэньня ўсе людзі няроўныя, жыве ў рамане Кузьмы Чорнага «Зямля», гэтая-ж думка, як мы пазьней пабачым, прапагандуецца праз мастацкія вобразы Чорным у аповесьці «Лявон Бушмар».

Характэрным зьяўляецца і тое, што ў рамане «Зямля» найвышэйшым гонарам чалавека аўтар лічыць, фізычную чыстату чалавека, не заплямленасьць яго ў маральна біалёгічных адносінах. Юлік Барановіч у адказ на тое, што яго завуць кулаком, кажа:

«Мне ўсёроўна. Няхай мяне хоць чортам лічаць, да мяне нічога не прыстане. Я ніколі не забіў і не аграбіў. Іншы ня мае—бо рабіць лянуецца».

Людзі ў рамане «Зямля» эгаістычныя, толькі асабістыя інтарэсы кіруюць іх паводзінамі: «Каб чалавек канаў ніхто не паможа». Бедняком у «Зямлі», як і самому аўтару, дзікім здаецца здабываць сваё права на існаваньне ў змаганьні супроць кулацкае часткі вёскі. Бednякі змагаюцца за тое, каб устанавіць братэрскія адносіны паміж людзьмі, каб жыць у клясавай згодзе, і гэтае падмацоўвае тую, намі раней выказаную думку, што асноўнай ідэяй раману «Зямля» ёсьць змаганьне за братэрства паміж людзьмі на зямлі. Бядняк Мацей вось што кажа:

«Я тут скажу перад усім народам. Ты, Сабастыян, не па брацку робіш. Брат гэтак ня робіць. Ты багацейшы за мяне. У цябе двое коняй летась было, а дзяцей малых няма. Ты астаўся жыць на бацькаўшчыне, а мяне аддзялілі»... І Мацей увесь час дамагаецца братэрскіх адносін да сябе кулака Сабастыяна, ня гледзячы на тое, што Сабастыян раіць яму, калі ён, Сабастыян, пакрыўдзіў, яго «падаваць на суд».

Фактычна, увесь раман «Зямля», дзе з аднолькавай псыхалёгічнай чуласьцю аўтар ставіцца і да беднякоў і кулакоў на вёсцы—ёсьць імкненьне ўстанавіць клясавае братэрства. Кулацтва ў рамане-ж зьдзекуецца над беднякамі, у прыватнасьці і над Мацеям, і Чорны гэтым задзекам нічога супроцьставіць ня мог, апрача таго, што Юрка—малы сын Мацеяў—адказвае на гэта горкім плачам.

Зразумела, нельга гаварыць, што Кузьма Чорны ставіцца з антыпатыямі да бядняцкае часткі вёскі. Наадварот, усе яго сымпатыі на баку беднякоў. Ён надзвычайна глыбока паказвае жыцьцё пакутнае і гаротнае Мацея, дзяцей яго, разгортвае паказ, як псыхалёгічна глыбока гэтая беднасьць, галеча пераламляецца ў душы малога Юркі. Паказвае дзяцей Мацеявых асірацелымі, убогімі, якім няма да каго прытуліцца пасьля сьмерці маткі. З выключнай сілай Кузьма Чорны перадае адчуваньні Юркі на магіле маці:

«От яны ўжо селі на воз, на памятую, пацёртую салому. Чакаюць яго малога, маўклівага. Ён-жа глядзеў, як яны клалі на воз рыдлёўкі... Падышоў да насыпанага над зямлёю жвіру, як стары агледзеў яго, і кінуўся на яго тварам... пахнуў пясок і трава каля яго, і восень, і зямля.

Як-жа яна пахла—зямля».

Але справа ў тым, што пасывістычны творчы мэтад не дае мажлівасьці Чорнаму вывесьці гэтых людзей на шырокі шлях змаганьня за свае правы

і атрымліваецца, што ўсе бедIякі адказваюць ціхай пакорай на ўсе свае пакуты.

Адзіны крытэры павагі да чалавека ў «Зямлі»—гэта гаспадарнасьць чалавека. І Тамаша, і Алеся паважаюць толькі таму, што яны добрыя гаспадары. «Ён то гаспадар, на яго няма чаго казаць. Хто на яго што скажа».

Тыя вялікія мары і ідэі, якія носяць у сабе і Алесь і Тамаш, так і ня зьдзейсьніліся на практыцы, бо творчы мэтад Чорнага, дзе асноўным зьяўляецца ізаляцыя чалавека ад клясавай практыкі, не дазволіў яму разгарнуць вобразы зьдзейсьненьня вялікіх плянаў работ на вёсцы па сацыялістычнай перароблцы яе. Перамер зямлі, земляўпарадкаваньне не парушылі адвечнае патрыярхальнае цішы, гэта яшчэ падкрэсьліваецца тым, што Тамаш, ня зьдзейсьніўшы сваіх думак, пайшоў на той сьвет з імі.

Адсутнасьць у рамане паказу вялікіх сацыялістычных работ, цягне Кузьму Чорнага назад да суб'ектыўна-ідэалістычнага творчага мэтаду. Чорны пачынае пераносіць цэнтр цяжару на індывідуальную чалавечую псыхалёгію, на разгортваньне бытавых адносін паміж людзьмі. Псыхалёгізм тут у пісьменьніка спалучаецца з ідэалізацыяй патрыярхальшчыны вёскі. Трэба сказаць, што глыбіні і мастацкага размаху Чорны дасягае ў паказе псыхалёгічных працэсаў чалавека. Вось напрыклад перададзены адчуваньні хворага Тамаша ў гарачцы:

«І голас гэты ўваходзіў у сьвядомасьць, як нешта незразумелае, цяжкае, калючае... Здавалася яму, што гэта на полі так ціха. Ветру няма, але ідзе аднекуль плынь паветра, з ядлоўцавых кустоў, з крушынавых надрэчных зарасьнікоў. І дымам аднекуль цягне... Пасьля Мацьвеіха з Юркам падыйшла да іх і гаворыць:

— Пільнуй, Тамашка, майго хлапца.

І ён адказвае:

— Буду пільнаваць.

— Упільнуй-жа хаця яго.

— Упільную.

Раптам усё гіне, прападае».

З такой-жа вялікшай глыбінёй пададзены адчуваньні малога Юркі і Юзіка. Не даводзіцца гаварыць пра тое, што пэйзаж, партрэты псыхалёгізаваны да апошняга радка. Прырода ў рамане надзелена ўсімі адчуваньнямі і паводзінамі, якія толькі ўласьцівы чалавеку, і хадой, і гаворкай і адчуваньнем паху, смаку і інш. Але характэрным зьяўляецца тут тое, што паміж псыхалёгічна-глыбокімі адчуваньнямі чалавека, якія паказвае нам Кузьма Чорны, і чалавечай практыкай, дзеяньнем—існуе вялізарнейшы разрыў. У вышэй пададзенай вытрымцы Тамаш сымбалізуецца, як чалавек справядлівы, пастаўлены на абарону галодных, пакутных і гаротных дзяцей беднаты, падобных Юрку, аўтаравы сымпатыі на баку Тамаша, але мы з раману ведаем, што ён, Тамаш, у сваім жыцьці, у сваёй рабоце ня толькі ня змог стаць на абарону гэтых абяздоленых дзяцей, а сам сваёй работай на карысьць «агульна-людзкага», «пазаклясавага» брацтва дапамагаў гэтым гаротным дзецям ня вылазіць з пакуты, з голаду. Адкуль-жа ў Тамаша выклікаліся такія думкі ў гарачцы пра сваю дабрачынную ролю ў дачыненьні да бедных дзяцей. А вельмі проста: гэтай дабрачыннасьцю яго

надзяліў сам аўтар, самому аўтару здаецца, што работа Тамаша—гэта работа на карысьць бядняцкае часткі вёскі.

Разам са сваімі гэроямі, да якіх Чорны ў «Зямлі» ставіцца з вялікай любасьцю, пісьменьнік хаваецца за патрыярхальнасьць вёскі, за яе «прыродную нечапаную красу». Разам з Ганнай, дачкой Барановіча, ён тужыць па віргіні, якую дачасна зьнішчылі і замянілі кармавымі буракамі:

«Я ўсё шкадую вяргіні, здаецца, жывая яна была і самахоць яе з сьвету зжылі»,—піша Ганна. Патрыярхальнасьць вёскі захоўваецца Чорным асабліва беражліва ва ўсім рамане. Старадаўнія народныя сьпевы, звычаі, мова, бытавыя адносіны—ні чым новым на вёсцы не парушаюцца, а захоўваюцца ў пэўнай ступені нават камуністымі.

Цяпер нам становіцца зразумелым і тое, што агульная сацыяльная вузасьць раману «Зямля», адсутнасьць паказу вялікага поступу сацыялістычнага будаўніцтва на вёсцы—стварылі тое, што Кузьма Чорны ўвесь час звужае ідэёвую аснову твору, ідучы за рэчаіснасьцю, фіксуючы падзеі. І там, дзе аўтар ня можа вырашыць тыя праблемы, якія стаяць у пасьлякастрычнікавай вёсцы—ён уцякае ад іх, адходзіць у сьвет псыхалёгічна-замкнёных адчуваньняў. Пісьменьнік дае надзвычайныя ўзоры аналізу чалавечых пачуцьцяў, але гэтыя пачуцьці вельмі часта становяцца ў супярэчнасьць з аб'ектыўнай рэчаіснасьцю, часьцей усяго яны ізаляваны ад рэчаіснасьці, і тым самым пісьменьнік сапраўдныя вялікія пачуцьці, тыя пачуцьці, якія фармуюцца ў клясавых бойках—паказаць няздольны і ня можа. Мы проста кажам, што раман «Зямля» Кузьмы Чорнага звужваў творчую ініцыятыву, размах ідэй сапраўднага майстра мастацкага слова, якім ёсьць Кузьма Чорны.

Раман «Зямля» ёсьць твор, які завяршае першы пэрыяд творчасьці Кузьмы Чорнага.

Чым характарызуецца гэты пэрыяд творчасьці пісьменьніка?

Кузьма Чорны гарадзкі інтэлігент, аднак інтэлігент моцна зьвязаны з вёскай і ў першыя гады нэпа, калі ўплывы буржуазныя ў літаратуры былі яшчэ значнымі, падпадае пад уплыў буржуазнае ідэалёгіі, буржуазнае літаратуры, творчага мэтаду клясава варожых нам літаратурных школ. Гэты значны ўплыў буржуазнае ідэалёгіі замыкае Кузьму Чорнага ў вузкі сьвет суб'ектыўных пачуцьцяў. Кузьма Чорны адрываецца ад сацыялістычнае практыкі пралетарыяту, ад працэсаў сацыялістычнага будаўніцтва. Тую частку дробнай буржуазіі, погляды якой выяўляў у сваёй творчасьці Кузьма Чорны, у грамадзянскую вайну пужалі жахі вайны, тады яна дэманстравала свой страх перад вайной пасыўнасьцю, замыканьнем у псыхалёгічныя буры. Гэтая дробна-буржуазная інтэлігенцыя, вялікая частка якой была зьвязана з вёскай, замыкаючыся ў сваю пасыўнасьць, пачынала сабе шукаць прытулку ад бур клясавага змаганьня ў патрыярхальнай цішы вёскі, пачынала сабе ствараць ілюзорна гэтую патрыярхальную цішыню на вёсцы, бо на справе магутнымі крокамі сацыялістычнага будаўніцтва разбуралася патрыярхальная цішыня на вёсцы ўжо даўно. Сам аўтар, як і ўлюбёныя яго гэроі, шукае «буры ў цішы», ізалюецца ад працэсаў будаўніцтва, баіцца гэтага будаўніцтва. Гэроі раману «Сястра» шукаюць «самі ў сабе», у сваіх адчуваньнях «буры ў цішы» ва ўмовах гарадзкога жыцьця. Калі-ж сацыялістычны наступ у горадзе пачынае ахопліваць усе галіны

жыцьця, Кузьма Чорны разам са сваімі ўлюбёнымі гэроямі пачынае шукаць прытулку на вёсцы, марыць пра тое, што на вёсцы можна яшчэ змагацца за адзінае «пазаклясавае» брацтва і яднаньне людзкіх пачуцьцяў. Разгорнуты сацыялістычны наступ у пэрыяд рэканструкцыі як у горадзе, так і на вёсцы канчаткова разьбівае ілюзорныя гуманістычныя, чалавекалюбскія ідэі Кузьмы Чорнага. Разгорнуты наступ сацыялізму, змаганьне на ідэалёгічным фронце, выкрыцьцё варожых пралетарыяту настрояў сярод некаторай часткі старае інтэлігенцыі, змаганьне з буржуазным нацыяналізмам—паставілі перад Чорным ва ўсю шырыню пытаньне пра перабудову свайго сьветапогляду.

Кузьма Чорны вельмі і вельмі-ж зразумеў і адчуў гэтую патрэбу ў перабудове сьветапогляду, бо далей ісьці ня было ўжо куды. Стары сьветапогляд прывёў пісьменьніка ў тупік.

Пісьменьнік у першую чаргу пачынае рашуча парываць з ідэалістычным псыхалёгізмам, але часамі, сам таго не заўважаючы, ідзе да грубога біягавізму. Кузьма Чорны прабуе ва ўсю шырыню разгарнуць, паказаць сацыялістычную пераробку вёскі, працэсы калектывізацыі вёскі, адьвярэласьць кулацтва ў змаганьні супроць калектывізацыі. Ён піша аповесьць «Лявон Бушмар». І от, ня гледзячы на ўсе суб'ектыўныя добрыя намеры аўтара, паказаць перамогу сацыялізму на вёсцы (а што гэтыя добрыя суб'ектыўныя намеры сапраўды былі, мы бачым з самае аповесьці «Лявон Бушмар» і з твораў, якія ў гэты час друкуе Кузьма Чорны—«Сустрэчы з васпаватым чалавекам», «Вызваленьне», і інш.)—твор гэты адыграваў на справе рэакцыйную ролю. У чым-жа справа? А справа ў тым, што сэнсуалістычны матэрыялізм, біялёгізм творчага мэтаду Чорнага, дзе паводзіны і дзеяньні людзей тлумачацца не сацыяльнымі, а біялёгічнымі прычынамі, падмена чалавека клясавага чалавекам біялёгічным—стварылі такі стан рэчаў, што кулак Лявон Бушмар, які падпальвае калгас, адчынена выступае з тэрарыстычнымі актамі супроць прадстаўнікоў савецкае улады, фактычна застаецца невінаватым [1]).

Аповесьць «Лявон Бушмар» мела пэўнае дадатнае значэньне для творчае перабудовы Кузьмы Чорнага. Гэтая аповесьць паказала, што ні ўтрыраваны псыхалёгізм, ні голы біялёгізм ня могуць прывесьці пісьменьніка да правільных творчых пазыцый. Чорны зразумеў, што адзіны шлях перабудовы свае творчасьці—вырашэньне глыбокіх сацыяльных праблем нашага часу.

Але былі вялізарныя аб'ектыўныя прычыны, якія спрыялі хутчэйшаму прасоўваньню Кузьмы Чорнага на шляхох да пралетарыяту. Буржуазныя элементы ў літаратуры, якія ажывіліся былі ў пачатку НЭП'у—разьбіты. Час, посьпехі нашага будаўніцтва разьбілі і давялі нікчэмнасьць і пустату іхніх ідэй. Будаўніцтва сацыялізму, вялізманны развой яго, глыбока ўплывалі на Кузьму Чорнага. От гэта, як і разгром адкрытых і замаскаваных шкоднікаў на гаспадарчым і ідэалёгічным фронце канчаткова адштурхнулі Чорнага, як і ўсю асноўную масу дробна-буржуазнай інтэлігенцыі, ад ідэёва гнілой буржуазнай культуры, абумовілі вызваленьне Кузьмы Чорнага з-пад моцных уплываў буржуазнай літаратуры. Пісьменьнік у сваіх апошніх тво-

[1]) Больш поўны разгляд аповесьці „Лявон Бушмар“ глядзі ў маім артыкуле, „Пра адну рэакцыйную аповесьць“—„Маладняк“ № 1 за 1931 год.

рах упэўнена перамагае старыя асновы свайго мэтаду. Беручы ідэю нашага часу, разьвязвае яе не ізалявана ад клясавага змаганьня пралетарыяту, а ў сувязі з гэтымі задачамі, выходзячы з гэтых задач.

Актыўнае ўключэньне Кузьмы Чорнага ў практыку сацыялістычнага будаўніцтва, паварот да пралетарскае ідэалёгіі мае для савецкае літаратуры БССР значэньне, бо Кузьма Чорны ёсьць вялікі майстра мастацкага слова.

Пералом у творчасьці Чорнага вызначыўся ў 1929 годзе, і за апошнія тры гады пісьменьнік зрабіў цяжкі шлях (праз аповесьць пра калектывізацыю—«Вясна», раман «Ідзі. Ідзі» («Раскрыжаваньне»), кніжку апавяданьняў пра вытворчасьць—«Брыгадзіравы апавяданьні» і раман «Бацькаўшчына») у перабудове свайго сьветапогляду.

Цяжкасьці ў перабудове сьветапогляду Кузьмы Чорнага былі выключна вялікія. Перабудова павінна была пайсьці па ўсіх асноўных ідэёвых стрыжнях творчых пазыцый пісьменьніка. Раман «Ідзі. Ідзі», які надрукованы ў часопісі «Узвышша», быў першаю грунтоўнаю спробаю выступіць супроць сваіх мінулых творчых пазыцый. У процілегласьць асноўным рысам свайго мінулага творчага мэтаду, дзе людзей яднала біалёгічная крэўнасьць, крэўнасьць псыхалёгічная, нацыянальная еднасьць,—Кузьма Чорны імкнецца тут падкрэсьліць, што клясавая сутнасьць ляжыць у аснове паводзін чалавека, і што гэтая клясавая сутнасьць можа, і раскрыжоўвае шляхі самых блізкіх у біалёгічным сэнсе людзей. Вялікае раскрыжаваньне на клясавай аснове адбываецца вельмі шпаркаю хадою з пачаткам рэканструкцыі народнае гаспадаркі. Гэтае раскрыжаваньне ў рамане адбываецца вакол сымбалю старога, нязрэзанае яшчэ дзічкі, на неўзаранай зямлі. Раскрыжаваньне шляхоў кулака Сегенецкага і, можна сказаць, парабка Якуба Сегеня паказана так: адзін гібее ў бядноце, у голадзе,—другі—заможны шляхціч, які эксплёатуе дачку Якуба Сегеня, сваю пляменьніцу. «От тут гэта. Ах! што ёсьць на сьвеце... От гэта самае месца! А Якуб Сегень моцны чалавек! Колькі ён на сваіх плячах вынес за свой век... Браты! Усё адно як дарогі раскрыжаваліся і ідуць, і ідуць у розныя бакі».

Так раскрыжоўваюцца шляхі двух братоў, і іх тут у паказе Кузьмы Чорнага яднае не фізіалёгічная крэўнасьць, а клясавасьць—стымул раскрыжаваньня іх шляхоў, іх нянавісьці.

Сын Сегенецкага так і пайшоў змагацца за адраджэньне буржуазна-нацыяналістычнай Беларусі, у той час як, дзеці Якуба Сегеня былі першымі ў новаарганізаваным калгасе. Ён, сын Сегенецкага, ідзе туды, на Захад, адкуль буржуазны нацыяналізм разам з папамі, клерыкаламі чакаў «адраджэньня» буржуазнай Беларусі. Балеслава Сегенецкага пасылае туды ксёндз:

«Твой айцец перад сьмерцю на споведзі маўчаў пра свае крыўды. Калі мёртвы маўчыць, дык жывы павінен гаварыць. Калі мёртвы дарує, дык мы на тое жывыя. Я веру ў перамену сьвету і ў запанаваньне вялікае ідэі з Захаду да нас».

Кулак Балеслаў Сегенецкі пайшоў туды стаць правадніком гэтае ідэі:

«Яму ўдалося. Арка з надпісам «Камунізм зьмяце ўсе межы» засталася ў тую ноч у яго за плячыма».

Раскрыжаваньне шляхоў на клясавай глебе Чорны паказвае на прыкладзе людзей надзвычайна нават блізкіх у мінулых па змаганьні. Гэта Гарус і Галена ў разуменьні нацыянальнага пытаньня. Гарус, чалавек, які змагаўся разам з Галенаю ў Заходняй Беларусі, сядзеў нават у турме, але ў аснове яго змаганьня былі буржуазна-нацыяналістычныя ідэі. І яго шлях і шлях Галены, з якою ён перажыў разам дні пакуты, голаду—раскрыжаваліся. Ён здрадзіў інтарэсам рабочае клясы, стаў дапаможнікам кулацкае дзейнасьці, нацыяналістычным агентам. Чорны разьбівае ідэі адзінае нацыянальнае еднасьці людзей.

Ідэі раскрыжаваньня праводзяцца на ўсіх асноўных вобразах раману—на надзвычайна цікавым вобразе кулака Нахлябіча і яго сына.

Гэтым кулаком супрацьстаўляецца шлях клясавага самаўсьведамленьня беднякоў Андрэя і Зыдара Пніцкіх. Раскрыжоўваюцца пэўным чынам і шляхі Зыдара і Андрэя Пніцкіх, адзін з іх працуе на будаўніцтве гіганта, другі—на сельскай гаспадарцы. Рост клясавае сьвядомасьці Зыдара ідзе хутчэйшым чынам ніж Андрэя.

Раскрыжаваньне шляхоў усіх гэтых людзей адбываецца на фоне сьмерці старога, і будаўніцтва прамысловага гіганта, калектывізацыі сельскае гаспадаркі. Раман «Ідзі. Ідзі», такім чынам, нанёс першы сур'ёзны удар па мінулых асновах творчасьці Кузьмы Чорнага, бо аўтар тут у аснове чалавечых інтарэсаў паставіў клясавасьць. Гэта першае сур'ёзнае змаганьне Кузьмы Чорнага з самім сабою за клясавасьць пры паказе чалавечых дачыненьняў. Фізіалёгічныя дачыненьні, дружба, варожасьць, зайздрасьць, любоў, нянавісьць—падпарадкаваны клясавай існасьці чалавека.

Больш таго, можна сказаць, што ў некаторых момантах Чорны перагінае нават у другі бок. Ёсьць у яго ў гэтым рамане тэндэнцыі зусім закрэсьліць біалёгічную крэўнасьць людзей, што зьяўляецца няправільным.

Раман «Раскрыжаваньне» мае на сабе адлюстраваньне характэрнае для пэрыяду перабудовы ў творчасьці Кузьмы Чорнага. Чорны ўзяў у гэтым рамане цэлы шэраг, як мы бачылі, праблем і ні воднае стала і поўна не развязаў. Ёсьць тут, у рамане тэндэнцыі паказу аголеных ідэёвых схэм, так што ідэі раману не знайшлі сабе поўнага пераламленьня праз пачуцьцёвую і вобразную форму. Раман вельмі-ж раздроблены і шмат, вельмі шмат губляе ад кампазыцыйнае і сюжэтнае заблытанасьці. Гэтая кампазыцыйная і сюжэтная складанасьць была таксама сваясаблівым выхадам пісьменьніка з кампазыцыйнае і сюжэтнае павольнасьці разьвіцьця дзей у мінулай творчасьці—у дынамічнасьць, у работу над паказам шматграннага і шматвобразнага руху падзей, але выхадам няўдалым і пабудаваным на памылковых асновах.

«Работа перамолвае людзей, у які бок ідзе работа, у той бок хіліцца чалавек. Нашы людзі ня лішне маглі дагэтуль хіліць сваю работу ў той бок, у які самі захочуць. Гэтак жылі ўсе. А хто спрабаваў, таго або ламала, або адкідала назад».

Аповесьць «Вясна» і паказвае, як працэс калектывізацыі вёскі зьмяняе псыхіку, увесь пабытовы ўклад сялянскага жыцьця, як работа перамолвае людзей, як нараджаюцца новыя чалавечыя пачуцьці, новыя людзкія дачыненьні.

Аповесьць «Вясна» была другім значным і ўпэўненым крокам у творчай перабудове Кузьмы Чорнага. Тое, што яскрава вызначаецца ўжо ў «Раскрыжаваньні», тут знайшло далейшае разьвіцьцё. Змаганьне за клясавасьць пры паказе людзкіх адносін атрымлівае ў аповесьці найбольш яскравае выражэньне. Канец бязвольнаму, пасыўнаму, пакорнаму, прыгнечанаму чалавеку. Гэты чалавек не ахоплены жахам, роспачу перад будучыняю. Канец «думающему» чалавеку, пачатак чалавека «созидающего». Гэты чалавек цьвёрда ведае свае мэты. Гэты чалавек ведае, хто яго клясавы вораг і хто яго прыяцель. Ён, гэты чалавек, не стаіць на варце прытупленьня клясавага антаганізму і пропаведзі клясавага спакою, чалавек знаходзіць сам сябе, выяўляе найбольш поўна сябе, выходзіць з гібеньня на вялікі шлях будаўніцтва толькі ў змаганьні з сваімі ворагамі.

Бядняк Ладымер ня лічыць кулака Банадыся сваім клясавым братам, так як гэта Мацей у «Зямлі» лічыць Сабастыяна. Ладымер на словы Банадыся, што ўсё трэба спродваць, бо варочаецца паншчына—арганізуюцца калгасы—адказвае:

«— Ну добра,—пашоў у Ладымера пярэпалах з другога боку,—у цябе чатыры каровы, дык калі ты адну й прадасі, дык ліха цябе ня возьме. А я калі апошнюю прадам?»

Кулацтва ў аповесьці паказана азьвярэлым, якое эксплёатуе і зьдзекуецца над парабкамі. Парабкам у немагчымых умовах эксплёатацыі выгадаваўся Костусь—арганізатар калгасу. Ён сам ірваў каменьні на кулацкім полі, яго матка памерла ад цяжкое работы парабчанкаю, таксама як, ня выходзячы з парабкоўства,—памёр і бацька. Парабкоўства Костуся, сьмерць яго маткі паказана К. Чорным з надзвычайнаю глыбінёю псыхалёгічнаю. Але гэта не псыхалёгічнасьць, якую мы бачылі ў «Зямлі» пры паказе сьмерці Тамаша, дзе пачуцьці людзей зьнітоўваюцца, дзе ўсе людзі, і багатыя і бедныя, адчуваюць сябе біалёгічна роўнымі перад сьмерцю. Кузьма Чорны тут якраз падкрэсьлівае, што прычынаю сьмерці маткі Костуся,—зьяўляецца кулацкая эксплёатацыя.

«Мы тады дазналіся, што яна ў той дзень сьцямна скародзіла поле, пасьля адразу заправілі яе круціць жорны. Яна папакруціла іх аж цераз поўдзень. А тады паслалі яе на гару па кілбасы гаспадаровым дзецям. У галаве ў яе ад слабасьці закружылася, яна не магла адзержацца на вышках. Клець ня была застолена і яна з-пад самага даху ўпала на зямлю. Гэтак, трывогай і бядою засталося ўсё з малых год у нашай памяці».

Псыхалёгічна надзвычайна поўна перададзены адчуваньні Костуся ў дзень сьмерці маткі. Але гэта псыхалёгія клясавая, гэта адчуваньне крыўды, болю, жалю за сваё загубленае ў цяжкай працы маленства, пакутніцкія адчуваньні эксплёататуемага, жалю па матцы і нянавісьці да хутараніна, які зьдзекуецца:

«Маці мая паправіла ў галавах нябожчыцы сьвечку, моцна, з вялікаю шчырасьцю, заплакала, стала на калені і доўга малілася. На двары вусатыдзядзька—хутарскі гаспадар ладзіў воз, каб везьці нябожчыцу. Вусатаму дзядзьку памагаў ён—мой аднагодак, парабчук, сірата... Я з ганку глядзеў на яго. Ён быў маўклівы, вельмі рухавы. Між работаю ён падбег да мяне:—можа ў цябе ёсьць закурыць? Дай душу пражывіць хоць.—Гэта была рос-

пачная сталасьць і цьвёрдасьць.—Я цябе пакуру!—з халодным спакоем устрапянуўся гаспадар.—Я цябе зараз так пакуру, што ты мяне доўга памятацьмеш як курыць. Увык! Тады хлапчына адвярнуўся і сьціснуў зубы, я ўбачыў, што ён плача. Мне стала ясна: няхай бы гаспадар, хоць у гэткі момант сказаў інакш: «Ня ўвыкай, сынку, курыць з малых год». Мяне як агнём паліла страшнае пачуцьцё, якому я назвы не знаходжу цяпер».

Невялічкая, але якая з выключнаю сілаю перадае лепшыя і глыбейшыя з чалавечых пачуцьцяў, рыса на клясавай аснове набывае магутны сэнс і выклікае агнём і полымем узрошчанае замілаваньне да пакрыўджаных, эксплёатуемых. Костусь пасьля вырас у камуністага, добрага арганізатара калгасу.

Мы маем у «Вясьне» паказ як фармуюцца новыя калектывістычныя дачыненьні, новыя дачыненьні да работы. Міхалючок, сын партызана, які загінуў на грамадзянскай вайне, зьяўляецца сымбалем новага чалавека ў калгасе. Яго шануюць і любяць усе калгасьнікі як сваё дзіця. Вакол яго зьнітоўваюцца ўсе лепшыя пачуцьці калгасаўцаў.

Калі Міхалючок ляжаў хворы ўсе клапатліва даглядалі яго:

«Міхалючкова маці, Алімпа, чула, штосьці блізкае да сябе ў Мікуцёвых і Бабакавых словах. У той вечар, як Міхалючок першы раз сеў на пасьцелі, яна сьмела і спакойна выйшла на вуліцу. Сухі быў і пыльны вечар. Яна стаяла адна ля сваёй хаты. Яна думала: чаму Бабака і Мікуць гэтак абаранялі ад чужых языкоў яе Міхалючка. І нават не Міхалючка гэта. А штосьці ўсё добрае, і цяпер ёй роднае. Значыцца роднае і ім».

Рэзка клясавы падыход да рэчаіснасьці зрабілі пераварот ва ўсім творчым абліччы Кузьмы Чорнага.

Але прызнаючы за асноўнае ў «Вясьне» клясавасьць пры падыходзе да рэчаіснасьці, трэба адзначыць тыя вялікія зрывы, якія вынікаюць у Кузьмы Чорнага з невыстарчальнасьці сьветапогляду. Сам аўтар прызнае вузасьць аповесьці ў тым, што яна калектыўную апрацоўку зямлі не бярэ ў сувязі з усімі зьменамі наваколльнае рэчаіснасьці, бо калектывізацыя, як ён кажа, гэта ня толькі калектыўная апрацоўка зямлі.

Але справа, зразумела, ня толькі ў гэтым. Нават працэс калектывізацыі, працэс калектыўнае апрацоўкі зямлі Кузьма Чорны ня змог поўна і ўсебакова паказаць. Тут абмінуты, бадай, усе цяжкасьці гэтага працэсу, тыя цяжкасьці, якія шкодзілі справе ўнутры самога калгасу, тыя клясавварожыя сілы, якія пробуюць падарваць калгас знутры. Калгас у паказе Чорнага абсалютна ізаляваны ад партыйнае арганізацыі. Камуніст Костусь няправільна і аднабакова вядзе змаганьне з «лявацкімі» загібамі ў справе калгаснага будаўніцтва.

У «Вясьне», гэтак як і ў рамане «Раскрыжаваньне», ідэйная схема недастаткова выражана праз усебаковы мастацкі вобраз. Другая асноўная і вельмі важная памылка аповесьці ў тым, што яна аповесьць у поўнай адпаведнасьці з творчымі ўстаноўкамі Кузьмы Чорнага на мінулых этапах яго творчасьці, пабытовыя ўзаемаадносіны ў сям'і Рыгора, распад гэтае сям'і, пабытовыя дачыненьні калгасаўцаў ізалюе, ці правільней разьвінае толькі на фоне калгасу, з ня ў сувязі з усёю сацыяльнаю практыкаю гэтых людзей. Пабытовыя дачыненьні выглядаюць непатрэбным прыдаткам, які

перагружае аповесьць, які не садзейнічае строгай ідэёвай арганізацыі эмпірычнага матар'ялу аповесьці вакол аднае асноўнае арганізоўнае ідэі.

Падкрэсьліваньне клясавасьці ў чалавечых дачыненьнях—ёсьць адзін з самых важных і асноўных элемэнтаў у творчай перабудове Кузьмы Чорнага. Клясавасьць у паказе чалавечых дачыненьняў пранізвае ўвесь апошні раман Кузьмы Чорнага «Бацькаўшчына».

Абарона бацькаўшчыны сусьветнага пралетарыяту ад нападу імпэрыялістых патрабуе мабілізацыі ўсяе савецкае літаратуры на распрацоўку абаронных тэм на паказ гэраічнага змаганьня Чырвонай арміі, на паказ яе работы ў мірных абставінах. Але апрача ўсяго гэтага трэба літаратурным, мастацкім словам узмацняць міжнародную пралетарскую салідарнасьць, распрацоўваць праблемы інтэрнацыянальнага яднаньня пралетарыяту. З разуменьнем «бацькаўшчына» стаіць цэлы шэраг адказьнейшых і глыбокіх пытаньняў: адносіны нацыянальнага да клясавага, адносіны пралетарыяту капіталістычных краін да «свае» краіны, да свае ўяўнае бацькаўшчыны, адносіны пралетарыяту капіталістычных краін да СССР і іншыя і інш. Вялікая адказнасьць ляжыць на нашых работніках літаратурнага фронту, якія бяруцца за распрацоўку праблемы «бацькаўшчыны». Раман Кузьмы Чорнага «Бацькаўшчына» мае асноўнаю сваёю ідэяю давесьці, што ў капіталістычных умовах пралетарыят ня мае за бацькаўшчыну «сваю» капіталістычную краіну, і толькі пры існаваньні дыктатуры пралетарыяту ў СССР сусьветны пралетарыят здабыў сабе бацькаўшчыну, якую ён сваёю крывёю будзе абараняць ад нападу ворагаў. У першую чаргу раман «Бацькаўшчына» накіраваны як супроць усяе нацыянал-дэмакратычнае самабытніцкае абмежаванасьці, так і супроць элемэнтаў буржуазна-нацыяналістычнае замкнёнасьці ў межы «свайго краю», супроць культываваньня нейкае асабліваe сьвядомасьці і пачуцьцяў, якія ўласьцівы нібыта толькі «беларускаму народу», і што мы мелі на першым этапе творчасьці Чорнага. Гэтым самым раман «Бацькаўшчына» падрывае мінулыя творчыя асновы пісьменьніка. Па-другое, раман проста накіраваны супроць Кнута Гамсуна і яго раману «Валацугі», які мае ня двухсансоўны рэакцыйны характар. У рамане «Валацугі» Кнут Гамсун—разгортваючы жыцьцё двух матросаў, даводзіць, што вандроўнае жыцьцё, адарванасьць ад свае бацькаўшчыны ёсьць разбэшчваньне лепшых чалавечых пачуцьцяў, што гэтая адарванасьць ад свае бацькаўшчыны ў капіталістычных умовах ёсьць спусташэньне свайго жыцьця, ёсьць згуба для чалавецтва.

У працілежнасьць асноўнай ідэі раману Кнута Гамсуна, Кузьма Чорны ў сваім рамане даводзіць, што пры капіталістычных умовах буржуазная дзяржава ня можа стаць бацькаўшчынай ніводнага сумленнага пралетарыя, што гэтая «бацькаўшчына» голаду, галечы, беспрацоўя, шыбеніц будзе заўсёды праклінацца і таньбіцца ў сьвядомасьці рабочае клясы.

Леапольд Гушка ў рамане шукае сабе бацькаўшчыны ў Нямеччыне, у Сілезіі. Але адтуль ён, як і яго продкі, быў выгнаны за ўдзел у рэвалюцыйным руху. І Леапольд Гушка назаўсёды ў пачуцьцях сваіх пракляў Сілезію—сваю «бацькаўшчыну» голаду, жабрацтва. Гушка апынуўся ў царскай Расіі. Батрацтва, служба ў панскім маёнтку, і нарэшце выгнаны з маёнтку, ён з жонкаю і малымі дзецьмі павінен ісьці сабе шукаць новую

бацькаўшчыну. Тут пачынаюць Гушку захапляць ідэі ўласнасьці—ён імкнецца здабыць сабе свой кавалак зямлі, думаючы, што ў гэтым адзінае выйсьце і што тут ён сапраўды здабудзе сваю бацькаўшчыну. Заслуга Кузьмы Чорнага ў тым, што ён канчаткова разьбівае мары Леапольда Гушкі ў яго імкненьні да ўласнасьці. Ён надзвычайна глыбока і пераканаўча паказвае, што як Леапольд Гушка не працуе, як ён не гаруе над камяністаю неўрадлівею глебаю—мары яго на ўласнасьць разьбіваюцца, рушацца. Леапольд Гушка, як і яго сын Адась адчулі гэтую новую праклятую «бацькаўшчыну—Расійскую імпэрыю,—калі пачалася імпэрыялістычная вайна, і яны атрымаўшы падданства павінны ісьці абараняць Расію, гэтую «турму народаў», «самую горшую з царскіх імпэрый».

Леапольд Гушка марыць пра тое, што можа Сілеская «бацькаўшчына была-б шчасьлівейшай», каб ён там жыў, але яго мары разьбівае Эдвард Лявар—рабочы з Сілезіі, які сам падаецца ў палон, «бо яму няма за што ваяваць»: буржуазная Нямеччына ёсьць такая-ж турма для пралетарыяту, як і Расія.

Раман «Бацькаўшчына» ёсьць твор, які ў сваім творчым мэтадзе, ва ўсіх асноўных сваіх элемэнтах супрацьлежны і ранейшаму творчаму мэтаду Кузьмы Чорнага. Тая вёска, вёска адзіная, клясава-непадзельная, людзі якой ня ведаюць ніякага клясавага антаганізму, якую мы бачым, прыкладам, у «Зямлі» Кузьмы Чорнага—саступае мейсца новаму разуменьню вёскі. Кузьма Чорны ў дарэвалюцыйнай вёсцы паказвае на адным полюсе рост пралетарызацыі, паўпэрызацыі, аб'яднаньня сялянства, а на другім—працэс капіталізацыі, працэс нараджэньня кулацтва на Беларусі, працэс росту гэтага кулацтва, тыпу Сурвілы і Мазавецкага, якое закабаляе беднае сялянства,ператварае яго ў сваіх парабкоў і праз эксплёатацыю іх, само абагачаецца, набывае сабе вялікія гаспадаркі.

Мары старога Леапольда Гушкі ў шуканьні бацькаўшчыны ідуць праз наступныя асноўныя вузлы раману: выгнаны з свае ўяўнае бацькаўшчыны—Нямеччыны, ён хоча гэтую бацькаўшчыну здабыць у Расіі праз сумленную службу панскім парабкам. Пан праганяе Гушку, тады ўсе яго мары накіроўваюцца на свой кавалак зямлі, на падданства, але кулацтвам вёскі ён, дробны ўласьнік, быў задушаны, быў разрабаваны і, нарэшце, на сваёй сыгіне адчуў гэтую бацькаўшчыну тады, калі трэ' было ісьці на імпэрыялістычную вайну. Так мары Леапольда Гушкі бязьлітасна разьбіваюцца ходой аб'ектыўнай рэчаіснасьці.

Інакшым шляхам здабывае сваю бацькаўшчыну сын Леапольда Гушкі Адась Гушка. Яго шлях—гэта шлях рэвалюцыянэра, шлях бальшавіка. Адась Гушка—чалавек, які ўцёк з панскага маёнтку, і які ўпяршыню адчуў у сабе вялізарную сілу і ўпэўненасьць, калі на фоне ночы, падобны на тысячы такіх-жа як ён рабочых, стаяў нагамі ў анучах з молатам у руках, які прайшоў праз франты імпэрыялістычнае і грамадзянскае вайны, праз турму, баі ў Кастрычніку. На гэты шлях, шлях рэвалюцыйнага змаганьня ў час польскай акупацыі ідзе і Леапольд Гушка і сотні іншых сялян, якія ў рэвалюцыйным змаганьні здабываюць сабе сваю бацькаўшчыну, і гэтую бацькаўшчыну, здабытую сваёю крывёю. Леапольд Гушка як і Павел Няміра пры савецкай уладзе знайшлі ў калгасе, у актыўнай савецкай рабоце.

Кузьма Чорны ў рамане «Бацькаўшчына» супроцьстаўляе дзьве краіны—краіну Саветаў і Польшчу, паказвае, як увесь рэвалюцыйны пралетарыят Польшчы лічыць С. С. С. Р. сваёю бацькаўшчынай.

Вось асноўнае ў рамане «Бацькаўшчына».

Праблема, якую падымае на выращэньне Кузьма Чорны, вельмі вялікая, сур'ёзная, і глыбокая.

Як-жа вырашыў яе Кузьма Чорны.

Творчы мэтад Кузьмы Чорнага ў гэтым рамане супроцьлеглы мэтаду пасывізму ў мінулай яго творчасьці. У Чорнага тут дзейнічае, жыве і змагаецца чалавек клясавы, яго мэты акрэсьленыя, ніякія «агульначалавечыя» псыхалёгічныя пачуцьці, альбо біалёгічная крэўнасьць ня можа гэтаму чалавеку замяніць яго клясавых інтарэсаў. Кузьма Чорны ў рамане не ігнаруе і побытам, але гэта ёсьць не ўцяканьне ў вузка пабытовае жыцьцё, каб абмежаваць сябе ад паказу клясавых інтарэсаў чалавека, як гэта мы маем і ў «Зямлі» і ў «Лявоне Бушмары», а наадварот побыт, пабытовыя ўзаемадачыненьні асьвятляюцца, ставяцца ў залежнасьць ад клясавых людзкіх адносін. У Рамане Кузьма-Чорны разгортвае глыбокі паказ псыхалёгіі людзей. Але гэта такі паказ, дзе псыхалёгічныя адчуваньні, думкі і настроі залежаць ад клясавае практыкі, вынікаюць з клясавае практыкі.

Поўны паказ клясавага змаганьня стварыў і новыя дачыненьні да беднага сялянства на вёсцы. Мы памятаем, што ў паказе Кузьмы Чорнага ў рамане «Зямля» адзіны шлях бедняка Мацея пры Савецкай уладзе—гэта гібеньне ў голадзе, галечы. У рамане «Бацькаўшчына» шлях беднага сялянства ляжыць праз змаганьне пад кіраўніцтвам рабочае клясы за пралетарскую дыктатуру да калектыўнай сельскай гаспадаркі на новых эканамічных, сацыяльных асновах.

У рамане «Бацькаўшчына» замест псыхалёгічных профіляў, замест псыхалёгічных схэм, мы маем не пасыўных, а дзейных клясавых людзей.

Паказ працэсу фармаваньня бальшавікоў у вобразе Адася Гушкі, Рыгора Чуйкі і інш. мае вялікае значэньне ня толькі для самога творчага росту Кузьмы Чорнага, але і для ўсяе нашае літаратуры.

Разглядаючы «Бацькаўшчыну» Кузьмы Чорнага мы кажам: у вырашэньні асноўнае вялізарнейшае праблемы нашага часу, праблемы бацькаўшчыны сусьветнага пралетарыяту Кузьма Чорны стаіць на пазыцыях рэвалюцыйнага пралетарскага сьветапогляду. Па-другое, самы факт распрацоўкі такіх вялізарнейшых праблем нашага часу сьведчыць пра вялікі ідэёвы і мастацкі рост нашае літаратуры. У жанравым сэнсе рамкі аповесьці, вызначаныя аўтарам ідэёвай значнасьцю і глыбінёю распрацоўкі тэмы разгортваюць аповесьць у раман.

Аднак, ці льга сьцьвярджаць, што «Бацькаўшчына» ёсьць поўнае аўладаньне пралетарскім сьветапоглядам? Так сьцьвярджаць памылкова і шкодна. Гэтак сьцьвярджаць, значыць забыцца на ўсю мінулую творчасьць Кузьмы Чорнага на ўвесь той цяжкі шлях, які ён прайшоў.

Раман «Бацькаўшчына» мае першаю сваёю памылкаю тое, што рост вобразаў бальшавікоў Чорны паказвае як адзінкавых, не зьвязаных

і ізаляваных ад усіх бальшавіцкіх арганізацый, ад усяго пралетарыяту. Такімі, менавіта, зьяўляюцца і Адась і Рыгор Чуйка. Акрамя гэтага, працэс росту бальшавікоў, як уся другая і трэцяя частка аповесьці, мае ў сабе вельмі значныя элемэнты схэматычнага паказу і не выстарчальнай разгорнутасьці падзей, вобразаў і характараў людзей. У аповесьці не паказана, як з Адася—маёнткавага парабка, чалавека псыхалёгічна замкнёнага ў сабе, які вельмі неакрэсьлена разумее рэвалюцыйныя задачы—нараджаецца рэвалюцыянэр, як ён перамог адмоўныя бакі свайго характару, бо напрыклад, будучы парабкам у маёнтку, ён замест таго, каб весьці тут рэвалюцыйную работу, раптоўна, няма ведама з якіх прычын выходзячы, пакідае маёнтак і ідзе працаваць на шашу. А пасьля мы ўжо адразу сустракаем яго як закончанага рэвалюцыянэра. Як Рыгор Чуйка стаў падпольным бальшавіцкім работнікам, зусім не паказана. А галоўнае, абодва гэтыя бальшавікі не паказаны ў асяродзьдзі рабочае клясы, у іх рабоце. Тут. У гэтай адарванасьці рэвалюцыйных работнікаў ад пралетарыяту мы маем элемэнты спадчын ад мінулай «ізаляцыі» людзей ад практыкі сацыялістычнага будаўніцтва ў творчасьці Кузьмы Чорнага. Але найбольш, спадчына пасывізму, замкнёнага псыхалёгізму, праявілася ў Кузьмы Чорнага ў паказе старога Няміры. Гэты вобраз ёсьць просты працяг тых вобразаў бездапаможных пакутнікаў, якія былі на першым этапе творчасьці Чорнага, а між іншага ў мастацкім сэнсе ён у рамане найбольш закончаны вобраз. Стары Няміра пакутуе, але ня супраціўляецца, над ім зьдзекуюцца, а ён на ўсё адказвае ціхаю нейкаю жабрачаю пакораю, і ён інстыктыўна цягнецца да Савецкага Саюзу (знаходзіцца ён у Польшчы), але яго туды цягне свой кавалак зямлі, уласнасьць, свая радня. Ён свайго не дасягнуў. Так ён і застаўся прагнаным адусюль жабраком пад касьцёламі, з выцягнутаю рукою і з запалам у вачох, накіраваных на Ўсход, але бясьсільным што кольвек зрабіць.

Нарэшце, ідэалістычныя элемэнты творчага мэтаду выражаны яшчэ ў тым, што вельмі часта паказ рэчаіснасьці, працэсу, ідэі, рэчы, альбо стану рэчы робіцца ў Чорнага праз суб'ектыўнае імпрэсыяністычнае ўспрыйманьне або самога аўтара, або дзейнае асобы (так напрыклад, беднасьць Леапольда Гушкі, яго разбурэньне, паказана праз суб'ектыўнае ўспрыйманьне ягонай жонкі), а гэтым не заўсёды поўна перадаецца аб'ектыўны стан рэчаў па-за нашымі пачуцьцямі.

Зразумела, рэзка адмоўным трэба лічыць тое, што выхад Кузьмы Чорнага на вырашэньне такое важнае ідэёвае праблемы меў значную даніну і схэматызму. Ад Кузьмы Чорнага мы маем права патрабаваць, больш як ад каго другога, паказу глыбокага, шматграннага і ўсёбаковага. А для кожнага, хто знаёмы з раманам «Бацькаўшчына», зразумела, што ў другой і трэйцяй частцы пісьменьнік вельмі-ж ігнаруе гэтую шматграннасьць і шматбаковасьць паказу рэчаіснасьці.

Усё намі адзначанае ня зьніжае таго значэньня, якое мае раман «Бацькаўшчына» для творчага разьвіцьця як Кузьмы Чорнага (выхад пісьменьніка ў кола тэм, вобразаў і пачуцьцяў новага чалавека, у кола сусьветна-гістарычных праблем нашага часу), так і для Беларускае савецкае літаратуры. Гэта адзін з самых вялікіх твораў савецкае літаратуры БССР.